*с нея же все доброе всякому собранию приходит, незгода бо и найболшие царства разрушает*»[1].

Вельмі істотнае месца ў Ф. Скарыны займала *філасофска-тэалагічная* праблематыка. Пры вырашэнні найскладанейшай тэалагічнай праблемы пра сутнасць Абсалюту беларускі экзегет прытрымліваўся трынітарнай канцэпцыі, паводле якой адзіны праўдзівы Бог — Святая Тройца — Бог Айцец, Бог Сын і Бог Святы Дух. Тры Божыя персоны, або іпастасі — адзінасутнасныя, маюць агульную прыроду.

Ф. Скарына выступаў супраць манаполіі іерархаў Царквы на права тлумачыць і пашыраць «Біблію». Такім чынам, падобна іншым заходнееўрапейскім гуманістам, ён рыхтаваў тэарэтычную глебу для Рэфармацыі. Менавіта гэтая рэфарматарская ідэя была падхоплена пратэстантамі. Многія з іх, не маючы царкоўнага сану і, галоўнае, дазволу вышэйшых духоўных улад, браліся за пераклады і выданні Святога Пісання на народных мовах.

Значнае месца ў творах Ф. Скарыны займала праблема *міжканфесійных і міжцаркоўных дачыненняў*. Аналіз зместу яго прадмоў, пасляслоўяў і надпісанняў да раздзелаў, а таксама асаблівасці яго перакладаў біблейных твораў паказваюць на тое, што славуты гуманіст быў актыўным прыхільнікам і прапагандыстам ідэі царкоўнай і канфесійнай уніі ў межах хрысціянства. Беларускі асветнік лічыў цалкам пераадольнымі адрозненні паміж Каталіцкім Касцёлам і Праваслаўнай Царквою. Шматлікія выказванні Ф. Скарыны красамоўна сведчаць пра яго захопленасць якраз ідэяй задзіночання Хрыстовай Царквы ці, прынамсі, глыбокага міжканфесійнага паразумення і дыялогу.

Такім чынам, у творчасці Ф. Скарыны арганічна спалучаліся заходняя філасофія і ўсходнія літаратурныя традыцыі, пад уздзеяннем якіх фарміравалася беларуская нацыянальная літаратура і культура.

Ф. Скарына аказаў грандыёзны ўплыў на развіццё беларускай і ўсёй усходнеславянскай кніжна-пісьмовай культуры, літаратуры, філалагічнай думкі, філасофіі, выступаючы як наватар і першаадкрывальнік у многіх галінах і сферах.

---

[1] Скарына, Ф. Коринфом первого послания светого апостола Павла сказание доктором Франциском Скориною с Полоцка Богу ко чти и людем к навчению починается / Ф. Скарына // Книга Деания и посълания апостольская, зовемая «Апостол». — Вільня, 1525.

**Уладзімір Кароткі** *(Мінск, Беларусь)*

# *EGO* І *ALTER EGO* ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

У кніжнай культуры Беларусі вельмі рэльефна прасочваецца, з аднаго боку, праваслаўная, з другога — каталіцкая (да якой з XVI ст. прымыкае як прадуцэнт каталіцкай і рэфармацыйная) плыні. Разам з тым, у XVI–XVII стст. адбываецца не скрыжаванне гэтых плыняў, а іх узаемадачыненне, пры гэтым хутчэй на фармальна-структурным, чым на ідэйна-сузіральным узроўні. Гэтым тлумачыцца цяжкасць вызначэння якой-небудзь адной ідэйна-мастацкай плыні ў культурных эпохах Рэнесансу ці Барока. Да ліку нашых культурных звычак можна аднесці трывалае, я б сказаў, топаснае вызначэнне старажытных дзеячаў айчыннай пісьмовай культуры як «пісьменнік», «філосаф», «гісторык», «паэт», «лінгвіст», «філолаг», «мысляр» і да т. п. Аднак пры адносна вялікай колькасці старабеларускіх творцаў іх самавызначэнне было даволі неакрэсленым.

Адным з першых вызначыў «трудников» слова Кірыл Тураўскі ў «Слове на сбор святых отец 300 і 18»: «Яко же историци и ветия, рекше летописьци и песнотворци, прикланяють своя слухи в бывшая межю цесари рати и въпълчения, да украсять словесы и възвеличать мужьствовавъшая крепко по своемь цесари и не давъших в брани плещю врагом, и тех славящее похвалами венчають, колми паче нам лепо есть и хвалу к хвале приложити храбром и великым воеводам Божиям, крепко подвизавъшимъся по Сыне Божии, своемь цесари, и Господе нашемь Иисусе Христе» [2, с. 367]. Відаць, для творцы ранняга Сярэднявечча было табуявана і самавызначэнне «учитель». Той жа Кірыл у канклюзіі «Прытчы пра чалавечую душу і цела» падкрэслівае: «…несмь бо учитель, якоже они церковнии мужи о Христе Иисусе Господе нашем…» [2, с. 440]. Нават для барочных пісьменнікаў XVII ст. слова «учитель» набывала дадатковую семантычную канатацыю. На гэта справядліва звярнуў увагу А. М. Панчанка, заўважыўшы, што «…барочный писатель был проблемой. Коль скоро он объявляет себя учителем, значит, претендует на духовные полномочия… Иначе говоря, “аксиоме поэта” еще предстояло сложиться и войти в обиходную культуру, в сознание среднего человека» [5, с. 210].

І гэта справядліва. Сапраўды, практычна да XVI ст. беларускамоўная пісьмовая культура не ведае самавызначэння «пісьменнік» ні ў духоўным сане, ні ў свецкім стане. Нават Сімяон Полацкі, духоўная асоба, адзін з першых, паводле сучасных вызначэнняў, прафесійных паэтаў эпохі Барока, акрэслівае сябе як «делатель Симеон Полоцкий».

Разам з тым, найперш лацінамоўныя, а потым і польскамоўныя паэты Беларусі лічаць сябе прыналежнымі менавіта да сонму літаратараў. Так, Ян Вісліцкі хоча быць трэцім побач з двума вучнямі Паўла Русіна з Кросна,

вядомымі польскімі паэтамі Янам Дантышкам (poeta-laureatus) і Крыштафам Сухценем. Выхаваныя на заходнееўрапейскай культурнай традыцыі лацінамоўныя і польскамоўныя паэты эпох Рэнесансу і Барока лічылі паэта другім богам, а значыць — творцам. Нават маскоўскія кніжнікі «заходніцкай», паводле вызначэння А. М. Панчанкі, арыентацыі «вслед за Скалигером и Сарбевским… считают поэта вторым богом, уподобляют Слово как первоэлемент литературы Логосу» [5, с. 223]. Сапраўды, Мацей Казімір Сарбеўскі ў сваім вядомым трактаце «Пра дасканалую паэзію, або Вергілій і Гамер» пісаў: «Аднак толькі паэзія паводле сваіх функцый больш за ўсё набліжаецца да самага выдатнага з усіх відаў дзейнасці — стварэння, якое ўласціва Богу» [цыт. па: 4, с. 228]. Як бачым, задача азначэння пісьменніцкай працы для айчынных старажытных творцаў была даволі складанай.

Дык хто ж стаяў ля вытокаў прафесійнай пісьменніцкай дзейнасці на Беларусі, ды яшчэ на мове беларускай? Прафесійная дзейнасць прадугледжвае найперш адыход ад карпаратыўнасці і ананімнасці. Прафесіянал удзельнічае ў культурным спаборніцтве, нават калі ён гэтага не дэкларуе і не заяўляе пра гэта; ён — слуга: у шырокім сэнсе — свайму народу, а ў вузкім — пэўнаму колу асоб ці асобе, якая зацікаўлена ў падобнай творчасці. Прафесійная дзейнасць творцы заўсёды кантэкстуальная і дэтэрмінаваная, яна заўсёды запатрабаваная, няхай і на вельмі кароткі тэрмін. Першыя беларускамоўныя творцы слова — хутчэй практыкі, а не тэарэтыкі. Гэта асабліва востра адчуваецца сярод праваслаўных прафесіяналаў-кніжнікаў, ці творцаў, чыя дзейнасць накіравана на праваслаўнага адрасата. Для ўсходнеславянскай, пазней праваслаўнай, мадэлі творчасці, вызначанай яшчэ з часоў Кірыла і Мяфодзія, была ўласцівая сабornasць успрыняцця. Напісанае імі ўспрымалася як штосьці адзінае для славянскіх, найперш праваслаўных, народаў. Сербы, балгары, украінцы, пазней беларусы і рускія, па першым часе ўспрынялі толькі адну частку пісьмовай культуры ўсходняга хрысціянства — Богам адухоўленую, да якой, зразумела, не маглі адносіцца здабыткі класічнага перыяду старажытнагрэчаскай і старажытнарымскай літаратур. Кніжнікамслухачом становіцца вялікі князь кіеўскі Уладзімір, яго сын Яраслаў сам піша (ці перапісвае?) кнігі: «…и многы написав, положи в Святей Софьи церкви, юже созда сам» [цыт. па: 5, с. 107]. За пісанне кніг у Святой Сафіі Полацкай бярэцца святая Еўфрасіння Полацкая: «и нача писати книгы своими руками» [2, с. 46]. Разам з тым, ніхто з іх не атаясамліваў сябе з асобай творчай. Не рабілі гэтага і тыя, хто пісаў пра іх. Для творцаў XI–XIII стст. найважнейшым прадметам заклапочанасці была культурная інтэграцыя ў новы для іх хрысціянскі свет. У свой час А. Мельнікаў у дачыненні да Кірыла Тураўскага справядліва адзначаў: «Называючы сябе коласазборцам, а не жняцом (алюзія на кнігу “Руф”), Кірыл зусім не прымяншаў сваё значэнне як літаратара.

Ён проста падкрэсліваў падобнымі выразамі, што ў яго мэту не ўваходзіць стварэнне арыгінальнага тэксту» [2, с. 112].

Цяпер звернемся да азначанай у загалоўку праблемы. Дык хто ж мог ствараць, выдаваць тэксты, падобныя тым, якія друкаваў Скарына? Пойдзем ад адваротнага. Васіль Цяпінскі ў сваёй прадмове да «Евангелля» адзначае, што не ён, свецкая асоба, павінен быў выдаваць Богам адухоўленую кнігу, а тыя, «которым бы то властней учинити пристоело — митрополитове, владыки» [6, с. 33] або хтосьці з вучоных. І далей аўтар піша, што ён, які выдаў гэтую кнігу, — «не влох, не немец, або не доктор и ниякій постановеный межи попы». Зразумела, што Васіль Цяпінскі не з'яўляўся праваслаўным дзеячам. Але надрукаваная ім кніга прызначалася найперш для праваслаўных, якіх ён хацеў бачыць пратэстантамі. І тут ён лічыць сябе прадаўжальнікам справы Кірыла і Мяфодзія, перакладчыцкая дзейнасць якіх была накіравана на хрысціянскую культуру славянскіх народаў, сярод якіх ён называе ў першую чаргу пазнейшыя праваслаўныя народы — сербаў, маскавітаў, валохаў, балгар. Так і Францыск Скарына, друкуючы свае Богам адухоўленыя кнігі, меў на ўвазе найперш праваслаўнага чытача і выбіраў іх суадносна з духам праваслаўнай аксіяматыкі. Так, у прадмове да першай кнігі «Царстваў» ён заўважае: «Яко греком царь, Фороней именем, наипервей права пописал, египтяном — Меркурий Тримеист, афинеаном — Солон философ, ляцедимоняном же — Лигург, царь их, а римляном — Нума Помпеиус, он же был ест вторый по царю Ромуле. И тым тежь обычаем иnии цари или люди мудрыи иным народом неякии книги, писма, уставы, права, науку или закон оставили суть. Их же всех для краткости не ест потреба ту припоминати. Нам теже хрестианом не суть тыи писма их потребны чести, но толико книги ветхаго и новаго закону, иже прилежать к нашему спасению» [7, с. 32]. Я ні ў якім выпадку не стаўлю пытання пра веравызнанне Францыска Скарыны. Для мяне важная аксіяматыка традыцыі. Як тут не ўзгадаць апалагета праваслаўя, малодшага сучасніка Скарыны, Іяана Вішанскага! Звяртаючыся да сваіх суайчыннікаў, ён пісаў: «Не лучше ли тебе изучить Часословец, Псалтырь, Октоих, Апостол, Евангелие и быть простым богоугодником и приобресть вечную жизнь, чем постигнуть Аристотеля, Платона и прослыть в сей жизни мудрым философом, а потом отойти в геен? Рассуди сам: лучше ни аза не знать, да к Христу достигнуть…» [1, с. 121–122]. Падобныя заявы можна сустрэць і ў творчасці такога праваслаўнага інтэлектуала, як Кірыл Транквіліён-Стаўравецкі. Так, у прадмове да кнігі «Зерцало богословия» пісьменнік фармулюе своеасаблівы і паслядоўны, на думку Ж. Некрашэвіч-Кароткай, шлях інтэлектуальна-духоўнага станаўлення асобы: «Наимилший и ласкавший читателю, в первых познай Творца своего яко есть дивный и великий… Повторе познай самого себе яко естесь так дивное и разумное створеня…» [цыт. па: 3, с. 322].

З падобных інвектыў Францыска Скарыны, Іяана Вішанскага, Кірыла Транквіліёна лягчэй за ўсё было б зрабіць выснову пра славутую адсталасць усходнеславянскіх кніжнікаў. Між тым, сёння агульнапрызнаная іх высокая адукаванасць. Аднак з іх пункту гледжання (а ён цалкам адпавядае сярэднявечнай праваслаўнай аксіяматыцы) інтэлект і маральныя заслугі — розныя з'явы. Веды самі па сабе нічога не значаць, паколькі ад іх не залежыць выратаванне душы.

Разам з тым, ці стасуюцца з вышэй згаданым неаднаразовыя самавызначэнні Францыска Скарыны як «доктара», «вучонага мужа» і г. д.? У прадмовах ён — не проста «вучоны муж», а паслядоўнік вучоных мужоў тыпу Іераніма, які стварыў лацінскі пераклад Бібліі (Вульгата), кананізаваны ў 1545 г. Саманазовы «доктар», «избранный муж» — сведчанне абранасці яго Богам менавіта для духоўнай місіі. Паслядоўнікі Францыска Скарыны ў прадмове да кнігі «Новага Запавету» (Еўе, 1611) адзначалі: «А нават и сами докторове римское, яко святый Амбросий, Героним, Августын и иншые, автентики и оригиналы писма кгрецкого над латинские прекладаючы, достовернейшые бытии поведают и в розницах вшеляких до тексту кгрецкого, яко до самого жродла, с которого преклад латинский выплынул, утекатися росказуют» [6, с. 57]. Значыць, у праваслаўнай царкве каштоўным з'яўляецца толькі той доктар (няхай і «церкви римское»), працы якога вядуць да духоўнага выратавання.

Больш складанае пытанне пра суадносіны «саламонавай» і «арыстоцелевай» мудрасці ў разуменні Францыска Скарыны. Думаю, што Арыстоцель у дадзеным выпадку сімвалізуе «жыццёвую мудрасць» і толькі. У прадмове да кнігі «Ісус Сірахаў» Ф. Скарына адзначае: «И елико крат в ней будеши чести, по кажном чтении новаго нечто научишися, чего жь есь пред тым не умел, вся бо Саломонова и Арестотелева божественная и житейская мудрость в сей книзе краткыми словы замкнена ест» [6, с. 24]. А што такое мудрасць у яе канфесійным разуменні, лепш за ўсё растлумачылі выдаўцы вевіскай «Дзіоптры» 1612 г.: «Хто ся (мовечы) до філозофіі (то ест до бога, філозофія бовем любленіе мудрості, а бог найвышшею ест мудростію) удать хочет, с тела того земного, іле речь можна, як з сукні вызутся, а неумеетность свою якое наволоку неякую скінуті мает, которая згибели возом, живою смертию, чулым албо смысльным трупом, латво похилым гробом и домовым ест злодеем, который кгды похлебит, — ненавидит, а, ненавидечы, в земные дрожчи втручает и до болота прилепляет, якобы человек не засегал небесного розуму» [6, с. 60]. Значыць, той, хто не пазнае Бога, не дасягне нябеснага розуму, нябеснай дасканаласці.

Такім чынам, Францыск Скарына — не «учітель», не «віція» ці «летапісец», а «вучоны муж». Яго перакладчыцкая і выдавецкая праца — вынік дзейнасці доктара-інтэлектуала, які найперш з Боскіх кніг пачарпнуў сваю жыццёвую мудрасць і з іх жа дапамогай удасканаліў свой розум.

## Літаратура

1. Короткий, В. Г. Творческий путь Мелетия Смотрицкого / В. Г. Короткий. — Минск: Наука и техника, 1987.
2. Мельнікаў, А. А. Кірыл, епіскап Тураўскі: Жыццё. Спадчына. Светапогляд / А. А. Мельнікаў. — Мінск: Беларуская навука, 1997.
3. Некрашевич-Короткая, Ж. В. Quinta essentia христианской гомилии в понимании о. Казимира Виюка-Кояловича SJ и современных ему представителей «греко-славянского» типа проповеди / Ж. В. Некрашевич-Короткая // Senoji Lietuvos literatūra. — № 27. — Vilnius: Lietuvių literatūros ir tautosakos institutes, 2009. — S. 309–349.
4. Некрашэвіч-Кароткая, Ж. В. Беларуская лацінамоўная паэзія: ранні Рэнесанс / Ж. В. Некрашэвіч-Кароткая. — Мінск: БДУ, 2009.
5. Панченко, А. М. Русская история и культура: Работы разных лет / А. М. Панченко. — СПб.: Юна, 1999.
6. Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны / уклад. У. Г. Кароткага. — Мінск: Навука і тэхніка, 1991.
7. Францыск Скарына. Творы: Прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія / уклад. А. Ф. Коршунава. — Мінск: Навука і тэхніка, 1990.

**Сяргей Гаранін** *(Мінск, Беларусь)*

# КНІЖНАЯ ТРАДЫЦЫЯ SLAVIA ORTHODOXA Ў ВКЛ І ПЕРАКЛАДЫ РЭЛІГІЙНАЙ ЛІТАРАТУРЫ Ў XVI СТ.: КАНЦЭПЦЫІ І НАПРАМКІ

У канцы XIV — першай палове XV ст. актывізацыя перакладчыцкай і пісьмовай справы на ўсходнееўрапейскім культурным арэале звязваецца з Другім паўднёваславянскім уплывам, які паслужыў імпульсам для ажыўлення грамадскай думкі і развіцця літаратуры. Ажыццяўляюцца новыя або рэдагуюцца ранейшыя пераклады агіяграфічных і павучальных твораў, выпраўляюцца ў адпаведнасці са старажытнымі ўзорамі тэксты богаслужбовых кніг і да т. п.

Аднак у дачыненні да Біблii ўсходнеславянскія паслядоўнікі тырнаўскай кніжнай рэформы рэалізуюць толькі адну з канцэпцый у адносінах да свяшчэннага тэксту. Сапраўды, узнікненне Бібліі і фарміраванне канона біблейскіх кніг з самага пачатку суправаджалася як мінімум дзвюма асноўнымі тэндэнцыямі ў развіцці грамадскай — ці, датычна нашай тэмы, рэлігійна-філалагічнай — думкі. Яшчэ ў IV ст. епіскап Ульфіла (прыхільнік арыянства) пераклаў Біблію на гоцкую, «варварскую», мову, у 405–406 гг. армянскі манах-асветнік Месроп Маштоц ажыццявіў пераклад Бібліі на старажытную армянскую мову, а да канца VI ст. Біблія была перакладзена ўжо болей чым на пяцьсот «варварскіх» моў. Гэтую тэндэнцыю можна ўмоўна назваць «асветніцкай». Яна ўзыходзіла да старажытнаіудзейскіх таргумаў — перакладаў-тлумачэнняў сакральных тэкстаў, чым правамоцнасць гэтай традыцыі і абгрунтоўвалася. Як правіла, пераклады рабіліся ў неправаверным асяроддзі (арыянамі, нестарыянамі і інш.). У выніку недакладнасцей перакладаў і недасканаласці «варварскіх» моў сутнасць свяшчэннага тэксту скажалася. Таму ўжо ў 600 г. у Заходняй Еўропе выкарыстанне перакладных тэкстаў Бібліі было абмежавана Вульгатай, а пасля практычна забаронена. Вядома, забарона не была канчатковай і паслядоўнай, часам Касцёл дазваляў рабіць пераклады (у XIII ст. Парыжскі пераклад на французскую мову, у XV ст. пераклады Нікола дэ Малербі на італьянскую, Анджэя з Яшовіц на польскую і інш.). Аднак актывізацыя «асветніцкай» тэндэнцыі падчас позняга Сярэднявечча і перадрэнесансу ў Еўропе была, несумненна, звязана з ерасямі. Развіццё аналітычнага мыслення, рацыяналізму, з'яўленне перадрэфармацыйных рухаў і абуджэнне самасвядомасці асобы вялі да спроб рабіць аўтарскія пераклады Бібліі яшчэ да пачатку Рэфармацыі (1380 г. Англійская Біблія Дж. Вікліфа, Чэшская Біблія, Біблія Эразма Ратэрдамскага 1516 г. і інш.). У кантэксце нашага паведамлення адзначым толькі два важныя аспекты: калі раннія пераклады Бібліі на «варварскія» мовы служылі прычынай ерасяў, то

познія самі з’яўляліся іх вынікамі, а з іншага боку, пашырэнне перакладаў на нацыянальныя мовы было звязана з фарміраваннем еўрапейскіх нацый і станаўленнем нацыянальнай самасвядомасці еўрапейскіх народаў.

Калі на Захадзе хрысціянізацыя адбывалася даволі рана і, па меншай меры, ужо з IX ст. без прамой залежнасці ад таго, былі кананічныя тэксты даступныя масе веруючых ці не, то на Усходзе моўны фактар адыгрываў істотную ролю ў распаўсюджанні хрысціянства. Усходняя царква не забараняла рабіць пераклады кананічных кніг Біблії на мовы, зразумелыя насельнікам Усходняй Еўропы. Так узніклі стараславянскі, грузінскі і іншыя пераклады. Аднак дазваленне на пераклад не азначала непасрэднага права на пераклад усяго тэксту Біблії. Тэксты, рэкамендаваныя да перакладу, абмяжоўваліся тым фондам, які адлюстраваўся ў славянскіх і старажытнарускіх апракасных Евангеллях і Псалтыры, Парэмійніку, Палеі, некаторых дыдактычных зборніках, а таксама цытатах, уключаных у жыціі святых, творы айцоў Царквы, якія служылі для патрэб набажэнства і элементарнага павучання веруючых. Верагодна, што візантыйцы не лічылі тэксты Біблії не на старагрэчаскай мове «паўнацэннымі». Напрыклад, пры Васілію II Балгарабойцу візантыйцы палілі стараславянскія кнігі, нягледзячы, што гэтыя кнігі належалі адзінаверцам. Магчыма, стараславянская мова дапускалася Канстанцінопальскім патрыярхатам для перакладу Біблії ў якасці, так бы мовіць, «прамежкавай», прызначанай для акармлення і павучання «немаўлят у веры», якім адрасаваўся толькі мінімум звестак.

Таксама і Старажытная Русь не атрымала поўнага спісу вялікай Кнігі. Варта здзіўлення і ўдумлівага асэнсавання тое, што рэлігійная культура ўсходнеславянскага Сярэднявечча, згодна з уяўленнямі якой свяшчэнныя тэксты ўтрымлівалі ўсе даступныя пазнанню звесткі пра вышэйшую ісціну, а сам Сусвет, яго мінулае, яго цяперашняе і будучае, нават самі яго законы разумеліся толькі ў біблейным кантэксце, — гэтая тэацэнтрычная па самой сваёй сутнасці культура не ведала поўнага тэксту Біблії на даступнай мове болей за пяцьсот гадоў свайго існавання!

Зразумела, што паколькі з’яўленне самой Септуагінты было ахутана легендай і лічылася вынікам Боскага Адкрыцця, то іншыя пераклады такой святасці не мелі, і ніякія доказы адносна Боскага паходжання любых, у тым ліку і Кірыла-Мяфодзіеўскага, перакладаў прымацца да ведама не маглі. Царква чакала Адкрыцця… І, мусіць, ужо толькі пасля Грыгорыя Паламы тырнаўцы ўсё сур’ёзней пачалі меркаваць і верыць, што і старажытныя, з іх погляду, славянскія тэксты таксама з’явіліся ў выніку асаблівага Боскага дабрадару. Не будзе перабольшаннем сказаць, што яўфіміеўская рэформа была ў многіх адносінах кансервацыяй асвячоных традыцыяй тэкстаў з усімі адпаведнымі наступствамі (дарэчы, не адпаведнымі асновам ісіхасцкага вучэння) і містычнай сакралізацыяй самой мовы, на якой гэтыя тэксты былі напісаны.

Як вядома, ісіхасты былі схільнымі да абмежавання кампетэнцыі разумовых здольнасцей пазнаннем тварнага свету. Ісціна, веды, Фаворскае святло адкрываліся «па веры», а не ў выніку разумовага аналізу тэксту. Ад праваслаўнага чалавека на ўсходзе Еўропы патрабавалася моцная вера, а не якое-небудзь рацыянальнае веданне пра Бога, атрыманае ва ўніверсітэце ці ў школе. Паколькі веры і Ісціне нельга навучыцца (бо яны даюцца ў сінергіі, у «працы духоўнай» і ў Адкрыцці), то ўрэшце і ўся пісьменнасць, кніжнасць, рэлігійная навука зрабіліся ў справе выратавання душы дапаможным, а пасля і зусім не галоўным сродкам. Ад праваслаўнага свяшчэнніка патрабавалася верыць і служыць, а не разумець і тлумачыць. Веды, рацыяналізм, філасофія ды і ўсякая «свецкая» навука асацыяваліся з элінскай і д'ябальскай хітрасцю, вучэнне — з дзёрзкай і самачыннай дзейнасцю без Бога і ўрэшце супраць Бога. Разважанні пра веру, Царкву, чалавека былі амаль забаронены як непатрэбныя дзеля выратавання. У выніку ў праваслаўным асяроддзі развілася знявага да адукацыі, недавер да эмпірычных ведаў, у тым ліку і багаслоўскіх. Даволі хутка праваслаўныя свяшчэннікі сталі непісьменнымі; да 30–50-х гг. XVI ст. непісьменнасць сярод духавенства ВКЛ мела ўжо амаль што татальны характар, што пагаршалася ўнутрыпалітычнымі акалічнасцямі. Але і ў Расіі справы былі не лепей. Аднак Ферара-Фларэнтыйская ўнія, падзенне Візантыі, вызваленне ад мангола-татарскай навалы, укараненне тэорыі «Масква — трэці Рым», няспраўджанне эсхаталагічных чаканняў і інш. вывелі былую ўскраінную мітраполію на лідзіруючыя пазіцыі ў праваслаўным свеце. У XV ст. Масква атрымала абсалютна законнае права самастойна меркаваць адносна рэлігійных пытанняў. Але галоўнага тэксту яна так і не мела, хаця магла самастойна вырашаць, патрэбны ён ці не. Пачалі выкарыстоўвацца розныя спосабы выпраўлення кніг і ажыццяўлення перакладаў. Прыгадаем імя Максіма Грэка, які стварыў па тым часе цэлую (дарэчы, вельмі слушную) тэорыю перакладу, гісторыю стварэння Генадзьеўскай Бібліі. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што пераклад рабіўся на царкоўнаславянскую, а не на старажытнарускую мову. Праўда, царкоўнаславянская і ў XV, і ў XVI ст. была добра зразумелай як у выніку сваёй агульнаславянскай асновы, так і ў выніку яе паслядоўнага выкарыстання ў Рускай царкве і ў пісьменстве Русі на працягу стагоддзяў. Ва ўсім гэтым адлюстроўвалася традыцыя ашчаднага стаўлення да біблейскага тэксту, падыход да яго як да святыні, чаканне Божага Адкрыцця, малітва аб ім і спадзяванне на яго — традыцыя, характэрная для ўсяго ўсходняга хрысціянства, якая наўрад ці можа быць суаднесена з «ахоўнай» традыцыяй каталіцкага Захаду.

Але з'яўленне ерасей на Русі выклікала тыпова іншае стаўленне да біблейскага тэксту: ён стаў прадметам аналізу, сродкам пацвярджэння ўласных думак пра свет і наваколле, аб'ектам смелага перакладу і вытлумачэння. Ерэтыкі не пакінулі ў Расіі значнага следу, бо іх сачыненні, за рэдкім выключэннем, былі знішчаны яшчэ ў XV ст. Але на тэрыторыі ВКЛ яны

маглі адносна вольна распачаць сваю філалагічную дзейнасць, не тоесную, але суадносную з «асветніцкай» традыцыяй перакладаў Бібліі ў Заходняй Еўропе. Каля другой паловы XV ст. у гуртках рэлігійных вальнадумцаў, што асталяваліся на Украіне, ажыццяўляліся першыя спробы перакладу Бібліі на ўкраінскую мову. Найранейшы з вядомых зараз стараўкраінскіх тэкстаў датуецца 1489 г., і напрыканцы стагоддзя з украінскіх перакладаў пачалі рабіцца даўнябеларускія спісы. У сярэдзіне — другой палове XVI ст. пераклады і рэдагаванне тэкстаў рабіліся свецкімі людзьмі і дробнымі клірыкамі розных, пераважна пратэстанцкіх, вызнанняў на «руську мову» — старабеларускую і стараўкраінскую, якія ўступілі ў канкурэнцыю з царкоўнаславянскай. Беларускія перакладчыкі ажыццяўляюць наноў пераклад асобных тыпаў Псалтыра, нягледзячы на разначытанні ў саміх псалмах; Сергій Кімбар «переглаживал и прилагал» Евангелле на мову, блізкую да народнай, і г. д.

Але ў дзейнасці даўнябеларускіх біблеістаў паралельна развіваліся два працэсы: пераклады некаторых тэкстаў на беларускую мову (што называлася перакладчыкамі «руськай») і пераклады на царкоўнаславянскую (якую называлі «словенской») з улікам выпрацоўкі беларускага варыянту апошняй. У царкоўнаславянскіх тэкстах таго часу нярэдка сустракаюцца беларускія глосы, што сведчыць пра адноснае ўзаемадзеянне дадзеных тэндэнцый, бо калі філалагічныя прынцыпы былі рознымі, то гнасеалагічныя ў многім супадалі. Напрыклад, у 1502–1507 гг. у Вільні і ў Супрасльскім манастыры па замове пісара вялікага князя літоўскага Фёдара Янушкевіча ствараецца т. зв. «Дзесятаглаў» Мацея Іванавіча. Вядома, Мацей Дзясяты выступіў як перапісчык і часткова рэдактар і ілюстратар кодэкса. У 1514 г. дзяк Фёдар перапісаў Пяцікніжжа Маісеева. Нягледзячы, што тэкст Мацея Дзясятага — даволі дасканалы царкоўнаславянскі, праца, праведзеная ім, сведчыць пра змену самога стаўлення да свяшчэннага тэксту. Біблія яшчэ разумеецца старабеларускімі кніжнікамі як кніга Боскага паходжання, але Адкрыццё, змешчанае ў ёй, павінна быць патлумачана, раскрыта асобным дасведчаным чалавекам для іншых, малаадукаваных людзей. Вось чаму Мацей змяшчае ў «Дзесятаглаве» вялікае аўтабіяграфічнае паведамленне, быццам абгрунтоўваючы сваё асабістае права на рэдагаванне і перапрацоўку тэксту (абсалютна недапушчальную стагоддзем раней). Паводле шчырага прызнання Мацея, здольнасць да стварэння кніг дадзена яму звыш, але матыў яго дзейнасці ўжо ў многім антрапацэнтрычны («*восхоте* написати своею рукою»). Ісціна выступае адной вялікай загадкай, адгадку на якую перапісчык ведае і паслядоўна выкладае яе на зразумелай пісьменным людзям мове. Змест гэтай «адгадкі» па большасці маральна-этычны, у нечым блізкі да народнай жыццёвай мудрасці, зафіксаванай у прыказках і прымаўках. Нездарма Мацей змяшчае ў кодэксе разам з Бібліяй «Кнігу Менандра». Запаветы Хрыста і мудрасць Менандра нібыта ўраўнаважаны. Тым самым свяшчэнны тэкст выступае ўжо не аб'ектам пакланення і шчырай веры, а шараговай, хаця і

вельмі аўтарытэтнай і карыснай кнігай — аб'ектам аналізу і вытлумачэння «па частках», г. зн. у нечым дэсакралізуецца.

Натуральна, што ў гнасеалагічных адносінах перакладчыцкія пачынанні Францыска Скарыны, як і яго віленскія выданні, цалкам адпавядалі дадзенай тэндэнцыі стаўлення да біблейскага тэксту, прыўносячы ў дадзеную тэндэнцыю гуманістычна-рэнесансавы складнік. А ў адносінах філалагічных Ф. Скарына аб'ядноўваў імкненне адных перакладаць на «руськую мову» і імкненне іншых пісаць «словенскім языком».

Спроба адрадзіць даўнюю традыцыю Slavia Orthodoxa не магла быць ажыццёўлена ў межах вызначанай вышэй тэндэнцыі. Спадчына Старажытнай Русі выкарыстоўвалася тут толькі як матэрыял у большым ці меншым адрыве ад гнасеалагічных пачаткаў, якімі абумоўлівалася ўзнікненне самога гэтага матэрыялу. Вядома, зварот да айчыннай старажытнасці таксама быў па сутнасці з'явай адраджэнскай, але напрамак гэтага адраджэння быў іншым. Мяркуем, што працяг Кірыла-Мяфодзіеўскай традыцыі перакладу Бібліі быў звязаны з апасродкаванай уплывам Максіма Грэка своеасаблівай спробай «рэстаўрацыі» раннесярэднявечнага разумення сутнасці, межаў і напрамку творчасці і належаў А. М. Курбскаму і К. К. Астрожскаму.

Апынуўшыся ў Літве, А. Курбскі сустрэў тут амаль поўны заняпад праваслаўнай культуры і царкоўнаславянскай мовы: «И исках мужей, словенским языком книжным добре умеющих, и не возмогох обрести», — адзначаў ён у роспачы. Ужо першыя сутыкненні праваслаўных з каталікамі і пратэстантамі адкрылі перад А. Курбскім гаротнае становішча царкоўнаславянскай адукацыі і кніжнасці. Князь Андрэй паспрабаваў знайсці праваслаўных знаўцаў царкоўнаславянскай мовы і лаціны, аднак яго пошукі не далі станоўчых вынікаў: ён стасаваўся з ерэтыком старцам Арцеміем, сабраў некалькі аднosна пісьменных людзей, а пасля сам у саракагадовым узросце засеў за вывучэнне лацінскай мовы і іншых гуманітарных навук. У прадмове да «Новага Маргарыта» А. Курбскі сфармуляваў свае перакладчыцкія прынцыпы, якія фактычна паўтаралі перакладчыцкую тэорыю Максіма Грэка, паслядоўнікам якога А. Курбскі сябе лічыў. Менавіта рэкамендацыямі Максіма ён кіраваўся ў падборы твораў для перакладу, і таму «Новы Маргарыт» не меў амаль што нічога агульнага са старым, старажытнарускім «Маргарытам». Тым часам А. Курбскі накіраваў у Кракаў, а пасля ў Італію яшчэ аднаго рускага эмігранта — князя Міхаіла Андрэевіча Абаленскага-Нагаткова. Вяртанне М. Абаленскага дазволіла А. Курбскаму вызваліцца з-пад апекі Амброжыя і актывізавала новыя пераклады. Не пазней за 1577 г. на царкоўнаславянскую мову было перакладзена «Багаслоўе» Іаана Дамаскіна, адрэдагавана па лацінскім спісе «Аповесць пра Варлаама і Іасафа», а пасля заўчаснай смерці маладога паплечніка — «Дыялектыка», першая частка «Крыніцы ведаў», трактат «Аб сілагізме» пратэстанта Іагана Спангенберга. Нарэшце, у маёнтку Мілянавічы ўзнік скрыпторый (Ст. Вайшэўскі, прата-

поп Сіла і інш.), у якім на мяжы 70–80-х гг. XVI ст. быў перакладзены або адрэдагаваны цэлы корпус жыційнай і павучальнай літаратуры, што належаў рэдакцыі візантыйскага пісьменніка Сімяона Метафраста і рэкамендаваўся для чытання Макімам Грэкам, які і распачаў яго пераклад. Пераклад Сімяона Метафраста ўзнік паралельна з кнігай Пятра Скаргі «Жыціі святых» і стаў фактычна раўнаважным адказам праваслаўных каталіцкаму аўтару, прычым, як і Скарга, А. Курбскі ажыццяўляў пераклад з лацінамоўнага тэксту каталіцкага аўтара Лаўрэнція Сурыя.

Судакрануўшыся на эміграцыі з рэнесансавай культурай, А. Курбскі, зразумела, не прыняў яе. Аднак непрыняцце гуманізму і Рэфармацыі не прывяло яго да духоўнай замкнёнасці. Звычайнае царкоўнаславянскае начотніцтва ён лічыў першай прыступкай у адукацыі. Далейшы шлях пралягаў праз граматыку, рыторыку і філасофію да вяршынь праваслаўнай культуры. Пасля смерці князя Андрэя і яго скрыпторый, і ўтвораны гурток кніжнікаў, і адукацыйныя пачынанні праіснавалі нядоўга, але гэта была першая спроба стварыць адукацыйны асяродак з пэўнай асветніцкай мэтай і канкрэтнай праграмай дзеянняў. Набыткі маскоўскай літаратурна-філалагічнай школы архіепіскапа Генадзія і Максіма Грэка, узбагачаныя дзякуючы элементам заходняй адукацыі, увайшлі пасля А. Курбскага ў дзейнасць Астрожскага гуртка, брацтва і друкарні, а таксама Віленскага і Львоўскага брацтваў, якія мелі свае друкарні.

Менавіта ў гэтым асяроддзі не толькі ажыццяўляліся пераклады кананічных тэкстаў, вяршыняй якіх стала стварэнне Астрожскай Бібліі 1581 г., але і ўзнікла «Граматыка» Мялеція Сматрыцкага, якая працяглы час служыла галоўным навучальным сродкам. Сваё завяршэнне дадзеная тэндэнцыя знайшла ў дзейнасці Кіева-Магілянскай акадэміі.

Такім чынам, абноўленая традыцыя Slavia Orthodoxa выступіла адным з напрамкаў развіцця перакладчыцкай справы ў ВКЛ — напрамкам, які па сваіх прынцыпах супрацьстаяў і ранейшым спробам перакладаў на «простую мову», што рабіліся рэлігійнымі вальнадумцамі (нават калі пераклады ажыццяўляліся на царкоўнаславянскую мову), і перакладам, ажыццёўленым у рэчышчы рэфармацыйных школ Захаду (С. Будны і інш.).

**Таццяна Казакова** *(Мінск, Беларусь)*

# ТВОРЧАЯ СПАДЧЫНА Ф. СКАРЫНЫ Ў ПРАЦАХ ФІЛОЛАГАЎ БДУ

Са старажытных часоў неўміручай крыніцай духоўнага ўзбагачэння чалавека з'яўляецца кніга. Слаўны юбілей — 490-годдзе кнігадрукавання ў Вялікім Княстве Літоўскім — непасрэдным чынам звязаны з дзейнасцю Францыска Скарыны, які ў 1522 г. у Вільні выдаў «Малую падарожную кніжку». Вялікі палачанін увасобіў нацыянальны ідэал беларусаў: «Бясспрэчным і нязменным застаецца падкрэсліванне Ф. Скарынам сваёй актыўнай далучанасці да лёсу беларускага народа, яго культуры, літаратуры, жыцця роднага Слова» [4, с. 9].

У эпоху Рэнесансу асветнік узбагаціў свядомасць «посполитого люду» ідэяй гістарычнага адзінства чалавека і сусветнай культуры, існаванне шматлікіх моў лічыў найважнейшым здабыткам цывілізацыі. На аснове біблейскіх тэкстаў ён абгрунтаваў ідэалы духоўнага і інтэлектуальна-маральнага ўдасканалення чалавека. В. К. Шынкарэнка трапна заўважыла: «Веліч сапраўднай асобы ў тым і заключаецца, што яна невымерная, што ў слове пра яе заўсёды мяркуецца працяг і хаваецца недагаворанае» [15, с. 189].

Актуальнасць правядзення навуковых чытанняў абумоўлена не толькі юбілейнай датай, але і неабходнасцю звярнуць увагу сучаснага грамадства на прыярытэт гуманітарных навук, якія на працягу стагоддзяў былі скіраваныя на фарміраванне гарманічнай Асобы. Францыск Скарына піша: «Людьское естество двояким законом бываеть справовано от Господа Бога, то ест прироженым, а написаным. Закон прироженый в том наболей соблюдаем бываеть: то чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных имети» [9, с. 136]. Працягваючы скарынаўскую традыцыю, прафесар філалагічнага факультэта БДУ І. В. Шаблоўская пераканаўча сцвярджала: «Філалагічная адукацыя, з'яўляючыся часткай гуманітарнай, самым непасрэдным чынам уплывае на ўзровень нацыянальнай самасвядомасці і ў той жа час залежыць ад яго. Гуманітарныя навукі ўвогуле вызначаюць Духоўны Космас нацыі, спрыяюць станаўленню яе інтэлігенцыі, духоўнай эліты» [10, с. 23].

У першай чвэрці XX ст. творчую фенаменальнасць Францыска Скарыны як з'яву ўласна беларускай культуры асэнсоўвалі М. Багдановіч, В. Ластоўскі, І. Луцкевіч, Я. Карскі; навукоўцы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і Інбелкульта — У. Пічэта, М. Доўнар-Запольскі, Я. Лёсік, У. Ігнатоўскі, М. Янчук. Вучоныя паказвалі ролю асветніка на фоне літаратурнага працэсу ў Беларусі эпохі Адраджэння. У 1925 г. рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта У. І. Пічэта ўзначаліў юбілейную скарынаўскую камісію

па святкаванні 400-годдзя беларускага кнігадрукавання. Прафесар БДУ М. Піятуховіч прысвяціў два артыкулы Ф. Скарыне, у якіх паказаў патрыятычныя імкненні першадрукара Бібліі. А. Каўка заўважыў, што «ў Піятуховіча ўвідочніўся зусім выразна ўсечаны, палавінчаты падыход да Скарынаўскай творчай спадчыны, абумоўлены… нігілістычным стаўленнем носьбітаў новай “пралетарскай” ідэалогіі да самаісных якасцей культуры і асабліва яе ідэалістычна-рэлігійнай традыцыі» [3, с. 52].

У. І. Пічэта быў перакананы, што «ў Беларускім дзяржаўным універсітэце не толькі беларуская мова павінна быць мовай выкладання, але Беларускі ўніверсітэт і па зместу прадметаў павінен быць беларускім» [8, с. 247]. Вучоны прысвяціў нашаму першадрукару шэраг грунтоўных прац, лічыў неабходным вывучаць дзейнасць Ф. Скарыны як выдатнага гуманіста еўрапейскага Адраджэння на шырокім фоне сацыяльна-палітычнага жыцця Вялікага Княства Літоўскага, лічыў памылковымі погляды тых даследчыкаў, якія звязвалі яго перакананні з канфесійнымі напрамкамі. У артыкуле «Беларускае Адраджэньне XVI в. і сучаснае беларускае нацыянальна-культурнае Адраджэньне» вучоны піша: «…пераклады Францішка Скарыны стваралі новую жывую беларускую мову, якая павінна стаць найвялікшай крыніцай нацыянальна-культурнага адраджэньня беларусаў» [8, с. 221]. У 1926 г. было апублікавана яго грунтоўнае даследаванне «Scoriniana», у якім прааналізаваны скарыназнаўчыя даследаванні канца XIX — пач. XX ст. і паказана неабходнасць стварэння абагульняючай працы пра творчую спадчыну Ф. Скарыны.

Традыцыі першых універсітэцкіх даследчыкаў спадчыны нашага першадрукара працягваюць вучоныя факультэта другой паловы XX — пач. XXI ст. — Л. М. Шакун, М. Г. Булахаў, А. І. Яновіч, А. А. Лойка і інш. Прафесар Л. М. Шакун глыбока асэнсаваў значэнне Скарыны ў гісторыі беларускай пісьменнасці, паказаў перакладчыцкую і выдавецкую дзейнасць першадрукара на шырокім фоне літаратурна-моўнага працэсу тагачаснай Беларусі [Гл.: 11; 12, с. 19–23; 13, с. 101–108 і інш.]. Даследчык сцвярджаў, што ў творчасці Ф. Скарыны «пашыраліся выяўленчыя магчымасці літаратурнай мовы за кошт смелага, некалькі незвычайнага спалучэння элементаў рознага паходжання — кніжнаславянскіх і народна-гутарковых. Тым самым сціраліся рэзкія граніцы паміж моўна-стылістычнымі асаблівасцямі займальнай, так званай “неполезной”, і “высокой” літаратуры» [14, с. 310]. Вучоны вызначыў адну з асноўных асаблівасцей развіцця старабеларускай мовы — «магчымасць суіснавання ў сістэме тагачаснай беларускай літаратурнай мовы даволі адрозных па структуры і выяўленчых сродках функцыянальна-стылістычных разнавіднасцей, кожная з якіх магла развівацца на сваім участку літаратурнага руху і судакранацца з іншымі толькі некаторымі агульнымі рысамі» [14, с. 313]. Л. М. Шакун прааналізаваў «эмацыянальны ключ» у прадмовах Ф. Скарыны, класіфікаваў прадмовы як навукова-папулярныя трактаты, разгорнутыя анатацыі, гісторыка-філалагічныя каментарыі.

М. Г. Булахаў асаблівую ўвагу засяродзіў на скарынаўскіх выданнях як на важнай крыніцы гістарычнага вывучэння словаўтваральных працэсаў і семантычнага развіцця некаторых катэгорый лексікі. Даследчык зрабіў вывад: «…Скарына ў сваіх выданнях адлюстраваў тыповыя рысы словаўтваральнай сістэмы беларускай літаратурна-пісьмовай мовы першай палавіны XVI ст. Разам з тым ён выкарыстаў у неабходных выпадках традыцыйна-кніжныя сродкі стараславянскай, старажытнарускай, старажытнапольскай і старажытначэшскай моў, якія давалі магчымасць значна расшырыць межы сінаніміі і паспяхова вырашаць задачу агульнадаступнага тлумачэння і перакладу царкоўнаславянскіх тэкстаў» [1, с. 344].

Грунтоўна прааналізавала стылёвыя асаблівасці прадмоў Ф. Скарыны А. І. Яновіч [Гл.: 16]. Даследчыца вылучае ў стылістыцы скарынаўскіх тэкстаў «вар'іраванне плана выказвання — ад маналога да павучальнага дыялога, ад выкладання бясстраснага апавядальніка да зацікаўленага звароту да чытачоў і асобы», лічыць, што «асноўным тыпам арганізацыі тэкстаў з'яўляецца рацыянальна-лагічная структура з перавагай паслядоўнага разгортвання як прыёму, што ляжыць у аснове маўленчай адзінкі» [16, с. 93, 94]. А. І. Яновіч акцэнтуе ўвагу на градацыі, прыёме паралельнага разгортвання, выкарыстанні фігур замяшчэння (гіпербалы, тропы) і фігур сумяшчэння (сінанімія, параўнанні, антытэза), а найбольш характэрнай рысай у яго прамовах вылучае стылістычную сіметрыю. Выснова даследчыцы гучыць лагічна і пераканаўча: «Чаргаванне лінейнай або рамачнай сінтаксічнай сіметрыі з'яўляецца важным стылеўтвараючым прынцыпам, які ў спалучэнні з іншымі рысамі стылістыкі Ф. Скарыны дазваляе сцвярджаць пераемнасць і развіццё ў яго творчасці традыцый старажытнаславянскай кніжна-пісьмовай культуры» [16, с. 96].

Важкі ўнёсак у Скарыніяну зрабіў А. А. Лойка, які прысвяціў асветніку вершы, напісаў раман-эсэ «Францішак Скарына, або Сонца маладзіковае», грунтоўна асэнсаваў спадчыну Францыска Скарыны ў падручніку для ВНУ «Старабеларуская літаратура», выдатна паказаў наватарства першадрукара, асновы яго светапогляду, патрыятызм і гуманізм. «Упершыню ў навуцы выяўлены галоўныя культурна-эстэтычныя і агульнанацыянальныя дамінанты сінтэтычнай творчасці Скарыны, яго шматгадовай працы над Бібліяй, сутнасць якой палягала ў межах такіх катэгорый, як асвета, веды, пазнанне», — слушна адзначае І. В. Саверчанка [цыт. па: 5, с. 615]. У інтэрв'ю А. Марціновічу А. Лойка выказаў цікавую думку: «У літаратуры асноўнае, на мой погляд, пачуць час у яго адметнасці, я б сказаў, вібрацыі, трымценні, пачуць музыку душы і мыслі чалавека ў пэўным часе» [5, с. 463]. Ён адчуў думку Францыска Скарыны як паэтычную, трымтліва-музычную, узнёсла-літургічную. Даследчык выводзіў Скарыну «з-пад квадратнага кораню не толькі свайго часу, але і з прадгісторыі» [5, с. 465]. Шматгранная філалагічная дасведчанасць дазволіла вучонаму сцвярджаць, што асветніцкая дзейнасць Ф. Скарыны — гэта апагей рэлігійна-асветніцкай дзейнасці ранняга нашага

Сярэднявечча, запачаткаванага Ефрасінняй Полацкай, Кірылам Тураўскім і якую ў рамках другога паўднёва-балканскага ўплыву працягваў Грыгорый Цамблак. Вучоны арганічна спалучае шырокі погляд на гістарычны шлях развіцця нашай літаратуры з выкарыстаннем вялікага скарыназнаўчага матэрыялу, што дазваляе яму стварыць канцэпцыю духоўнага багацця беларускага народа. А. А. Лойка піша: «Ф. Скарына сыграў ролю будзіцеля народнай самасвядомасці, стаў сцвярджальнікам асноваў гістарычнага быцця народа, беларусаў. Роля Скарыны-адраджэнца, будзіцеля ўсіх прыярытэтных пачаткаў у чалавеку, у тым ліку і нацыянальнай годнасці, застаецца і сёння нязгаснай» [7, с. 310]. Слушнасць думкі вучонага пацвярджаюць скарыназнаўчыя навуковыя працы нашых аспірантаў, магістрантаў і студэнтаў.

Такім чынам, вучоныя філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта плённа і ўсебакова даследуюць творчую спадчыну Францыска Скарыны, якая была скіраваная да Чалавека, Асобы, Духоўнасці. Г. Я. Галенчанка, глыбока прааналізаваўшы перыпетыі жыццёвага і творчага шляху нашага асветніка, піша: «Уплыў Скарыны на духоўную культуру Беларусі і ўсходнеславянскіх народаў цяжка пераацаніць. У шырокім кантэксце як заснавальнік беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання ён вырашальным чынам уздзейнічаў на зараджэнне новай духоўнай цывілізацыі і ў пэўнай ступені на збліжэнне славянскіх і еўрапейскіх народаў, лацінскай і грэка-візантыйскай Еўропы» [2, с. 134].

## Літаратура


1. Булахаў, М. Г. Аб словаўтварэнні скарынінскіх выданняў / М. Г. Булахаў // 450 год беларускага кнігадрукавання / рэдкал. К. К. Атраховіч [і інш.]. — Мінск: Навука і тэхніка, 1968. — С. 315–345.
2. Галенчанка, Г. Я. Францыск Скарына ў паціне версій, стэрэатыпаў і міфаў / Г. Я. Галенчанка // Российские и славянские исследования. — Минск: БГУ, 2008. — Вып. 3. — С. 123–136.
3. Каўка, А. К. Беларускае скарыназнаўства ў 20-я гады XX ст. / А. К. Каўка // Кніжная культура Беларусі: Да 500-годдзя з дня нараджэння Ф. Скарыны. — Мінск: ЦНБ імя Якуба Коласа, 1991. — С. 45–64.
4. Лабынцаў, Ю. А. Пачатае Скарынам: Беларуская друкаваная літаратура эпохі Рэнесансу / Ю. А. Лабынцаў. — Мінск: Мастацкая літаратура. — 333 с.
5. Лойка, А. А. Дрэва жыцця / А. А. Лойка. — Слонім: ГАУПП «Слонімская друкарня», 2004. — 624 с.
6. Лойка, А. А. Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае: раман-эсэ / А. А. Лойка. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1990. — 382 с.
7. Лойка, А. А. Старабеларуская літаратура / А. А. Лойка. — Мінск: Вышэйшая школа, 2001. — 318 с.
8. Памяць і слава: Першы рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта — Уладзімір Іванавіч Пічэта / склад. С. М. Ходзін, М. Ф. Шумейка, А. А. Яноўскі; рэдкал.: С. У. Абламейка [і інш.]. — Мінск: БДУ, 2011. — 375 с.

9. Францыск Скарына і яго час: энцыкл. даведнік / рэдкал. І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск: БелСЭ, 1988. — 608 с.
10. Шаблоўская, І. В. Сусветная літаратура ў беларускай прасторы / І. В. Шаблоўская. — Мінск: Радыёла плюс, 2007. — 303 с.
11. Шакун, Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы / Л. М. Шакун. — Мінск: Універсітэцкае, 1984. — 319 с.
12. Шакун, Л. М. Моватворчасць Ф. Скарыны ў асвятленні сучаснай навукі / Л. М. Шакун // Веснік БДУ. Серыя 4: Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія. — 1990. — № 3. — С. 19–23.
13. Шакун, Л. М. Стилистика скорининских предисловий / Л. М. Шакун // Франциск Скорина — белорусский гуманист, просветитель, первопечатник. — Минск, 1989. — С. 101–108.
14. Шакун, Л. М. Ф. Скарына і пытанні гісторыі беларускай літаратурнай мовы / Л. М. Шакун // 450 год беларускага кнігадрукавання / рэдкал. К. К. Атраховіч [і інш.]. — Мінск: Навука і тэхніка, 1968. — С. 305–315.
15. Шынкарэнка, В. К. Нястомных пошукаў дарога: праблемы паэтыкі сучаснай беларускай гістарычнай прозы / В. К. Шынкарэнка. — Мінск: Беларуская навука, 2002. — 207 с.
16. Яновіч, А. І. Выбраныя працы / А. І. Яновіч. — Мінск: Медысонт, 2011. — 267 с.

# НОВЫЯ КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫЯ І МОВАЗНАЎЧЫЯ АСПЕКТЫ ВЫВУЧЭННЯ СКАРЫНАЎСКАЙ СПАДЧЫНЫ

**Жанна Некрашэвіч-Кароткая** *(Мінск, Беларусь)*

## ПСАЛТЫР У ГУМАНІСТЫЧНАЙ КУЛЬТУРЫ ЕЎРОПЫ І Ў ТВОРЧАСЦІ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

У даследаваннях, прысвечаных творчасці Францыска Скарыны, па вялікім рахунку, не даецца адэкватнага тлумачэння таму факту, які нельга лічыць трывіяльным: толькі адну кнігу з ліку біблейскіх кніг Скарына выдаў двойчы, і толькі адна прадмова была ім перадрукавана ў пазнейшы час. Гэтая кніга — Псалтыр, гэтая прадмова — «Прадмова да Псалтыра». Для таго, каб належным чынам пракаментаваць гэтую вельмі сімптаматычную акалічнасць, звернемся да гісторыі не толькі ўсходнеславянскай кніжнасці, але да гісторыі кніжнай культуры цэлай Еўропы, паколькі Скарына, які вучыўся ў Кракаве, Падуі, а магчыма, і Капенгагене, працаваў у Празе і ў Вільні, бясспрэчна, з'яўляецца гуманістам еўрапейскага маштабу.

Еўрапейскія (у першую чаргу нямецкія) гуманісты абвяшчалі слова ўнікальным, ні з чым не параўнальным і нават таямнічым сродкам перадачы самай разнастайнай (у тым ліку сакральнай) інфармацыі. Гэта, у сваю чаргу, вызначыла новыя арыенціры хрысціянскага асветніцтва: Святое Пісанне вельмі пажадана было прапагандаваць у самых разнастайных літаратурных і кнігавыдавецкіх формах. Найперш такая ўстаноўка датычыла Псалтыра, які з даўніх часоў лічыўся найважнейшым помнікам старажытнаяўрэйскай лірыкі і найпрыгажэйшай кнігай Старога Запавету. Так, Эабан Гес прыкладна ў той час, калі Скарына друкаваў у Вільні свае кнігі, працаваў над паэтычнымі пералажэннямі псалмоў, упершыню апублікаванымі ў 1531 г. [6, с. 20]. Прадмовы да гэтай кнігі напісалі самыя вядомыя дзеячы нямецкага рэфармацыйнага руху — Марцін Лютэр і Філіп Меланхтон. Не ў апошнюю

чаргу менавіта ў такой устаноўцы нямецкіх гуманістаў трэба бачыць карані літаратурнага наватарства Францыска Скарыны, які яшчэ ў пражскіх выданнях сваёй «Бібліі» змясціў некалькі вершаў дыдактычнай накіраванасці. Што да «Псалтыра», то Скарына друкаваў яго двойчы: у Празе і ў Вільні.

Традыцыйнай для беларускага літаратуразнаўства з'яўляецца сфармуляваная Я. Неміроўскім думка, што віленскі «Псалтыр» уваходзіць у склад «Малой падарожнай кніжкі» [5, с. 465]. Менавіта такую назву, лічыць вучоны, Скарына даў сукупнасці выданняў, выпушчаных ім у Вільні каля 1522 г., і ў склад гэтай «сукупнасці» ўваходзяць «Псалтыр», «Часасловец», акафісты і каноны, «Шасцідневец», а таксама «Саборнік», у які ўваходзяць «Святцы» і «Пасхалія» [5, с. 402]. Пры гэтым, ужываючы назву «Малая падарожная кніжка», Я. Неміроўскі робіць агаворку, што гэтую назву ўпершыню ўвёў у навуковы зварот чэшскі славіст Ёзэф Добраўскі [2, с. 430]. Аднак, калі звярнуць увагу на богаслужбовы, а значыць, кананічны характар тэкстаў, змешчаных у зборніку, прапанаваная назва выклікае жаданне супаставіць яе з аналагічнымі назвамі аналагічных па сваёй структуры выданняў.

На думку Я. Неміроўскага, «Скарына працягваў традыцыю, пачатую Бажыдарам Вукавічам, які ў 1520 г. надрукаваў у Венецыі "Зборнік для падарожнікаў"» [5, с. 402]. Аднак тое выданне, якое ў 1520 г. надрукаваў у Венецыі Бажыдар Вукавіч, называлася «*Psaltir sa posledovanjem i uaslovcem*». У сваёй вядомай манаграфіі Я. Неміроўскі піша пра гэтае выданне больш падрабязна, хаця, дарэчы, арыгінальнай назвы так і не прыводзіць. Затое аўтар не згаджаецца з меркаваннямі тых, хто адносіць выданне Скарыны да кнігавыдавецкага тыпу «Псалтырь с восследованием», і даводзіць, што югаслаўскія даследчыкі называюць гэтае выданне «Зборник за путнике», што азначае «Зборнік для падарожнікаў». Пры гэтым Я. Неміроўскі прыводзіць фразу з пасляслоўя кнігі Бажыдара Вукавіча, дзе сербскі гуманіст прыгадвае кнігі, «иже в поуть ходештимь оудобь носима бывают» [цыт. па: 2, с. 444]. На гэтай падставе вучоны робіць выснову, што «Малая падарожная кніжка» Скарыны напрамую пераклікаецца з прыведзенымі словамі.

Не ўсе беларускія даследчыкі далучаюцца да меркавання Я. Неміроўскага. Так, Л. В. Ляўшун, каментуючы «Прадмову да Псалтыра» ў «Анталогіі даўняй беларускай літаратуры», піша: «Сярод службовых Псалтыроў у славянскай рукапіснай традыцыі сустракаюцца два тыпы — просты Псалтыр і "следаваны" ("с восследованием"). Уяўленне пра просты Псалтыр дае выданне Скарыны 1517 г. … "Следаваны" Псалтыр утрымлівае ў сваім складзе акрамя простага Псалтыра яшчэ і Часаслоў (паследаванне штодзённых богаслужэнняў) і з'яўляецца, такім чынам, універсальнай богаслужбовай кнігай. Менавіта да "Следаванага" Псалтыра набліжаецца па сваім складзе так званая "Малая падарожная кніжка", выдадзеная Скарынам у 1522 г.» [1, с. 942].

Цалкам пагаджаючыся з гэтым меркаваннем, звернем увагу толькі на некаторыя істотныя акалічнасці. Богаслужбовыя зборнікі, якія складаліся на грунце «Псалтыра», тыповыя як для заходне-, так і для ўсходнехрысціянскай традыцыі. У адрозненне ад усходняй царквы, дзе асноўную сэнсавую нагрузку нясуць стыхіры, трапары і іншыя гімнаграфічныя сачыненні, у заходняй традыцыі ў аснове богаслужэння ляжаць менавіта псалмы, якія звязваюцца з успамінамі бягучага дня пры дапамозе антыфонаў — кароткіх вершаў. Тэксты традыцыйнага каталіцкага набажэнства былі паступова сабраныя ў кнігу пад назваю *Breviarium* (па-нямецку *Brevier*), і гэтая кніга фактычна выконвала ролю Часаслоўца (па-лацінску *Horologium*, па-нямецку *Stundenbuch*) для святароў. Скарочанай формай брэвіярыя быў так званы *liber viaticus* (па-нямецку *Reisebrevier*) — кніга для падарожнікаў, якая фактычна ўяўляла сабою брэвіярый для падарожнікаў. У канцы XV — пачатку XVI ст. гэты тып выдання быў надзвычай пашыраны ў Еўропе. Так, толькі ў адной (Наўмбургскай) нямецкай дыяцэзіі з 1487 г. да часоў Рэфармацыі выйшла сем выданняў брэвіярыяў. Пры гэтым «форма і змест брэвіярыяў, як і службоўнікаў, на схіле Сярэднявечча нават у асобных дыяцэзіях ні ў якіх адносінах не былі аднастайнымі, і нават у брэвіярыях адной і той жа дыяцэзіі рэдка назіраецца адпаведнасць» [7, с. 349]. З гэтага пункту гледжання мелі рацыю тыя даследчыкі, якія, падобна, скажам, рускаму кнігазнаўцу і бібліёграфу XIX ст. П. Кепену, апісвалі скарынаўскае выданне 1525 г. у форме пераліку яго складных частак: «Псалтыр, Часасловец, Акафістнік, Шастадневец, Кароткія Святцы і Пасхалія» [гл.: 2, с. 433]. Сам Францыск Скарына, арыентуючыся на ўсходнеславянскага чытача, пабудаваў сваё выданне як «следаваны» Псалтыр, але падрабязна апісаў яго структуру. Таму гэтае пасляслоўе і пачынаецца словамі: «Писаныи речи в сей малой подорожной книжце по ряду кратце положены суть. Наипервей Псалтырь зуполная… За Псалтырею песней десеть… Потом Часословець… і г. д.» [4, с. 100]. Словы «в сей малой подорожной книжце» служаць тут, на нашу думку, пазначэннем тыпу выдання: «подорожная книжка» — гэта і ёсць тое, што па-лацінску называлася *liber viaticus*. Цікава, што на пераплёце капенгагенскага экзэмпляра скарынаўскага выдання (пра гэта паведамляе Я. Неміроўскі) прысутнічае наклейка з надпісам XIX ст.: «Psalterium Davidov, Horologium etc. (lingua Albo-Rossica), edidit F. Skorina» [цыт. па: 2, с. 438]. Паводле структуры гэта прынамсі «Следаваны Псалтыр».

Такім чынам, словы Скарыны «в сей малой подорожной книжце» ніяк нельга атаясамліваць з рэальнай канкрэтнай назвай выдання. Пацвярджэнне гэтаму меркаванню прадстаўляе прадмова да выдання «Книга Нового Завета, в ней же напреди Псалтыр блаженнаго пророка и царя Давыда» (Еўе, 1611), апублікаваная У. Г. Кароткім у яго кнізе «Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны» (1991). У гэтай прадмове праваслаўныя братчыкі даводзяць: «Их (кнігі. — *Ж. Н.-К.*) … выдати умыслили есмо приложивши до

каждое главы сумму речей в ней замкненых, тудеж тетроване, ведлуг порядку церковного справленное, ку тому святцы з указанем Апостолов и Евангелий, и Прокимны и иные речи людем подорожным до отправованя набоженства пилно потребные» [3, с. 56–57]. Словы пра «речи людем подорожным», як і выраз «в сей малой подорожной книжце», указваюць тут на прызначэнне выдання, выразна акрэсліваюць яго адрасата.

Не прымаючы думку пра тое, што выданне Скарыны ўяўляе сабою «Следаваны Псалтыр», Я. Неміроўскі звяртае ўвагу на такое «прынцыповае адрозненне»: «Следаваны Псалтыр — літургічная кніга, якая выкарыстоўваецца пры набажэнстве ў храме. Як правіла, гэта тоўсты том вялікага фармату. Скарына ж прызначаў "Малую падарожную кніжку" для асабістага чытання, адсюль яе невялікі фармат». Далей, прыгадваючы тры выданні славянскага «Следаванага Псалтыра» з ліку так званых «сербуляў» (сербскіх старадрукаваных кніг), заўважае: «Усе тры Псалтыры надрукаваны ў чацвёртую долю аркуша. Але сярод выданняў Бажыдара Вукавіча ёсць невялікі па фармату томік, які мог паслужыць Францыску Скарыну непасрэдным узорам, калі ён думаў пра тое, якім павінна быць яго новае выданне» [2, с. 443]. Аднак нават Бажыдару Вукавічу нельга аддаць лаўры першаадкрывальніка «падарожнага брэвіярыя» кішэннага фармату. Так, у кнізе «Das Bistum Naumburg» чытаем: «Фармат наўмбургскіх брэвіярыяў вар'іруецца ад тамоў *in folio* ды *in quarto* да выданняў *in octavo*, якія сустракаюцца найчасцей» [7, с. 350]. Такім чынам, фармат у восьмую частку аркуша (менавіта так пазначаюць фармат так званай «Малой падарожнай кніжкі» Я. Неміроўскі і Г. Галенчанка) быў тыповым для выдання тыпу *liber viaticus*.

Такім чынам, як і ў многіх іншых выпадках, ствараючы свой богаслужбовы зборнік, Францыск Скарына аб'ядноўвае заходнюю і ўсходнюю кнігавыдавецкія традыцыі. Ён стварае «Следаваны Псалтыр», якога не ведаў каталіцкі Захад, але стварае яго на ўзор каталіцкіх выданняў тыпу *liber viaticus*, і гэты апошні момант якраз акцэнтуе ў пасляслоўі. Як большасць пісьменнікаў не толькі XVI, але таксама XVII і XVIII стст., «Псалтыру» Францыск Скарына надае выключную ролю. Ён не склаў паэтычных пералажэнняў псалмоў, як, скажам, Іяган Мюліус з Лібенродэ, Ян Каханоўскі, Джон Мілтан або Сімяон Полацкі, але ў віленскі перыяд сваёй творчасці стварыў наватарскае, знітаванае адначасова з заходне-каталіцкай і ўсходне-праваслаўнай выдавецкімі традыцыямі, выданне на аснове «Псалтыра».

## Літаратура

1. Анталогія даўняй беларускай літаратуры. XI — першая палова XVIII ст. / навук. рэд. В. А. Чамярыцкі. — Мінск, 2003.
2. Немировский, Е. Л. Франциск Скорина: жизнь и деятельность белорусского просветителя / Е. Л. Немировский. — Минск, 1990.
3. Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны / пад рэд. У. Г. Кароткага. — Мінск, 1991.
4. Скарына, Ф. Творы: Прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія / Ф. Скарына; уступ. арт., падрыхт. тэкстаў, камент., слоўнік А. Ф. Коршунава. — Мінск, 1990.
5. Францыск Скарына і яго час: энцыклапедычны даведнік / гал. рэд. І. П. Шамякін. — Мінск, 1988.
6. Bruchnalski, W. Jan Kochanowski / W. Bruchnalski // Alma Mater Vilnensis. Czasopismo Akademickie. — Zeszyt 9. — Wilno, 1930. — S. 5–30.
7. Das Bistum Naumburg / im Auftrag des Max-Planck-Instituts fьr Geschichte bearb. von Heinz Wiessner (Germania sacra; N. F., 35: Die Bistьmer der Kirchenprovinz Magdeburg; 1). — Berlin; New York, 1996. — XX. — 732 s.

**Любоў Ляўшун** *(Мінск, Беларусь)*

# «БІВЛІА РУСКА»: КАНЦЭПТ «КНІГА» Ў ТВОРЧАЙ РЭФЛЕКСІІ Ф. СКАРЫНЫ

Культура як «сістэма калектыўнай памяці і калектыўнай свядомасці… непазбежна з'яўляецца нейкай адзінай для дадзенага калектыву каштоўнаснай структурай… Ствараючы для сябе самой уласную мадэль, культура актыўна ўздзейнічае на працэс самаўладкавання, уладкоўвае сябе іерархічна, кананізуе і выключае тыя ці іншыя тэксты» [5].

Гэта, у прыватнасці, вельмі выразна бачна ў дачыненні да перакладчыцка-выдавецкай творчасці Францыска Скарыны, якая выбіваецца з усходнеславянскай кніжнай традыцыі не толькі сутнасна, г. зн. па тыпу творчай рэфлексіі (пра што ніжэй), але нават і вонкава-фармальна, бо за больш чым тысячагоддзе знаёмства славян з Бібліяй нікому, акрамя Скарыны, не прыйшло на думку «расчляніць» свяшчэнны тэкст, падзяліўшы яго на асобныя выданні.

У дадзеным выпадку гаворка, зразумела, не ідзе пра традыцыю карыстання так званымі лекцыянарнымі варыянтамі Св. Пісання: Псалтыром служэбнага тыпу (як простым, так і следаваным), г. зн. з тыпікарнымі заўвагамі і падзелам на парэміі, які, аднак жа, па складзе не адрозніваецца ад чэцяга; апракаснымі Евангеллем і Апосталам. Не тычыцца гэта і чэціх служэбных тэтраў і Апосталаў, якія пашыраюцца ва ўжытку з XIV ст. і маюць адпаведную разметку чытанняў, лекцыянарныя табліцы ў канцы і спецыяльныя артыкулы, дзе прыводзяцца неабходныя тлумачэнні, правілы літургічнага карыстання, рознага кшталту настаўленні, рэкамендацыя для прыватнага чытання, асобныя чытанні на розныя патрэбы і г. д. Практыка такога аб'яднання асобных кніг Пісання ў адным кодэксе распачынаецца ў культуры Slavia Orthodoxa як наступства ўздзеяння некалькіх фактараў (распаўсюджанне Іерусалімскага богаслужэбнага тыпікону, які дазваляў выкарыстоўваць замест апракасаў поўныя біблейскія тэксты з адпаведнай літургічнай разметкай; з'яўленне паперы, больш таннай і тонкай за пергамен, што давала магчымасць ствараць зборнікі вялікага аб'ёму; пераход да больш сціслага ў параўнанні з уставам паўустава, што таксама спрыяла павелічэнню колькасці тэкстаў у адным кодэксе і г. д.).

Вядома, што менавіта богаслужэбны тып быў «адзіна поўным функцыянальным тыпам тэксту Св. Пісання ў славян на працягу сярэднявечча… з яго непасрэдна пачалася гісторыя пісьма і хрысціянскай Царквы ў славян… Літургічная практыка… была для прыхаджан асноўным і звычайна адзіным спосабам знаёмства з тэкстам Св. Пісання. Хатняе чытанне не магло быць распаўсюджана колькі-небудзь шырока, ва ўсякім выпадку яно не магло сапернічаць з богаслужэннем у гэтых адносінах. Для праваслаўных служэбны

тып з’яўляўся асноўным рэпрэзентантам Св. Пісання. Рукапісы служэбнага тыпу, асабліва напрастольныя Евангеллі, уключаліся ў лік галоўных храмавых святынь» [1].

Што да іншых, старазапаветных, біблейскіх кніг, то і яны ў культуры праваслаўнага славянства ніколі не існавалі асобна, а заўсёды ўтваралі пэўныя зборнікі. У сваім чэцім варыянце на ўсходнеславянскіх землях былі распаўсюджаныя: Пяцікніжжа (уключала Быццё, Зыход, Лявіт, Другазаконне, Лічбы), Палея (у паўднёваславянскай традыцыі Васьмікніжжа) і зборнікі, у якія ўваходзілі кнігі Ісуса Навіна, Суддзяў, Руф і Царстваў[1]. Некаторыя іншыя кнігі Бібліі — так званыя кнігі Прамудрасці — уваходзілі ў зборнікі больш-менш трывалага складу, якія ўключалі Эклезіяст, Песню Песняў, Прытчы, Сіраха, радзей Іова, а яшчэ Менандра — збор афарызмаў язычаскіх мудрацоў, і раз-пораз — Апакаліпсіс. Асобным зборам бытавалі кнігі пракрокаў, але такога кшталту зборнікі былі, як правіла, тлумачальнымі; у выніку выдалення тлумачэнняў склаўся чэці варыянт Прарокаў, але адбылося гэта даволі позна, і зноў-такі гэта былі не асобныя кнігі прарокаў, а пэўны збор кніг [1].

Вяртаючыся да Скарыны, згадаем, што ён выдаваў старазапаветныя кнігі паасобку і менавіта для прыватнага чытання. Такім чынам, выдавецкая праграма ўсходнеславянскага першадрукара не адпавядала традыцыі тыражавання біблейскіх тэкстаў у культуры Slavia Orthodoxa, для прадстаўнікоў якой ён прызначыў сваю «Біблію руску». Між тым стаўленне да Свяшчэннага Пісання ў хрысціянскай культуры з’яўляецца, як паказвае вопыт літаратуразнаўчых і культуралагічных даследаванняў, ледзь не самым дакладным крытэрыем для вызначэння спосабу светаўспрымання і характару творчай рэфлексіі пэўнага мастака. Па назіранні В. В. Бычкова, «з’яўленне ўласна хрысціянскай літаратуры, асабліва кананічнай новазапаветнай, было тым духоўным ядром, якое стала асноўным прадметам даследавання хрысціянскіх мысляроў. У той жа час яно аказалася і апошнім крытэрыем сапраўднасці такога даследавання, г. зн. поўнай, усёахопнай, у сабе замкнёнай асновай сістэмы мыслення» [2, с. 25]. Таму менавіта спосаб і шчыльнасць далучанасці мастака да «сістэмы мыслення», зададзенай Св. Пісаннем, выразна, як нішто іншае, выяўляюць яго духоўнае аблічча, яго стаўленне да творчасці ў самым шырокім абсягу — ад scribo Dei да scribo mei — і, між іншым, ступень «уключанасці» ў дадзеную культуру і «паразумеласці» з яе носьбітамі. Бо культуратворчы

---

[1] У паўднёваславянскай традыцыі размеркаванне кніг Старога Запавету па асобных зборніках было іншым: Васьмікніжжа, альбо Палея (уключала Пяцікніжжа, кнігі Ісуса Навіна, Суддзяў, Руф) і Царстваў. У асобных выпадках гэтыя два зборнікі маглі аб’ядноўвацца ў адзін; такая сукупнасць 12 гістарычных кніг служыла ва ўсходнеславянскай культуры асновай для хранаграфічных кампіляцый тыпу Іудзейскага хронографа, дзе да іх нярэдка далучалася кніга Эсфір, невядомая паўднёваславянскаму пісьменству [1].

працэс паўстае «як працэс параджэння новых фраз на пэўнай “мове” і прачытання іх грамадскім адрасатам (соцыумам). Адпаведная “мова”, з аднаго боку, аб’ядноўвае дадзены соцыум, абумоўліваючы магчымасць камунікацыі між яго прадстаўнікамі… З другога боку, яна (“мова” культуры. — *Л. Л.*) уладкоўвае саму інфармацыю, абумоўліваючы адбор значных фактаў і ўстанаўленне пэўнай сувязі між імі: тое, што не апісваецца на гэтай “мове”, як быццам увогуле не ўспрымаецца грамадскім адрасатам, проста выпадаючы з яго поля зроку» [5]. У выпадку ж, калі адрасант і адрасат карыстаюцца рознымі «мовамі», могуць узнікаць нават «канфліктныя, кантраверсныя сітуацыі… якія дэманструюць увогуле неадэкватнае ўспрыманне тых самых падзей» [5].

«Рэвалюцыйнасць» і выбітнасць Скарынавай «Бівліі рускай» у кантэксце сучаснай яму «рускай» культуры Вялікага Княства Літоўскага выяўляецца не толькі ў форме выдання біблейскіх тэкстаў, але і ў разуменні Скарынам спецыфічнага ў «мове культуры» Slavia Orthodoxa канцэпту «кніга», чыя аўтэнтычная семантыка цяпер амаль сцёрлася.

У кірыла-мяфодзіеўскай традыцыі лексема, якой перадаецца згаданае паняцце, мае форму pluralia tantum — «**кънигы**», што толькі часткова тлумачыцца сучаснымі азначэннямі паняцця «кніга»[1] (заўважым, адзіночнага ліку!) і разам з тым дазваляе вызначыць семантычнае ядро гэтай лексемы ва ўсходнеславянскім сярэднявеччы. Яна азначала непадзельны і разам з тым незлучальны ўстойлівы комплекс зафіксаваных пісьмовым спосабам твораў (адсюль і pluralia tantum), прасякнутых адзіным сэнсам, надзеленых адзінай функцыяй і створаных адзіным аўтарам — Богам. Калі ж узнавіць цалкам страчаную ў сучаснай культурнай свядомасці сувязь царкоўнаславянскага «**кънигы**» са старажытнагрэчаскім «βιβλια» (форма множнага ліку назоўніка βιβλός — кара папіруса, папера з папіруса, світак з пісьмёнамі), то зробіцца відавочнай тоеснасць паняццяў «кънигы» (plur. tant.), «Пісанне»[2] і «Біблія» ў сярэднявечным пісьменстве Slavia Orthodoxa. Вельмі паказальны ў гэтым сэнсе фрагмент з Ізборніка 1073, дзе называецца Аўтар біблейскіх кніг: усе яны «Господа единого мудрааго речи суть».

Такое стаўленне да тэкстаў Свяшчэннага Пісання выразна дэманструе іканаграфія апостала-евангеліста Іаана, сімвалічнай асновай якой з’яўляецца менавіта ідэя своеасаблівай трансляцыі дабрадару, калі Логас-Слова наўпрост уваходзіць у Пісанне, вербалізуючыся праз творчую свядомасць «любімага вучня» Божага (Ін.13:23) у свяшчэнны тэкст. Кампазіцыя гэта, вядомая з X ст.,

---

[1] Пар.: адзін з магчымых варыянтаў паходжання гэтага слова з праінд.-еўрап. мовы: прыстаўка *kъn- + корань *ig- < *jug- (*ieug-) = ‘злучаць, звязваць’, што і надае значэнне ‘знітаваныя аркушы’ [6, с. 204].

[2] Свяшчэннае Пісанне ў цэлым абазначалася ў старажытнагрэчаскай яшчэ як *αι γραφαι* (plur.), калькай якога ў царкоўнаславянскай было «боукы» (plur. tant.!). Ужытае ў адзіночным ліку, яно звычайна абазначала пэўныя вершы Пісання.

з'явілася ва ўваходных мініяцюрах рукапісных Евангелляў і пасля часта замяняла традыцыйную выяву Іаана, дзе апостал сядзіць і піша.

Літаратурнай крыніцай гэтай кампазіцыі з'яўляецца ранневізантыйскі апокрыф «Хаджэнне Іаана Багаслова», які прыпісваецца св. Прохару — вучню апостала Іаана і аднаму з сямі першых дыяканаў Іерусалімскай царквы. Прохар суправаджаў настаўніка ў яго вандраваннях, у тым ліку і падчас прабывання таго на в. Патмас. Як распавядае «Хаджэнне», апостал з Прохарам падняліся на пустынную гару, дзе тры дні пасціліся і маліліся. Напрыканцы трэцяга дня загрымеў гром, блікнула маланка і гара затрэслася. Прохар ад страху ўпаў на зямлю; Іаан падняў яго, пасадзіў побач і загадаў запісваць усё, што той ад яго пачуе. Пасля гэтага Іаан зноў памаліўся, а потым пачаў дыктаваць «На пачатку было Слова» і далей, і дыктаваў два дні і шэсць гадзін… Падобным чынам, трохі пазней, прадыктаваў апостал Прохару і Аб'явенне: пасля 10 дзён жорсткага посту Іаан пачуў: «Пацярпі яшчэ 10 дзён без харчавання, і будзе табе аб'явенне шмат чаго вялікага». І праз 10 дзён анёлы Божыя сышлі да яго і паведамілі яму шмат невымоўнага. А калі Прохар вярнуўся да настаўніка, той паслаў яго па чарніла і пергамен і потым два дні дыктаваў тое, што пачуў і ўбачыў ад анёлаў, а Прохар запісваў…

У візантыйскай традыцыі існавала два варыянты выявы: у больш ранняй версіі (XI–XIV стст.) Іаан Багаслоў стаіць сярод скал поруч з вучнем, які піша пад яго дыктоўку. У Палеалогаўскую эпоху прэваліруе кампазіцыя, дзе Іаан і Прохар сядзяць на фоне пячэры. Евангеліст рэзка адвярнуўся ад вучня і глядзіць уверх, на выяву сегмента неба з залатымі промнямі, адкуль з'яўляецца рука, якая благаслаўляе, — старажытны сімвал трыадзінага Бога; ад рукі зыходзяць тры промні — сімвалічнае выяўленне дабрадару, праз які апосталу даецца веданне і разуменне богадухнавеннага тэксту Евангелля. Левая рука Іаана паднесена да вуха, указваючы на пільную ўвагу апостала і яго імкненне не прапусціць ніводнага слова з дабрадатнага адкрыцця; правая — дакладна паўтарае жэст благаслаўлення, скіраваны на гэты раз да тэксту ў руках Прохара, як сімвалічнае выяўленне непасрэднай перадачы-вербалізацыі таго, што прадыктавана Богам, у літары і словы запісанага…

Адносіны да тэкстаў Св. Пісання як менавіта адзінага твора адзінага Аўтара дакладна выяўлены ў славянскіх першанастаўнікаў, прынамсі ў т. зв. «Прогласе» («Пригласие святоумоу Евангелию») св. Кірыла: «…Тако доуша въсяка опадаеть, Жизни Божия не имушти до века, егда **словесе Божия** не слышитъ… **Нази бо вьси бес кънигь языци**, братися не могуште без оружия съ противьникомь доушь нашихъ… Твръдо ныня оружие имуште, еже ковуть **кънигы Господня**…» [цыт. па: 4, с. 33–36]).

Тое ж стаўленне да тэкстаў Свяшчэннага Пісання захавалася і ў пазнейшай культуры арэалу Slavia Orthodoxa. Вось адпаведныя кантэксты: «Святыи Константин Философ, нарицаемый Кирил, тъ и нам **писмена** (азбуку. — *Л. Л.*) **сотворил и книги** (Св. Пісанне. — *Л. Л.*) **преложил**; и Мефодий, брат

его, епископ Моравский» («Сказанне аб пісьменах» чарнарызца Храбра»); «Мефодии же посади 2 попа скорописца зело и **преложи вся книги** исполнь от гречьска языка въ словенеск» (Лаўр. 898); «…крещена бысть земля болгарьска, и **преложиша книги** от греческаго языка на словенский язык Кирилл Философ с Мефодием» («Хронограф 1493», арк. 439 б); «Ярославъ любя церковьныя оуставы… и **книгамъ прилежа**, почитая часто, в день и вь нощи» (Іпац. 1037); «дѣло законьное мьни **чьтение книжьное**: егда бо умъ съ языкъмь къто хочеть исцѣлити, то **въ книгы вьину да зрить**», «…еретикъ чловѣкъ отъвраштяти ся, **книгы прѣданыя почитати**, а въ съкръвеныя отинудь не приницяти» («Изборник 1076»); «кто бо постражеть болезнью тою, яко же **книги глаголють**, тѣло его мучиться, а душа его спасеться» (Іпац. 1174); «вся земля попленена бысть... еже **притъчею глаголють книги**, не оставлешюся камень на камени» (Іпац. 1221); «**розъгноувъ же книги** и выняся емоу пророчьство Исаино» (Іпац. 1276) і г. д.

У гэтым сэнсе вельмі паказальна, што і сам тэрмін «Біблія» распаўсюдзіўся ва ўсходнеславянскай культуры акурат тады, калі паняцце «къниґы» (менавіта ў форме pluralia tantum) страціла свае спецыфічныя аб'ём і змест, пачало ўжывацца як у адзіночным, так і ў множным ліку і насамрэч абазначаць сшытыя ў адзін пераплёт аркушы паперы альбо пергамену з нанесеным на іх тэкстам — няважна, якога зместу.

І менавіта ў такім, перастворaным, другасным сэнсе разумее гэтае паняцце Ф. Скарына: «**Библиа** греческим языком по-рускии **сказуется Книги**…», — піша ён у «Прадмове да поўнай Бібліі». Так, Скарына быццам бы ведае, што грэчаскае «Біўлія» перакладаецца на рускую мову як «кнігі», але, здаецца, у грэчаскай мове ён не адрознівае множны лік (βιβλια) ад адзіночнага (βιβλός), бо адразу, пацвярджаючы сваё меркаванне цытатай, «удакладняе»: «Тако убо святыи Матфеи починаеть Христово благовествование: **Библос** генезеос Исус (адпаведна грэчаскаму тэксту, трэба было б ужыць форму «Ису». — *Л. Л.*) Христу, то есть по-руски Книга родства Исус Христова. А можете тым именемъ называти **вси книги Ветхаго и Новаго закону** для достоиности его, понеже **Библия** зуполна все то в собе замыкаеть».

Як бачна, абедзве формы — і «Библиа», і «Библос» — ён інтэрпрэтуе як формы множнага ліку, а не pluralia tantum і sing. адпаведна. І гэта сведчыць пра тое, што Біблія ў свядомасці Скарыны — не больш як звод разнастайных кніг, не звязаных адзіным аўтарам і адзінай мэтай. Хутчэй наадварот, Скарына ўказвае на розныя мэты и розныя прадметы выяўлення ў розных біблейскіх кнігах, як тое вынікае і з яго славутай прадмовы да «зуполнай Біўліі»: «…Ту научение седми наук вызволеных достаточное. Хощеши ли умети *граматику*… знайдеши в зуполной Библии, Псалтыру, чти ее. Пак ли ти ся любить разумети *логику*… чти книгу светого Иова или Послания светого апостола Павла. Аще ли же помыслиши умети *риторику*… чти книги Саломоновы… Восхощеш ли пак учитися *музики*, то ест певници, премножество стихов и

песней светых по всей книзе сей знайдеши. Любо ли ти ест умети *аритметику*… четвертыи книги Моисеевы часто чти. Пак ли же имаши пред очима науку *геометрию*… чти книги Исуса Наувина. Есть ли *астрономии* или звездочети — найдеш… во Исусе Наувине… во книгах Царств… во светом Еувангелии… Аще ли же кохание имаши ведати *о военных а о богатырских делех*, чти книги Судей или книги Махавеев, более и справедливее в них знайдеш, нежели во Александрии или во Тройи. Пак ли же вократце сведати хощеши много тысещей лет *летописець*, чти книги Паралипомена… Потребуеши ли *науки и мудрости добрых нравов*, часто прочитай книги Исуса Сирахова а Притчи Саломоновы…» [3, с. 8–9].

Новае стаўленне да Бібліі асабліва бачна, калі параўнаць гэтыя Скарынавы развагі з магчымай іх крыніцай — згаданай вышэй, знешне падобнай, але па сутнасці, па сэнсе процілеглай сентэнцыяй з Ізборніка 1073: «Аште бо повестныя хоштеши почитати, имаши цесарския кънигы, аще ли хытростьныя и творитвьныя, то имаши пророкы, Иова, Притьчьника… яко Господа единого мудрааго речи суть» (арк. 204), дзе асобныя біблейскія кнігі выразна аб'яднаныя перакананнем пра агульнага іх Аўтара.

Не адрозніваючы грэчаскія формы адзіночнага і множнага ліку, Скарына працягвае: «О сеи книзе пишеть евангелиста, наперстникъ Христов во узъявлении своемъ, глаголя: И видехъ во десници седящего на престоле книги, написаны внутрь изовнутрь (Ап 5, 1)…», маючы на ўвазе, як вынікае з кантэксту, менавіта Біблію. Між тым Іаан Багаслоў гаворыць зусім пра іншую кнігу — у грэчаскім тэксце, як і ў царкоўнаславянскім, тут цалкам слушна ўжыта форма адзіночнага ліку: «Και ειδον… βιβλίον…», «И видехъ… книги…». Адпаведна традыцыйным тлумачэнням гэтага фрагмента, гаворка ў ім ідзе пра «Боскую кнігу (альбо, дакладней, світак) лёсаў»; крыніцай жа яго лічыцца кніга прарока Іезекііля: «І ўбачыў я, і вось, рука працягнутая да мяне, і вось, у ёй кніжны світак. І Ён разгарнуў яго перада мною, і вось, світак спісаны знутры і звонку, і напісана на ім: плач, стогн, і гора» (Іез 2, 9–10).

«Кніга», згаданая ў Ап 5, 1, якую Скарына неправамерна атаясамлівае з Бібліяй, часта асацыюецца таксама і з «Кнігай жыцця», назва якой, як мяркуецца, звязана з радаводнымі спісамі (гл. Быц 5, 1; Неем 7, 5, 64; 12, 22; Іез 13 і г. д.). Падобна да таго, як у радавод уносяцца імёны ўсіх членаў роду (як і ў радаводзе, з якога пачынаецца згаданае Скарынам Евангелле ад Мацвея), Бог захоўвае імёны ўсіх, хто толькі жыў на зямлі (Пс 138:16), у першую чаргу — імёны праведнікаў (Пс 68, 29; Ап 13, 8; 17, 8; 21, 27), каб аддаць ім належнае (Лк 10, 20; Флп 4, 3 і інш.); грэшнікі ж будуць выкраслены з «Кнігі жыцця» і загінуць для вечнасці (Зых 32, 32 і далей; Пс 68, 29; Ап 3, 5)…

Такім чынам, рэдакцыйна-выдавецкая дзейнасць Ф. Скарыны дэманструе творчую рэфлексію, якая адносіцца да «культурнага коду», вельмі адрознага ад таго, які быў уласцівы тагачаснай культуры «простых посполітых» людзей; і гэта, думаецца, было галоўнай прычынай таго, што выданне «Біўліі рускай»

не мела шырокага попыту сярод праваслаўнага насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага.

## Скарачэнні

Іпац. — Іпацьеўскі летапіс
Лаўр. — Лаўрэнцьеўскі летапіс

## Літаратура


1. Алексеев, А. А. Текстология Славянской Библии / А. А. Алексеев. — СПб.: Дмитрий Буланин, 1999 // http://krotov.info/library/01_a/le/kseev.htm. — Дата доступу: 10.04.2012.
2. Бычков, В. В. Византийская эстетика/ В. В. Бычков. — М.: Искусство, 1977. — 200 с.
3. Скорина, Ф. Предисловие ко всей Библии / Ф. Скорина // Біблія: Факс. ўзнаўленне Бібліі, выд. Ф. Скарынаю ў 1517–1519 гадах: у 3 т. / прадмова А. Л. Петрашкевіч; адк. рэд. С. В. Кузьмін. — Мінск: БелСЭ імя Петруся Броўкі, 1990. — Т. 1.
4. Топоров, В. Н. Святость и святые в русской духовной культуре / В. Н. Топоров. — М.: «Гнозис» — Школа «Языки русской культуры», 1995. — Том I: Первый век христианства на Руси. — 875 с.
5. Успенский, Б. Семиотика истории. Семиотика культуры // http://www.gumer.info/bibliotek_Buks/Culture/Ysp/03.php. — Дата доступу: 3.04.2012.
6. Этимологический словарь славянских языков / под ред. О. Н. Трубачева. — Т. 13. — М.: Наука, 1987.

**Таццяна Грыневіч** *(Мінск, Беларусь)*

# АДРАСАТЫ Ў ВЫДАННЯХ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ І ЯГО ПАСЛЯДОЎНІКАЎ

Вынаходніцтва кнігадрукавання стала адным з важных фактараў, якія ў XVI–XVII стст. істотна паўплывалі на развіццё культуры і пашырэнне асветы на славянскіх тэрыторыях. Вельмі хутка друкаваная кніга стала новым прадметам матэрыяльнай культуры, які дзякуючы сваёй масавасці, даступнасці і адноснай таннасці ператварыўся ў асноўны сродак духоўнага ўзбагачэння і крыніцу адукацыі тагачаснага грамадства.

Кнігадрукаванне на ўсходнеславянскіх землях у першую чаргу звязваецца з імем Францыска Скарыны. Перакладчык, пісьменнік, філосаф-мысліцель, гуманіст і асветнік, Скарына аказаў значны ўплыў на развіццё многіх сфер культуры. Творчасць славутага палачаніна стала прыкладам для дзейнасці цэлага шэрагу яго паслядоўнікаў: Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Кузьмы і Лявона Мамонічаў, Мялеція Сматрыцкага і іншых. Праца на ніве кнігадрукавання аб’ядноўвае гэтых розных паводле веравызнання і творчай накіраванасці асоб у адзін шэраг друкароў-асветнікаў. Тым не менш, нягледзячы на агульнасць задач, адрасаты выданняў і, адпаведна, функцыянальнае прызначэнне тэкстаў істотна адрозніваліся.

Паколькі большасць кірылічных друкаваных выданняў XVI–XVII стст. уяўлялі сабой стандартныя рэлігійныя тэксты, прызначаныя для набажэнства ў царкве альбо чытання дома, то пра канкрэтную адрасаванасць гэтых кніг можна меркаваць толькі са слоў саміх выдаўцоў. Такімі элементамі, якія фіксавалі аўтарскія думкі і з’яўляліся непасрэдным сродкам зносін з чытачом, былі часткі прадмоўна-пасляслоўнага комплексу. У. Г. Кароткі ў складзе гэтага комплексу вылучае эпіграму, прысвячэнне, прадмову і пасляслоўе [2, с. 8]. Эпіграмы і прысвячэнні вырашалі праблему ўзаемаадносін паміж выдаўцамі і мецэнатамі — фундатарамі, якія апекавалі асветнікаў, выдаткоўвалі сродкі на друкаванне або заказвалі выданне пэўных кніг. А элементамі, якія звязвалі трыяду аўтар–кніга–чытач, былі прадмовы і пасляслоўі.

Францыск Скарына паспеў выдаць 25 (гэта «Псалтыр», 22 кнігі Бібліі, «Малая падарожная кніжка» і «Апостал») з 27 падрыхтаваных кніг (кніга «Прарокаў» і «Параліпаменон» таксама былі перакладзены Скарынам, але па нейкай прычыне не выйшлі [4, с. 375]). І ў прадмове ці пасляслоўі амаль да кожнай з іх выдавец канстатаваў: «…казал есми тиснути книгу… рускым языком богу ко чти и людем посполитым к научению» [4, с. 29]. Ужо зыходзячы з гэтых радкоў, можна меркаваць пра ідэйную аснову і творчую скіраванасць дзейнасці Скарыны, характар якіх прадвызначыў той час, калі друкар жыў і працаваў.

У еўрапейскай гісторыі гэты перыяд вядомы як эпоха гуманізму. У цэнтры гуманістычнай этыкі знаходзіўся чалавек і праблема яго зямнога прызначэння, выхавання і маральнага ўдасканалення. Мастацтва і навука таго часу таксама арыентаваліся на чалавечую асобу, у выніку чаго ўзнік новы тып культуры, пераважна свецкай па сваім характары. Яшчэ адной выразнай асаблівасцю эпохі было імкненне да набыцця і распаўсюджвання ведаў, адукацыі, цікавасць да нацыянальных моў, а таксама філалагічнае вывучэнне антычных і біблейскіх тэкстаў. З мэтай пашырэння асветы і маральнага ўдасканалення чалавека гуманісты і стваралі пераклады Бібліі, якая, працягваючы заставацца духоўнай кнігай, становіцца такім чынам яшчэ і свецкі актуальнай і цікавай.

Што датычыцца нашага земляка, то яго філасофска-эстэтычныя погляды ўяўлялі сабой своеасаблівы сінтэз сярэднявечна-хрысціянскіх і рэнесансна-гуманістычных ідэй. У аснове яго разумення свету ляжаў тэалагічны прынцып, таму традыцыйна друкар прысвяціў свае выданні ў першую чаргу «ко чти и к похвале створителю, спасителю, утешителю богу в троици единому» [3, с. 37]. Аднак пад уплывам адраджэнскага антрапацэнтрызму галоўнай каштоўнасцю Скарына лічыў чалавека, таму адрасаваў свае кнігі менавіта «людем», і пры гэтым канкрэтызаваў: «простым посполитым» [3, с. 37] — гэта значыць свецкім, мірскім, не духоўным асобам, што само па сабе было досыць незвычайным. Ужо ў адным з першых выданняў у «Предъсловии доктора Франъциска Скорины с Полоцька во всю Бивлию рускаго языка» аўтар тлумачыў, што свяшчэнныя тэксты ўяўляюць сабой кнігі, «написаны… внутрь» [3, с. 8] — гэта значыць утрымліваюць сакральныя веды, спасцігнуць якія можа толькі духоўная асоба; але тут жа дадаваў, што «написаны теж и зовнутрь, понеже не толико докторове а люди вченые в них разумеють, но всякий человек простый и посполитый, чтучи их или слухаючи, можеть поразумети, что ест потребно к душному спасению его» [3, с. 8–9]. Падкрэсліваючы ўнікальнасць біблейскіх твораў, друкар сцвярджаў, што чытаць, разумець, чэрпаць адтуль для сябе веды і духоўны спажытак могуць не толькі тэалагічна дасведчаныя людзі, але і свецкі чалавек: «…тако младенцем и людем простым ест наука, учителом же и людем мудрым — подивление. Яко река дивная мелка — по ней же агнець брести можеть, а глубока — слон убо пливати мусить» [3, с. 9]. Такім чынам, як сапраўдны асветнік, арыентаваны на пашырэнне навукі і адукаванасці, выдавец лічыў Біблію той універсальнай кнігай, якая з’яўляецца крыніцай сакральных ведаў і таінстваў для царкоўнікаў, а сродкам пашырэння светапогляду, самаадукацыі і самаўдасканалення — для ўсіх астатніх людзей. І адрасаваў свае выданні Францыск Скарына не святым айцам, а ў першую чаргу «людем простым посполитым к пожитку и ко розмножению добрых обычаев, абы, научившися мудрости, добре живучи на свете, милостивого бога хвалили» [3, с. 37]. У дачыненні да «Малой падарожнай кніжкі» можна адзначыць, што ўжо сам фармат выдання, зменшаны для зручнасці карыстання, і яго тып выразна сведчаць пра функцыянальную

прадвызначанасць кнігі. Такім чынам, Скарынавы выданні на той час былі з’явай неардынарнай, бо прызначаліся не для набажэнства і выкарыстання ў царкве, а менавіта для дамашняга чытання. Гэтым самым мысліцель, паводле выразу С. А. Падокшына, «абвясціў права індывіда на адносна незалежнае вытлумачэнне біблейскіх тэкстаў; вылучыў палажэнне аб здольнасці чалавека дасягнуць ідэалу пры дапамозе індывідуальных намаганняў, без царкоўнага асвячэння; пастуліраваў неабмежаванае права чалавека на пазнанне і творчасць» [1, с. 23]. У гэтым думкі Скарыны былі сугучныя ідэям рэфарматараў, што наогул адмаўлялі пасрэдніцтва царквы ў зносінах чалавека з Богам. У «гусіцкай ерасі», як вядома, абвінавачвалі і самога Скарыну. Але прадмовы друкара настолькі верацярпімыя і нават надканфесійныя, што зыходзячы з іх тэкстаў наогул немагчыма адназначна сказаць, якія рэлігійныя прыярытэты меў асветнік. Прысвячаючы кнігі ўсім «простым», свецкім людзям, Скарына сам не абмяжоўваў іх канфесійнай прыналежнасці. Наадварот, у шэрагу твораў («Предъсловие доктора Франъциска Скорины с Полоцька во всю Бивлию рускаго языка», «Предословие доктора Франъциска Скорины с Полоцька в книги “Суддзяў Ізраилевых”» і інш.) ён, звяртаючыся да патэнцыяльнага чытача, піша агульна «мы, хрестиане» [3, с. 11]. А ў прадмове да «Іаковлева соборънаго послания» аўтар, коратка пераказваючы змест кнігі, заўважае: «Іаков, апостол Исус Христов, … пишеть сие послание ко всем верующим во Христа различными заповедьми, наставляя нас всех хрестиан» [3, с. 185]. Відавочна, падобныя мэты ставіў перад сабой і Францыск Скарына, калі наладжваў друкарскую справу.

Выдавецкую дзейнасць гуманіста-асветніка працягнулі прадстаўнікі пратэстанцкага веравучэння Сымон Будны і Васіль Цяпінскі. Рэфармацыя на нашых землях суіснавала адначасова з Адраджэннем, больш таго, як адзначае С. А. Падокшын, «ва ўсходнеславянскім рэгіёне мы маем справу з узаемапранікненнем Рэфармацыі і гуманізму» [1, с. 53]. Рэфарматары гэтак, як і Скарына, ставілі перад сабой асветніцкія мэты. Паколькі пратэстантызм быў вучэннем, арыентаваным на індывідуальную свядомасць чалавека, і сцвярджаў, што для спасціжэння боскай ісціны не патрэбна пасрэдніцтва царквы, то той крыніцай, дзе вернік шукаў сапраўдны змест адкрыцця і шлях да выратавання і вечнага жыцця, маглі быць толькі кнігі Свяшчэннага Пісання. Таму перад ідэолагамі і прапаведнікамі рэфармацыйнага руху паўставала задача зрабіць Біблію максімальна масавай і даступнай, што паспяхова можна было ажыццявіць з дапамогай кнігадрукавання. Аднак, сцвярджаючы прынцыпы рэлігійнай свабоды і індывідуальнага асэнсавання біблейскіх тэкстаў самім чалавекам, выдаўцы лічылі сваім абавязкам накіраваць яго думкі ў правільнае рэчышча, таму ў прадмовах да кніг не толькі тлумачылі і каментавалі незразумелыя для чытача месцы, але і закраналі пытанні, што значна выходзілі за межы зместу кнігі. Напрыклад, разважалі над праблемай узаемаадносін царквы і паствы, выказвалі непакой, выкліканы занядбаннем

спрадвечных культурных і моўных традыцый. Гаворка з чытачом у гэтых выпадках прымала больш прыватны характар. Сымон Будны, Мацвей Кавячынскі і Лаўрэнцій Крышкоўскі ў прадмове да нясвіжскага «Катэхізіса» 1562 г. прызначалі сваю кнігу, як і Скарына, «…для простых людей языка руского» [2, с. 24], але звярталіся да чытача непасрэдна і асабіста словамі «възлюбленый мой брате» [2, с. 28]; Васіль Цяпінскі ў прадмове да «Евангелля» адрасуе кнігу «побожным читолником» [2, с. 36], даволі па-свецку звяртаючыся да чытачоў «зацные панове» [2, с. 35].

Не менш цікавым уяўляецца і выданне заблудаўскага «Евангелля вучыцельнага» 1569 г. У прадмове, падпісанай імем самога Рыгора Аляксандравіча Хадкевіча, дзяржаўнага дзеяча і мецэната, гаворыцца, што адрасуецца кніга «на поученіе христоименитым людем ко исправленію душевному и телесному» [2, с. 29]. Сутнасць гэтых слоў раскрываецца ніжэй, калі аўтар піша пра тое, што «в нынешніи мятеж мира сего… крестіяньстіи людіе новыми и различными ученіи в вѣре поколебашася и мнѣніем своим разсверепѣша и от єдінаго согласія в вѣре живущих отвратишася» [2, с. 31]. Як вынікае з гэтых слоў, праваслаўнага князя непакоіла сітуацыя ўзрастаючай папулярнасці рэфармацыйных ідэй, падтрыманых на нашых землях ледзь не самымі ўплывовымі асобамі, а таксама множанне друкаваных кніг, што прыцягвалі на бок пратэстантаў усё большую колькасць вернікаў. Такім чынам, выданне заблудаўскага «Евангелля» было своеасаблівым адказам праваслаўных на распаўсюджанне на тэрыторыі ВКЛ пратэстанцкага веравучэння. У сваёй прадмове аўтар уздымае праблему адыходу людзей ад «ісцiннай веры» і прысвячае выданне не праведным вернікам, але «заблудшым душам», гэта значыць перайшоўшым у пратэстантызм асобам: «…не пріидох призвати праведных, но грѣшных покаяніе. И не требуют здравіи врачя, но болящіи» [2, с. 31–32]. Аўтар прадмовы нібыта вядзе з будучымі чытачамі сардэчную размову, называючы апошніх «любиміи крестіяньстіи человѣцы» [2, с. 31] або «любіміи» [2, с. 32]. Падобныя звароты падкрэсліваюць новазапаветны дух прадмовы: пазбаўленая якіх-небудзь пагроз Божага пакарання няверным і прасякнутая пафасам любові і ўсёдаравання да тых, хто памыліўся, яна мякка, але пераканаўча запрашае адступнікаў вярнуцца да праваслаўнай веры.

На змену Адраджэнню і Рэфармацыі прыйшла эпоха Контррэфармацыі, вядомая ў айчыннай гісторыі не толькі вяртаннем чалавека да цэласнага тэалагізаванага светапогляду, але і актыўным распаўсюджваннем каталіцызму. Створаны Папам Рымскім спецыяльна для змагання з рэфармацыйнымі плынямі, пры спрыяльным апекаванні вярхоўнай улады Рэчы Паспалітай, ордэн езуітаў настолькі хутка пачаў пашыраць сферы свайго ўплыву, што ў недалёкім часе фронт процістаяння праваслаўных і каталікоў з пратэстантамі радыкальна перамясціўся, развёўшы па розныя бакі царкву і касцёл. Узнікненне ўніяцтва і пераход у новае веравызнанне часткі праваслаўнага духавенства на чале з мітрапалітам Рагозам яшчэ больш абвастрылі абстаноўку. Старонкі

літаратурных твораў становяцца форумам для прапаганды тэалагічных ідэй, што дае пачатак гарачай рэлігійнай палеміцы. З гэтага часу тэксты прадмоў да богаслужбовых кніг набываюць завостранасць, асноўнай мэтай выдання для друкароў становіцца не асвета, а доказ і абгрунтаванне правільнасці і ісціннасці сваёй веры. Для гэтых твораў абагульнены зварот да ўсіх хрысціян быў, зразумела, непрымальным, таму ў «Апокрисисе» Хрыстафор Філалет адрасатам падкрэслена называе «греческое релѣи люди» [2, с. 49] і звяртаецца да чытача не інакш, як «чительнику ласкавый» [2, с. 47]. Для выданняў брацкіх друкарняў («Книга Нового Завѣта» 1611 г., «Діоптра» 1612 г., «Анфологион» 1613 г., «Новый Завѣт» 1623 г.) характэрным з’яўляецца этыкетны зварот «възлюбленныи о Христѣ братія и честныи господіе!» [2, с. 58, 63, 64]. Акрамя таго ў прадмове да «Діоптры» знаходзім таксама выразы «вожделеннѣйшій читателю» і «любовный читателю» [2, с. 61–62], а ў віленскім «Новым Завѣте» 1623 г., напрыклад, «чителнику ласкавый» [2, с. 88]. Манахі Куцеінскага манастыра, пускаючы ў свет «Гисторію», ў першую чаргу адрасавалі сваю кнігу «благочестивому и набожному» праваслаўнаму чытачу [2, с. 92], хаця з’яўлялася яна, па сутнасці, своеасаблівым адказам на аднайменнае выданне Пятра Скаргі — аднаго з ініцыятараў Берасцейскай уніі.

Прааналізаваўшы прадмовы да друкаваных кніг XVI — першай паловы XVII ст., можна прыйсці да высновы, што выбар адрасата знаходзіўся ў прамой залежнасці ад гісторыка-палітычных і культурных умоў развіцця грамадства. У сваіх прадмовах Францыск Скарына ставіў перад сабой перш за ўсё асветніцкія, а не багаслоўскія мэты, а Біблія разглядалася ім не столькі як рэлігійная кніга, колькі як крыніца ведаў, падручнік для вывучэння «сямі вольных мастацтваў», дарадчык у канкрэтных жыццёвых сітуацыях, аснова для этычнага і эстэтычнага самавыхавання асобы. Таму адрасат аўтарам мысліцца надзвычай шырока і абагульнена: усе хрысціяне, «посполитый люд», «братия… русь» [3, с. 77]. Перад рэфарматарамі паўставалі іншыя задачы. У сваіх выданнях яны рыхтавалі глебу для ўзрошчвання новай паствы, якая магла б папоўніць іх пратэстанцкія шэрагі. Таму ў прадмовах Буднага і Цяпінскага маюць месца больш блізкія да адрасата, індывідуалізаваныя звароты, пачынаючыся даволі нейтральнымі «зацные панове» і «побожным читолником» у Цяпінскага і заканчваючыся такім асабістым заклікам Буднага, як «възлюбленый мой брате». Эпоха Контррэфармацыі, якая прымусіла праваслаўных (кім пераважна і былі выдаўцы і чытачы кірылічных кніг) з’яднацца перад пагрозай акаталічвання, унесла свае карэктывы ў размову выдаўца з чытачом, таму, звяртаючыся да адрасата, аўтары прадмоў імкнуліся выклікаць у таго пачуццё духоўнай блізкасці і канфесійнай роднасці і выкарыстоўвалі звароты «възлюбленныи о Христѣ братія и честныи господіе!», «любовный читателю», «христіанине милый» [2, с. 84] і падобныя. Пры гэтым трэба адзначыць, што з часам змянялася не толькі адрасаванасць тэкстаў, але і сам жанр прадмовы, які ўзнік ва ўсходнеславянскай рукапіснай літаратуры X–XII стст., аднак шы-

рокае распаўсюджанне атрымаў менавіта ў творчасці Францыска Скарыны. Асветнік, выкарыстаўшы вопыт айчыннай і заходнееўрапейскай літаратуры, увёў прадмову ў шырокае выкарыстанне, пашырыў яе функцыі. Цяпер тут знаходзіла сваё месца не толькі аўтарская інтэрпрэтацыя зместу кніг, але і адлюстроўваўся светапогляд выдаўца. Стаўшы папулярнай у друкаванай кірылічнай кнізе XVI ст., прадмова эвалюцыянавала. Таму, усё больш адрываючыся ад зместу твора, які адкрывалі, прадмовы да кніг пачатку XVII ст. набліжаюцца да рэлігійна-палемічных трактатаў, ператвараюцца ў сродак ідэалагічнай барацьбы.

## Літаратура

1. Падокшын, С. А. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага / С. А. Падокшын; пад рэд. А. С. Майхровіча. — Мінск: Навука і тэхніка, 1990. — 285 с.: іл.
2. Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны / уклад., уступ. арт. і камент. У. Г. Кароткага. — Мінск: Навука і тэхніка, 1991. — 309 с.: іл.
3. Францыск Скарына і яго час: энцыкл. давед. / Беларус. Сав. Энцыклапедыя; рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск: БелСЭ, 1988. — 608 с.: іл.
4. Чапко, В. У. Кнігавыдавецкая дзейнасць Ф. Скарыны / В. У. Чапко // Францыск Скарына і яго час: энцыкл. давед. / Беларус. Сав. Энцыклапедыя; рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск: БелСЭ, 1988. — С. 375–376.

**Яўген Міронччык, Марта Чэчат** *(Мінск, Беларусь)*

# АНТЫЧНАСЦЬ І РЭНЕСАНС. АРХЕТЫПІЧНЫЯ ВЫТОКІ АСВЕТНІЦТВА ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Вузкапрофільныя навуковыя даследаванні могуць даць прыватны погляд на вонкавую рэчаіснасць, але аніяк не патлумачаць асацыятыўны спосаб чалавечага мыслення, фундаментальнай асновай якога з'яўляюцца падсвядомыя патэрны быцця, што матывуюць неўсвядомленыя ўчынкі кожнага чалавека.

У працы пададзена спроба пошукаў тых архетыпаў, якія леглі ў аснову гуманістычнага вучэння і асветы Францыска Скарыны. Дзеля гэтага найбольш прыдатнымі з'яўляюцца сацыямадэлі паводзін антычных багоў. У старагрэцкім міфе аб Пракруставым ложы злачынца Пракруст пільнаваў падарожнікаў на дарозе з Мегар у Афіны. Калі падарожнік аказваўся карацейшым або даўжэйшым за ложа, ён выцягваў яго або проста адразаў. Гэты міф паказвае на існаванне ў часы антычнасці нарматыўнай этыкі політэістычнага грамадства. Аналітык Шынода Болен адзначае супадзенне мадэлі Пракруства ложа з сучаснымі стэрэатыпамі ў паводзінах людзей. Даследчыца падкрэслівае, што калі архетыпічныя патэрны, якія ляжаць у глыбіні мозгу за парогам свядомасці і матывуюць паводзіны людзей, у значнай меры адрозніваюцца ад таго, як «павінна быць», прыстасаванне да таго ці іншага грамадскага стэрэатыпу аказваецца вельмі пакутлівым [2, с.17]. Разгледзець прычыны гэтых пакут магчыма толькі праз архетыпы, дэфініцыю якіх найбольш адэкватна патлумачыў Карл Густаў Юнг. На яго думку, архетып — гэта пазачасавыя ўнутрана абумоўленыя патэрны быцця і паводзін, успрымання і рэакцыі ўсіх людзей [2, с.19].

З часоў ранняга Сярэднявечча чалавецтва мусіла пераадольваць шматлікія антыгуманныя праявы калектыўнага падсвядомага, якое набыло сістэмны характар у мадэлі ўлады Рымскай імперыі. Невыпадкова менавіта ў Старажытным Рыме ў XIV ст. загучалі дэмакратычныя ідэі, што аформіліся ў вучэнні «humana studia», з якога пачаўся новы шлях развіцця еўрапейскай цывілізацыі.

Першым прадстаўніком гуманізму на землях Беларусі стаў Францыск Скарына. Яго публікацыі Бібліі на старабеларускай мове з мэтай асветы ў родным краі паклалі пачатак актыўнаму развіццю ідэй гуманізму, найперш у высокашляхецкім асяроддзі. Найбольш паслядоўнымі прыхільнікамі кальвінісцкай плыні пратэстантызму былі магнаты Радзівілы, Сапегі, Кішкі і Хадкевічы, якія спрыялі развіццю брацкіх школ у Вільні, Магілёве і Слуцку. А выдавецкую дзейнасць Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага прадоўжылі братчыкі: браты Зізаніі, М. Сматрыцкі, Л. Карповіч, С. Собаль, А. Мажылоўскі, Ф. і І. Іяўлевічы і І. Труцэвіч [6, с.76].

Менавіта ў час Рэнесансу сялянская вайна ў Германіі Томаса Мюнцэра, рэфарматарская дзейнасць Марціна Лютэра і Жана Кальвіна ўпершыню супрацьпаставілі «плебейскую» этыку арыстакратычнай. Праз гэты канфлікт у калектыўным падсвядомым сярэднявечнага грамадства выявілася амбівалентная барацьба паміж мужчынскім і жаночым комплексамі (anima–animus). Мужчыны, схільныя да жорсткасці, гатовы былі рызыкаваць дзеля ўлады і багацця цаною шматлікіх ахвяр. Відавочна, у іх былі актыўна задзейнічаны ценевыя структуры падсвядомага, уласцівыя вярхоўнаму алімпійскаму богу Зеўсу. Шынода Болен адзначае сімвалічны татэм Зеўса — арла, які «ў любы момант можа абрынуцца ўніз, каб схапіць сваімі кіпцюрамі тое, што яму прыпадае на смак» [2, с. 20]. Такім чынам, можна ідэнтыфікаваць адзін з асноўных гістарычных архетыпаў — «комплекс Кронаса» [2, с. 34].

Згадваючы «сямейныя гісторыі» алімпійскіх багоў, Шынода Болен адзначае, што Зеўс, як яго бацька і дзед, не маглі пераадолець ценевыя праявы архетыпу бацькі. Яна паведамляе, што Уран, дзед Зеўса, незадаволены пладнасцю жонкі Геі, народжаных ёю дзяцей хаваў у сваім целе. Кронас, бацька Зеўса, па змове з маці адсек сярпом Урану геніталіі і такім чынам пазбавіў яго ўлады. У хуткім часе Кронас прыпадобніўся да свайго бацькі і метадычна праглынаў народжаных жонкай Рэяй дзяцей. Адсюль вынікае, што менавіта вышэйшы статус уладара вымагаў ад бацькоў пільнавацца свайго «лёсу», бо усім ім была наканавана аракуламі пагібель ад рукі сына-спадчынніка. Гэтак жа і сам Зеўс праз падман угаварыў жонку Метыду паменшыцца ў памерах. Такім чынам паменшылася магія і боскія атрыбуты тытаніды. Зеўс, як і яго бацька, лёгка праглынуў сваю цяжарную жонку.

Яшчэ адзін міф аб Эдыпе, які «выпадкова» забіў свайго бацьку Лая, пацвярджае думку аб немагчымасці мужчыны-цара разарваць трагічнае кола «комплексу Кронаса». З таго часу традыцыя выключнага падпарадкавання бацькам стала дамінуючай. Карл Юнг назваў гэты акт «забойства бацькоў» бітвай з драконам [7, с. 107]. У якасці тлумачэння гэтай высновы можна выкарыстаць тэорыю Зігмунда Фрэйда «Tribe» [1, с. 72].

Невыпадкова Скарына скрозь усе прадмовы да кніг «Суддзяў» падкрэслівае факт гвалту і забойства старазапаветнымі царамі мноства сваіх сапернікаў — патэнцыяльных прэтэндэнтаў на ўладарства [5, с. 97–98]. Менавіта ў рэчышчы «комплексу Кронаса» трэба разглядаць акт забойства Ісуса Хрыста, які праз ахвяраванне свайго цела свядома адмовіўся ад перспектывы стаць бацькам-уладаром і, такім чынам, разарваў кола «комплексу Кронаса». З гэтага подзвігу Хрыста пачынаецца новая эпоха ў развіцці чалавечай цывілізацыі. Вось чаму Скарына, пацвярджаючы гуманістычны характар свайго асветніцтва, узвялічвае Ісуса Хрыста. У прадмове да кнігі «Песня Песняў» ён гаворыць аб божай міласці і любові да людзей, што Бог не пагрэбаваў «зысці на зямлю са свайго ўсявышняга прастолу». Далей Скарына засяроджвае ўвагу чытача на вянчанні Хрыста з царквою як з жонкаю, калі ён

атрымаў ад сваёй маці чалавечае цела, а пазней ахвяраваў яго на выратаванне чалавечага свету [5, с. 55–56].

Гаворачы пра нараджэнне Хрыста ў прадмове да кнігі «Зыход», Скарына прыгадвае старазапаветны факт, як Маісей узнёс у пустыні свой жэзл як змяю. Ён піша: «И яко же Моисей вознесе змию во пустыни, тато подобаеть вознестися сыну человеческому…» [5, с. 112]. Змяя — адзін з культавых атрыбутаў Афіны. У старабалканскім культе змяі вучоныя ўгледзелі выявы ранніх жанчын-«жрыц» [4, с. 469]. У шматлікіх політэістычных міфалогіях Вялікая Змяя з'яўлялася сімвалам партэнагенетычнай Вялікай Багіні-Маці.

Відавочна, што ў Маісеевай прамове бачыцца прароцтва, калі сын чалавечы і божы зойме на нябёсах парытэтнае становішча са сваёй маці — Дзевай Марыяй. Дзеву Марыю Скарына ставіць упоравень з усявышнім Богам. Прыгадайма, што ў Евангеллі хрысціян-гностыкаў Яхве названы «сынам вялікай Багіні-Маці, а Тройца складаецца з Айца, Маці і Сына» [3, с. 80].

У прадмове да «Прытчаў цара Саламона» Скарына адзначае, што мудрасць прытчаў Саламонавых — гэта маці найпрыгажэйшых прамоў чалавечых, настаўніца найлепшых цнотаў і ўменняў [5, с. 36]. Менавіта з жаночым вобразам маці ў славянскіх міфалогіях звязаны чалавечыя здольнасці ўладарыць матэрыяльным светам, зямлёй і вадой.

Грэцкае слова «metis» паходзіць ад імя багіні Метыды і перакладаецца як «жыційная мудрасць». Шынода Болен тлумачыць, што «metis» з'яўляецца боскім натхненнем для мастакоў, музыкаў і прадстаўнікоў іншых творчых прафесій [3, с.40]. Менавіта жанчыне-маці традыцыйна належыць роля апякункі хатняга агню.

У старагрэцкай міфалогіі «агонь Гестыіператварае дом у жыллё, а будынак — у хорам-бажніцу. Гестыя была свяшчэнным агнём у цэнтры хатняга ачага. Як архетып яна асацыіруецца з кропкай у цэнтры душы чалавечай, якая называецца — Я. Яна з'яўляецца цэнтрам асобы, архетыпам сэнсу і цэльнасці» [2, с. 104]. Як вядома, старажытныя грэкі вельмі шанавалі Гестыю і да яе агню прыносілі найлепшыя ахвяраванні. Эрых Нойман пісаў, што іудзейскае слова «*ахвяраванне*» (דבקה) азначае «*падыходзіць бліжэй*», набліжацца да Бога. Падчас гэтага рытуалу душу ахоплівае «смяротнае полымя», якое прыводзіць да паваротнага моманту ў жыцці чалавека і выклікае псіхічную трансфармацыю [7, с. 244]. Скарына фактычна адзначае, што Хрыстос неантызаваў архаічную сутнасць рытуалу вогненнага ахвяравання. Тэрмін «neant» (нішто), уведзены Жанам Полем Сартрам, азначае нейтралізацыю руху свядомасці, якая ўспрымае вонкавую рэальнасць як нешта мізэрнае, не вартае ўвагі. Паўтараючы прамову Ісуса Хрыста ў «Пасланні апостала Паўла яўрэям», Скарына ўзнімае пытанне: «…почто ж Господь Бог установил жертвы приносити и над ними грехи исповедати и кровию их кропитися, внегда невозможно ею очиститися…» [5, с. 121]. Далей ён адказвае, што Хрыстос кроўю сваёю нявіннаю грахі людскія перад Богам ачысціў.

Прыём неантызацыі ў пэўным сэнсе выратавальны. Іначай «комплекс Кронаса» і ценевыя іпастасі архетыпу Зеўса (Пасейдон і Гадэс) могуць актывізаваць у калектыўным падсвядомым самыя змрочныя праявы інстынктыўнай прыроды чалавека на індывідуальным узроўні.

## Літаратура


1. Бахтин, М. М. Фрейдизм: критический очерк / М. М. Бахтин, В. Н. Волошинов // CHALIDZE PUBLICATIONS NEW YORK, 1983.
2. Болен, Д. Ш. Боги в каждом мужчине / Д. Ш. Болен. — М.; К.: София, 2005.
3. Болен, Д. Ш. Старшие Богини. Новая психология женщины. Архетипы богинь / Д. Ш. Болен; пер. с англ. — М.: София, 2008.
4. Мифы народов мира: энциклопедия: в 2 т. / под ред. С. А. Токарева. — М.: Большая Российская энциклопедия, М68 2003. — Т. 1, 1987.
5. Францыск Скарына і яго час: энцыкл. давед. / Беларус. Сав. Энцыклапедыя; рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск: БелСЭ, 1988.
6. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 2 / Беларус. Энцыкл.; рэдкал.: Б. І. Сачанка (гал. рэд.) [і інш.]; маст. Э. Э. Жакевіч. — Мінск: БелЭн, 1994.
7. Юнг, К. Психоанализ и искусство / К. Юнг, Э. Нойман; пер. с англ. — М.: Refl-book. К. Ваклер, 1996.

**Андрэй Акушэвіч** *(Мінск, Беларусь)*

# АЎТАРСКІЯ МАРГІНАЛІІ Ў ПРАДМОВАХ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

У выданнях Францыска Скарыны прысутнічае значная колькасць змешчаных усходнеславянскім першадрукаром маргіналій. Найперш гэта глосы (як тлумачэнні незразумелых слоў і выразаў), або «словы на боцех» (паводле Скарыны). Сам беларускі асветнік прызначэнне глос бачыў у наступным: «Так же положил есми на боцех некоторыи слова для людей простых, не рушаючи самое Псалътыри ни в чем же, яко суть онагри, и геродеево жилище, и хлябие и иные слова, которыи суть в Псалтыри неразумныи простым людем, найдуть е на боцех руским языком, что которое слово знаменуеть» [12, с. 18]. Да вывучэння глос, якія Францыск Скарына змясціў непасрэдна да надрукаваных ім тэкстаў біблейскіх кніг, звярталіся беларускія даследчыкі М. Р. Суднік [13], А. І. Жураўскі [9; 8, с. 121–123], У. В. Анічэнка [1] і інш. Разам з тым, глосы да прадмоў і пасляслоўяў беларускага першадрукара не былі выяўлены.

Другая разнавіднасць маргіналій у спадчыне Скарыны — указанні паралельных месцаў Бібліі, або «главы на боцех», «светки или згоды» (паводле Скарыны). Іх значэнне першадрукар патлумачыў такім чынам: «Так же будь ведомо, положил есми некоторые на стороницах в сей Псалътыри главы з розных книг, а то для того, абы знакомито было, иже вси иные светые писма згожаються с Псалтырею и одно на другое светчить. А то, чтучи в тых книгах, иже суть главы на боцех пописаны, знайдете» [12, с. 18]. Рускі даследчык П. У. Уладзіміраў пісаў пра «главы на боцех» наступнае: «Гэтых указанняў няма ў царкоўнаславянскіх Псалтырах, але яны сустракаюцца ва ўсіх выданнях біблейскіх кніг Скарыны; пазней такія ж указанні з’яўляюцца ў Астрожскай Бібліі 1580-81 года. Указанні гэтыя ўяўляюць навуковы прыём тлумачэння Св. Пісання, якому прысвечаны сярэдневяковыя лацінскія зборнікі, так званыя Concordantiae Sacr. Script» [7, с. 85]. І ніжэй: «Далей Скарына тлумачыць прычыну, чаму ён закрануў увесь склад Бібліі: “Прото ж я, Франциско Скорина, меновал есми ту вси тыи писма зособна, абы есте ведали, иже на стороницах кажных книг моего тружания пописаны суть светки или згоды кратце имены сих вышей именованых писм” [12, с. 33]. Гэтыя “светки или згоды” — указанні на паралельныя месцы ў Св. Пісанні, якія Скарына стаў прыводзіць са свайго першага выдання Псалтыра…» [7, с. 110]. Адзначым, што ўказанні паралельных месцаў Бібліі як спосаб экзегезы ўжываюцца і ў выданнях папярэднікаў Скарыны, напрыклад, чэшская Біблія 1506 г. [10], і ў сучасных выданнях Бібліі [3; 11].

У прадмовах Францыска Скарыны ў даволі значнай колькасці прысутнічаюць маргіналіі, падобныя па знешняй форме да ўказанняў паралельных месцаў Бібліі. Яны выкарыстоўваюцца ў большасці пражскіх прадмоў першадрукара, акрамя прадмовы да кнігі Быцця, прадмоў да Першай, Трэцяй і Чацвёртай кніг Царстваў, першай прадмовы да кнігі Ісуса Сірахава, а ў віленскіх прадмовах глосы сустракаюцца толькі ў прадмове да Паслання апостала Паўла да эфесцаў. Але дадзеныя маргіналіі нельга назваць указаннем паралельных месцаў, бо, па-першае, прадмова і кніга Бібліі з'яўляюцца адзінкамі рознага парадку, і па-другое, «главы на боцех» у прадмовах маюць іншае прызначэнне. Названыя маргіналіі найперш маркіруюць чужы тэкст у прадмове і паказваюць яго крыніцу, пры гэтым знаходзяцца непасрэдна каля тэксту, да якога адносяцца, што дазваляе класіфікаваць іх як спасылкі. Разам з тым трэба заўважыць, што такія спасылкі, няхай і блізкія да сучасных навуковых, але маюць дадатковыя функцыі. Калі ўзяць пад увагу сінкрэтычны характар прадмоў Францыска Скарыны, дадзеныя маргіналіі пашыраюць мастацкую прастору прадмоў, уводзяць у іх шырокі біблейскі кантэкст, выступаюць тлумачэннямі да вобразаў і сюжэтаў. Таксама маргіналіі замяняюць цытаты, надаюць прадмовам уласцівасці нелінейнага тэксту, дадаткова сцвярджаюць аўтарытэт Бібліі, паказваюць дасведчанасць аўтара прадмовы, у асобных выпадках утвараюць паказальнік і змест да адпаведных біблейскіх кніг. Усё гэта гаворыць пра тое, што спасылкі з'яўляюцца неад'емнай часткай твораў Францыска Скарыны, якая патрабуе спецыяльнага даследавання. У сваю чаргу, да вывучэння маргіналій Францыска Скарыны да яго прадмоў як да асобнай тэмы не звярталіся.

Усе маргіналіі Францыска Скарыны ў яго прадмовах у залежнасці ад таго, што яны маркіруюць, можна падзяліць на два тыпы:

— спасылкі, якія маркіруюць дакладныя біблейскія цытаты: «И бысть слово Господьне ко мне: Первей, нежели создах тя во чреве, знах тя, и прежде, нежели вышел есь с ложесн, посвятих тя» <«Ерем а»> [12, с. 72; 6, с. 674], (Іер 1, 4–5)[1]; «Преселник аз у тебе и пришлець» <«Псалом ли»> [12, с. 41; 4, с. 737], (Пс 38, 13). Дадзеныя спасылкі ў першую чаргу называюць дакладнае месца Бібліі, якое цытуецца, чым прапануюць да яго звярнуцца. Гэта дапамагае чытачу ўвайсці ў больш шырокі біблейскі кантэкст па-за межамі самой прадмовы;

— спасылкі, якія маркіруюць біблейскі вобраз або сюжэт: «пост Христов знаменовал» <«Маф д»> [12, с. 55; 4, ст. 200], (Мф 4, 1–2); «А для того царь Навходносор или Камвизей, его же Ездра называеть во книгах своих Арътаксерсос, заповедал евреом, абы не будовали храму Господьня в Ерусалиме»

[1] У першых дужках даецца спасылка Францыска Скарыны, у другіх дужках — крыніца тэксту прадмовы, а ў трэціх — крыніца цытаты паводле Сінадальнага перакладу Бібліі.

<«а Ездра д»> [12, с. 44–45; 5, с. 603], (1 Езд 4). Такія спасылкі адсылаюць да адпаведнага месца Бібліі, у якім шырока раскрываецца змест вобраза або сюжэта, ужытага ў прадмове, што значна пашырае мастацкую прастору тэксту.

Ёсць выпадкі, калі ў прадмове ідзе гаворка пра пэўную біблейскую кнігу, а спасылка ўдакладняе, да якога менавіта месца Бібліі звяртаецца аўтар: «И яко явно ест, иже премудрый царь Соломон многые премудрые притчи и стихи молвил ест, о них же явлено ест нам в третих книгах Царств царей ізъраилевыхъ» <«г Црс д»> [12, с. 31; 6, с. 446], (3 Цар 4).

Адзначым, што спасылка называе цэлую біблейскую главу, у якой змешчана патрэбная цытата, вобраз ці сюжэт, пры гэтым дадзеная маргіналія адначасова замяняе сабой біблейскі кампанент, таму становіцца сама своеасаблівым біблейскім кампанентам.

Аналіз паказаў, што паводле прыналежнасці да Старога ці Новага Запавету вылучаюцца:

— старазапаветныя спасылкі: «Исаи а» [4, с. 351], «Быт кз» [4, с. 608], «в Закон si» [5, с. 9], «Даніл е» [5, с. 602], «Ісходъ ла» [6, с. 11], «Еклез а» [6, с. 292];

— новазапаветныя спасылкі: «Іоан а Зача а» [4, с. 197], «а Ктим в Зач спв» [4, с. 354], «Лука в» [5, с. 102], «Маф е» [5, с. 707], «Кримл еі Зач psi» [6, с. 515], «в Кселун Зач cos» [6, с. 702].

У новазапаветных спасылках звычайна пазначаны зачалы, акрамя некаторых выпадкаў: «Вдеан г Зач ф» [4, с. 607], «Лука фі Зач чз» [6, с. 675], «Матф а» [5, с. 102]. Верагодна, першадрукар не выключаў магчымасці выкарыстання сваіх кніг падчас богаслужэнняў.

Выяўлены цікавыя выпадкі, калі Францыск Скарына пры дапамозе спасылак паказвае наяўнасць у новазапаветнай цытаце звароту да Старога Запавету: «Авраам два сына имел ест: единаго от рабыне, а другаго от свободныя. Но той, иже от рабыне, по плоти родися, а иже от свободныя — по обетованию; еже иначей бываюць сказаема — сии суть два законы. Един от горы Синай в работу ражая, еже ест Агар, Синай убо гора ест во Аравии, прилучаеть же ся к нинешнему Ерусалиму, и работает со чады своими. Вышний же Ерусалимъ свободен ест, и той ест мати всех нас» <«Бытя ка»>, <«Кгала д Зач сп»> [12, с. 65; 4, с. 607–608], (Гал 4, 22–26), (Быц 21).

Звернем увагу на тое, што ў прадмове да «Паслання апостала Паўла да Эфесцаў» Францыск Скарына называе ў спасылцы толькі нумар главы, а саму назву адпаведнай кнігі падае ў тэксце: «Прото и святый Павел великую працу имел, нежели навернул их на веру Христову, яко сам о том во Первом посланіи ко коринфом пишет, глаголя, иже во Ефесе со зверми боряшеся. И для великое любви, юже имеаше к ним, внегда шол мимо Ефес во Ерусалим» <Глава еі> [12, с. 115; 2, с. 415], (1 Кар 15, 32).

Актыўнае выкарыстанне старазапаветных і новазапаветных спасылак ускосна гаворыць пра тое, што Скарына ў сваёй перакладчыцкай дзейнасці працаваў адразу з усімі кнігамі і Старога, і Новага Запаветаў.

Па наяўнасці адпаведнай выдадзенай беларускім асветнікам біблейскай кнігі выяўлены:

— спасылкі да кніг, выдадзеных Скарынам: «Вдеан д Зач ві» [4, с. 605], «пслом м» [4, с. 737], «Прычт г» [5, с. 707], «д Црства ке» [6, с. 674];

— спасылкі да кніг, не выдадзеных Скарынам або сёння не вядомых: «Товиф д» [4, с. 602], «Исаи з» [4, с. 197], «Малах а» [4, с. 608], «Лука а Зач г» [4, с. 738]. Усходнеславянскі першадрукар робіць спасылкі на Евангелле (паводле Матфея, Марка, Лукі і Іаана), Апакаліпсіс Іаана Багаслова, Першую і Другую кнігі Параліпаменон, кнігі прарокаў Іезекііля, Ісаі, Іераміі, Малахіі, кнігу Тавіт і Першую кнігу Ездры.

Наяўнасць спасылак да кніг, не выдадзеных Скарынам або сёння не вядомых, ускосна гаворыць аб магчымасці выдання або падрыхтоўкі да выдання гэтых кніг.

У залежнасці ад становішча адносна біблейскай кнігі, да якой напісана прадмова, вызначаны:

— спасылкі, што паказваюць на цытаты або вобразы ці сюжэты з кнігі, да якой напісана прадмова: «Пслом рн» [6, с. 11], «Ниже мв» [5, с. 707], «Притч кв» [6, с. 291],«Нижей а»[6, с. 698]. Каб спаслацца на кнігу, да якой напісана прадмова, Францыск Скарына звычайна выкарыстоўвае спасылкі «Ниже», «Нижей», напрыклад: «Пятое видение, еже было ест часу Дария-царя, о всажении Данилове до ямы ко львомъ и о избавлении его» <«Ниже s»> [12, с. 68; 6, с. 701], (Дан 6). Такія спасылкі дадаткова ўказваюць на змест адпаведнай кнігі і могуць утвараць своеасаблівы змест, напрыклад, у прадмове да кнігі Зыход [4, с. 194–196] ці кнігі прарока Данііла [6, с. 698–704]. Адзначым, што падобныя спасылкі маркіруюць таксама і цытаты: «Лепей ест пойти в дом плачю, нежели в дом пированіа» <«Ниже з»> [12, с. 26; 6, с. 387], (Екл 7, 2);

— спасылкі, што паказваюць на цытаты або вобразы ці сюжэты з іншых кніг: «а Пар ки» [6, с. 446],«Быти г» [4, с. 197],«а Ктимо а Зач сп» [4, с. 604], «Данил в» [4, с. 740].

У прадмове да кнігі Лічбы беларускі асветнік пры дапамозе спасылак, якія адсылаюць як да самой кнігі Лічбы, так і да кнігі Зыход, стварае своеасаблівы паказальнік станаў [4, с. 454–459].

Выкарыстанне спасылак на розныя кнігі, а не толькі на тую, да якой напісана прадмова, прымушае меркаваць, што для Скарыны было важным паказаць і адметнасць асобнай біблейскай кнігі, да якой напісана прадмова, і сувязь гэтай кнігі з іншымі.

Звернем таксама ўвагу на асобныя выпадкі цікавых ужыванняў спасылак у прадмовах беларускага першадрукара.

У прадмове да ўсёй Бібліі адзначана спасылка да транслітараванай цытаты: «Бивлос генезеос Ісусу Христу» <«Маф а Зач а»> [12, с. 45; 4, с. 7], (Мф 1, 1).

У прадмове да кнігі Прамудрасці Саламона да аднаго фрагмента прадмовы прапанаваны дзве спасылкі, якія дапамагаюць раскрыць яго змест: «Яко пишеть о том во третих книгах Царств царей Израилевых и во вторых книгах Паралипомена» <«г Црст г»>, <«в Пор а»> [12, с. 21; 6, с. 291], (3 Цар 3), (2 Пар 1).

Выяўлены паўторы спасылак у межах адной прадмовы і нават на адной і той жа старонцы, як у прадмове да кнігі Лічбы, калі спасылка адносіцца да розных фрагментаў адпаведнай главы: «Вторый стан сынов ізраилевыхъ — Сохот, еже исказуется кущи» <«Ісход гі»> [4, с. 455], (Зых 13) і «Третий стан их — Гетан, еже исказуется крепость» <«Ісход гі»> [4, с. 455], (Зых 13).

У прадмове да Псалтыра выяўлена спасылка, якая адсылае адразу да дзвюх глаў адной кнігі: «И сего для поставил ест царь Давыд четырех великих ереов, их же избрал от всех людей, Азафа и Емана, и Ефана, и Идифума, абы гудли на псалтыри пред киотом завета Господьня и псалмы абы припевали по вся часы, яко пишеть о том в первых книгах Паралипоменона» <«а Паралипо еі и si»> [6, с. 11], (1 Пар 15–16).

Такім чынам, маргіналіі Францыска Скарыны ў яго друкаванай спадчыне прадстаўлены глосамі, указаннямі паралельных месцаў Бібліі і спасылкамі. У сваіх прадмовах беларускі першадрукар актыўна ўжывае маргіналіі-спасылкі як да асобных цытат, так і да вобразаў або сюжэтаў, працуе са Старым і Новым Запаветамі. Сярод функцый спасылак дамінантнымі выступаюць вылучальная, замяшчальная і аўтарытарная. Спасылкі з'яўляюцца неад'емнай часткай прадмоў Францыска Скарыны і выступаюць у іх як своеасаблівы біблейскі кампанент.

## Літаратура


1. Анічэнка, У. В. Лінгвістычныя традыцыі Скарыны ў Беларусі / У. В. Анічэнка // Спадчына Скарыны: зборнік матэрыялаў першых Скарынаўскіх чытанняў (1986). — Мінск, 1989. — С. 248–255.
2. Апостол. — Вильно: Изд. Ф. Скорины, 1525. — 680 с.
3. Библия: Книги Священного писания Ветхого и Нового Завета: В синодальном переводе с комментариями и приложениями. — М.: Российское библейское общество, 2006. — 2048 с.
4. Біблія: Факсімільнае ўзнаўленне Бібліі, выдадзенай Ф. Скарынаю ў 1517–1519 гадах: у 3 т. — Мінск: БелСЭ, 1990. — Т. 1. — 830 с.
5. Біблія: Факсімільнае ўзнаўленне Бібліі, выдадзенай Ф. Скарынаю ў 1517–1519 гадах: у 3 т.– Мінск: БелСЭ, 1991. — Т. 2. — 807 с.
6. Біблія: Факсімільнае ўзнаўленне Бібліі, выдадзенай Ф. Скарынаю ў 1517–1519 гадах: у 3 т. — Мінск: БелСЭ, 1991. — Т. 3. — 782 с.

7. Владимиров, П. В. Доктор Франциск Скорина (Его переводы, печатные издания и язык) / П. В. Владимиров. — СПб.: Тип. Академии Наук, 1888. — 351 с.
8. Жураўскі, А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы: у 2 т. / А. І. Жураўскі. — Мінск: Навука і тэхніка, 1967. — Т. 1. — 372 с.
9. Жураўскі, А. І. Глоса / А. І. Жураўскі // Францыск Скарына і яго час: Энцыклапедычны даведнік. — Мінск, 1988. — С. 308.
10. Мыльнікаў, А. С. «Біблія чэшская ў Венецыі друкаваная» / А. С. Мыльнікаў // Францыск Скарына і яго час: Энцыклапедычны даведнік. — Мінск, 1988. — С. 265.
11. Свяшчэннае Евангелле. — Мінск: Беларуская Праваслаўная Царква, 2007. — 303 с.
12. Скарына, Ф. Творы: прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія / Ф. Скарына / уступ. арт, падрыхт. тэкстаў, камент., слоўнік А. Ф. Коршунава, паказальнікі А. Ф. Коршунава, А. В. Чамярыцкага. — Мінск: Навука і тэхніка, 1990. — С. 207.
13. Суднік, М. Р. Гісторыя ўзнікнення і этапы развіцця беларускай лексікаграфіі старажытнай пары / М. Р. Суднік // Працы інстытута мовазнаўства АН БССР. — 1957. — Вып. 4. — С. 81–96.

**Таццяна Рослік** *(Мінск, Беларусь)*

# СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫ СКАЗ З АТРЫБУТЫЎНЫМІ ДАДАНЫМІ ЧАСТКАМІ Ў ПРАДМОЎНА-ПАСЛЯСЛОЎНЫМ КОМПЛЕКСЕ ВІЛЕНСКІХ ВЫДАННЯЎ Ф. СКАРЫНЫ

У сінтаксічным ладзе прадмоў і пасляслоўяў да віленскіх выданняў Ф. Скарыны цікавасць уяўляе складаназалежны сказ. Ён адносіцца да ліку тых граматычных катэгорый, якія на працягу гістарычнага перыяду існавання ўсходнеславянскіх моў зазналі істотныя змены, а таму ў апошні час выяўляецца павышаная цікавасць да яго вывучэння.

У межах складаназалежнага сказа падпарадкаванне вылучаецца шляхам парнага аб’яднання сказаў, прычым ролю даданага выконвае звычайна сказ, які мае ўскосную мадальнасць. У старабеларускай мове, як і ў сучаснай, пераважаюць складаназалежныя сказы, у якіх даданыя часткі ўводзіліся пры дапамозе злучнікаў і злучальных слоў, што фармальна ўказвалі на наяўнасць падпарадкавання і мелі незалежнае паходжанне і функцыянаванне ў межах сказа, нягледзячы на характарную адпаведнасць з пэўнымі злучнікамі складаназлучаных сказаў [1, с. 121].

Дамінуючае становішча сярод аналізуемай групы складаных сказаў у прадмовах і пасляслоўях да віленскіх выданняў Ф. Скарыны займаюць складаназалежныя сказы з даданымі атрыбутыўнымі часткамі. Асноўнымі сродкамі сінтаксічнага падпарадкавання ў гэтых сказах з’яўляюцца архаічныя злучнікі иже, еже, якія захаваліся ў помніках беларускай пісьменнасці да XVII ст., застаючыся пераважна кніжнай уласцівасцю, малахарактэрнай для дзелавой мовы і тым больш жывога народнага вымаўлення [2, с. 12]. Разам з тым гэтыя словы выступаюць у якасці асноўнай нормы ў даданых азначальных сказах у канфесійных тэкстах, у прыватнасці ў прадмовах да віленскіх выданняў Ф. Скарыны: Ту[т] знайдеш о церковной науце, еже вся обща христианом имети (183)[1]. Павел же правдивое и преславное воспоминаеть видение, иже восхищен бѣ до трѣтего неба, потом до раю и там слышал тайны божия, еже суть над разум человечій (199). Потом пришед божиим явлением во Еруса[ли]м ко старейшим апостолом, положил пред ними Евангелие свое, еже тако много лѣт проповедаше во языцех (201). Доканана ест сия книга, зовемая Апостол, еже замыкаеть в собе наипервей Деания апостольская… (216).

[1] Старонкі ўказваюцца паводле энцыклапедычнага даведніка «Францыск Скарына і яго час» (Мінск, 1988).

Акрамя згаданых вышэй, у прадмовах да віленскіх твораў Ф. Скарыны ўжываюцца дадания азначальныя сказы з займеннікамі иже, еже, ужытымі ў формах ускосных, за выключэннем вінавальнага, склонаў. Але ў той час, калі словы иже, еже ў назоўным і вінавальным склонах страцілі свае займеннікавыя ўласцівасці, стаўшы падпарадкавальнымі злучнікамі, астатнія формы ўскосных склонаў адзначаных лексем яшчэ захоўваюць сваю займеннікавую прыроду, а сказы з імі набываюць пэўную самастойнасць [3, с. 127]: Потом кажеть, иже пріидуть илъжи учители, хотяще некия прельстити, их же не имамы послухати, яко Бог отмститель ест злым (187). И на тое дело послал к ним Тіта и иного брата, его же похвалу кажеть быти во Евангеліи Христове (199). В нем же светый апостол Павел поставил архиепископом Тіта, возлюблѣннаго ученика своего, его же имеаше вмѣсто сына для превеликое доброты, иже бѣ в нѣм (213).

Наяўнасць на пазіцыі займеннікаў иже, еже спалучэння он же сведчыць аб сказах з апавядальнай мадальнасцю, і як вынік — аб самастойнасці такіх структур. Але, нягледзячы на гэта, паміж часткамі падобнага бяззлучнікавага сказа існуе атрыбутыўна-ўказальная суаднесенасць, якая пры адпаведнай змене злучнікаў набывае значэнне адноснасці. Канструкцыі такога тыпу таксама прадстаўлены ў прадмоўна-пасляслоўным комплексе да віленскіх выданняў Ф. Скарыны: Та[м] же отписание исказуеть вышшего первосвещенника быти Христа, сына божія, он же сам себе единова на кресте за всех Богу Отцу принесе и кровию своею очисти все грехы… (215).

Арыгінальныя творы Ф. Скарыны не абмяжоўваюцца выкарыстаннем вышэйзгаданых займеннікаў у ролі граматычных сродкаў адноснага падпарадкавання частак складаназалежнага сказа. Уніфікацыйныя працэсы, узаемадзеянне і разнамоўныя ўплывы сталі ў свой час прычынай з’яўлення шырокага спектра фармальных паказчыкаў атрыбутыўнай залежнасці ўнутры складаных сінтаксічных адзінак. Пранікненне іншых злучнікаў і злучальных слоў прыўносіць у адпаведныя канструкцыі побач з новымі функцыянальнымі адценнямі і часткова зменены граматычны сэнс на ўзроўні ўскоснай мадальнасці дадзеных частак.

Дадзенымі азначальнымі таксама з’яўляюцца сказы з пытальным займеннікам что, які набывае характар злучальнага слова. Як граматычны паказчык атрыбутыўных адносін адзначаны пытальны злучнік вядомы яшчэ старажытнарускай мове, з найбольш старажытных помнікаў якой выпадкі ўжывання яго назіраюцца ў кароткай і пашыранай рэдакцыях «Рускай праўды», творах Уладзіміра Манамаха, «Маленнях Данііла Заточніка» і іншых. Па помніках беларускай пісьменнасці ён адзначаецца з XIV ст. У асноўным займеннік что пазбаўлены роду і ліку, ужываецца для падпарадкавання постпазіцыйнага азначальнага, які адносіцца да назоўніка і стаіць адразу пасля яго: А тако имате вси жертвы Ветхаго Завета, что знаменовали суть (124).

Атрыбутыўнае значэнне постпазіцыйнага даданага можа ўскладняцца мадальным адценнем павіннасці, рэальнага і ірэальнага параўнання. У прадмовах і пасляслоўях да віленскіх твораў першадрукара для падпарадкавання такога даданага ўжываецца злучнік яко: Тые же вси первоменованые писма, кажьное с них токмо едину речь в собѣ замыкаеть, яко закон живота вечного людей доступити учить (169). На конци повѣдаеть о добрых обычаех хрестианских, яко ся имають заховати ко своим ближним, сами ку собѣ и к своим старшим (215).

Царкоўнаславянскія моўныя традыцыі зрабілі моцны ўплыў на фармальна граматычным узроўні. Відавочна, што Ф. Скарына аддае перавагу нарматыўным для канфесійнага жанру падпарадкавальным злучнікам иже, еже. Прыярытэт гэтых сродкаў у сваю чаргу аргументуе адпаведную мадальнасць сказаў, што дапамагае кваліфікаваць іх як складаназалежныя з адпаведным характарам атрыбутыўных адносін.

Разгляд асобнага аспекту сінтаксічнага падпарадкавання, у прыватнасці складаназалежных сказаў з даданымі азначальнымі, вядома, не дае поўнага ўяўлення аб структурных уласцівасцях арыгінальных твораў віленскіх выданняў Ф. Скарыны. Хаця менавіта адзінкі такога тыпу выконвалі не апошнюю ролю ў фарміраванні тых ці іншых складаназалежных сказаў з прыслоўнай сувяззю частак. Акрамя таго, гэтыя сказы вызначаюцца сваёй прадуктыўнасцю ў прааналізаваных тэкстах.

## Літаратура


1. Борковский, В. И. Синтаксис древнерусских грамот: сложное предложение / В. И. Борковский. — М., 1958.
2. Груца, А. П. Развіццё складаназалежнага сказа ў беларускай мове / А. П. Груца. — Мінск, 1970.
3. Рапацэвіч, С. Я. Складаназалежныя сказы з атрыбутыўнымі даданымі часткамі ў перакладных выданнях Ф. Скарыны / С. Я. Рапацэвіч // Весці НАН Беларусі. — 1999. — № 1.

**Ірына Курловіч** *(Мінск, Беларусь)*

# З ГІСТОРЫІ ФУНКЦЫЯНАВАННЯ ПРЫСЛОЎЯЎ У МОВЕ ВЫДАННЯЎ Ф. СКАРЫНЫ (НА МАТЭРЫЯЛЕ КНІГ ЦАРСТВАЎ І ІОЎ)

У беларускай лінгвістыцы прыслоўе належыць да ліку найменш даследаваных часцін мовы, асабліва ў дачыненні да старабеларускага перыяду. І гэта нягледзячы на тое, што менавіта ў XIV–XVI стст. адбываецца як станаўленне і ўніфікацыя словаўтваральных формаў прыслоўяў, так і адпаведна шырокае выкарыстанне разнастайных паводле паходжання і семантыкі прыслоўных утварэнняў у тэкстах рознага тэматычнага напаўнення. Яскравым сведчаннем гэтаму з'яўляецца і мова выданняў беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара і асветніка Францыска Скарыны.

Выдадзеныя ў Празе «Книга светого Иова» (10 верасня 1517 г.) і «Книги первыи (вторыи, третии, четвертыи) Царъств» (10 жніўня 1518 г.) засведчылі выкарыстанне амаль 120 прыслоўяў. Найбольшай колькасцю прадстаўлены прыслоўныя словаформы на -о і -е (каля 80 адзінак), толькі спарадычна сустракаюцца прыслоўі на -а, -і, -у, -ю і інш. Параўн.: …ясно имъ поведе оизмертвыхъ въстании (КІ, с. 6); даи часть юже дахъ тобе … особно сохраню (КЦ, с. 37); сего деля немудре глаголалъ есмь…(КІ, с. 100); пять девиць идяху пеше (КЦ, с. 110); единыи кожныи смотрить нанего здалека (КІ, с. 86); не было такобо веселие въполцехъ вчера (КЦ, с. 22); глубши пекла и ширши моря (КІ, с. 37); я знову учиненъ есмь Царемъ (КЦ, с. 208); обилъ ю сысподу даже до верху досками (КЦ, с. 273); познаюли умыслъ отца моего позаутрею (КЦ, с. 86); но въжды бывалъ есмъ смутныхъ потешитель (КІ, с. 69); уднения храму божия прикрилъ есть знашомъ внутръ и зовнутръ (КЦ, с. 270); Царъ приказалъ абы съшел долов (КЦ, 369).

Сярод выкарыстаных Ф. Скарынам прыслоўяў сустракаюцца адзінкі рознага паходжання і графіка-арфаграфічнага афармлення. Зразумела, найперш вылучаюцца словы стара(царкоўна)славянскага паходжання тыпу **боръздо** (направо къусходу солнъца беды мое боръздо восстали суть (КІ, с. **58), истинно** (истинно правыя и безолжи суть слова моя (КІ, с. 84), **единаково** (паклиже внидемъ во градъ единаково тамъ от гладу помремъ (КЦ, с. 395) і да т. п.

Аднак нават у гэтай групе слоў назіраюцца выпадкі ўсходнеславянскай (чытай: беларускай) агаласоўкі (адпаведна і графічнага афармлення) многіх прыслоўных словаформаў. Так, побач з **праздно** першадрукар ужывае **празно** (спрашчэнне груп зычных), **едино** — **воедино**, **единаково** — **одинаково**, **годне** — **годно**, **долго** — **довго** і да т. п. Прыклады такога формаўтваральна-графічнага паралелізму сведчаць не толькі аб свядомым выкарыстанні Ф. Скарынам прыёму лексічнай эквівалентнасці (своеасаблівай нормы як

наяўнасці варыянтаў аднаго і таго ж слова), але і разуменні ім неабходнасці наблізіць кніжныя формы слоў да «простых», звычайных у паўсядзённым маўленні «люду посполитого».

Варта адзначыць таксама, што пераважная большасць ужытых Скарынам прыслоўяў фіксуецца і ў іншых помніках старабеларускага пісьменства, найперш, зразумела, рукапісных. Напрыклад, у Гістарычным слоўніку беларускай мовы адзначаюцца прыслоўі **близко, близка, блиско**: 1. Блізка, недалёка ў прасторы. Где будет нам близко, ино ми пойти со всею силою самому (АЗР, I, 66, 1449); 2. Блізка, недалёка па часе. Оуже близко ес смерть его (Пак. Хр., 28б). *Близко того* — прыкладна так. Того всего што тут мает з тои стороны дунаю не стратил якож того близко было (Хр. польск., 19б). Выкарыстоўвалася словаформа ў якасці прыназоўніка: 1. Каля (з прасторавым знач.). Вода близко берега для крови побитых черленелася (Троя, 19б) і 2. Каля (са значэннем прыблізнасці). Галъ хорал, и близко смерти был (Бельск., 272) (ГСБМ, В. 2, с. 58); **воколо, воколъ, въоколо, въоколъ** прысл. і прыназ.: 1. Прысл. Навокал которая то копа — подданные розныхъ пановъ и именей, воколъ мешкаючые (АВК, XVIII, 187, 1602). 2. Прыназ. Кругом чаго-небудзь. Росказалъ господь абы леvитове носили наметъ сведецства, и все начинье его, и будутъ в послугованью, и воколо намету обозом се положатъ (Хран., 128б) (ГСБМ, В. 4, с. 134); **борздо, бордзо, борзо** — хутка. А то чинити и всылати въ таковыи именья, не продолживаючи часу, але бордзо после року и часу менованого (АЗР, III, 82, 1557) (ГСБМ, В. 2, с. 149); **далеко** — 1. Далёка, на вялікай адлегласці ад чаго-н. Хто имеет лес любо дуброву далеко от себе (Вісл., 38). 2. Намнога. Ведаю иж есми тобе ничого, або мало приязни показовал болшую далеко иншымъ, которые мене тепер опустили (Зб. 752, 567б). 3. Больш. Видели… чорнейшым писмом строки написанные и далеко грубшыи паркгамин ку печати (АВК, XXXII, 12, 1596). 4. Зусім. Далеко иншаа речь естъ, веровати Бога, а опять веровати въ Бога, и веровати Богу (Будны 115). 5. Праз вялікі прамежак часу, няскора. Далеко то што было и глубоко глубоко хто наидеть его (Зб. 262, 90) (ГСБМ, В. 7, с. 232–234); **дивно** — дзіўна. Узришь все о томъ колижь не иметь быти дівно но подивовано (Вісл., 9б) (ГСБМ, В. 8, с. 87); **долго, довго** — доўга (аб працяканні падзей у часе). Пенези… оу скарбъ были оуложоны и схованы такъ долго ажъ до прекленого июды пришли (Пак., Хр., 1). *Довго ли коротко* — праз некаторы час. Абы тутъ усе дымомъ не пошло, довго ли коротко, бо если се тамъ будетъ мети, гораздъ не будетъ тутъ бывать (АВК, XVIII, 253, 1621). *Долго на день* — да канца дня. З обу сторон долго на ден з ровною надееcompletely звітязства бітва трвала (Стрыйк., 534). *Долго у ночъ* — да позняй ночы. Милостивый Бог… предолжилъ тоую реч долго оу ноч потешаючи маткоу свою (Пак. Хр., 2–2б). *Не долго* — хутка. Такъ тою штукою хитри мордерца панство оселъ. Открилася здрада его не долго зачим всим людем был барзо омерзлъ (Хр. польск., 2) (ГСБМ, В. 8, с. 244–245); **дармо** — 1. Дарма, марна. Не дармо, голубиные твое очы, до есевонского

озера, небесный женихъ, пpиpовнывает (Карп., 47б). 2. Бясплатна. Славу змерлыхъ скрадаетъ, живыхъ з ней лупитъ, дармо беретъ, ценою ничого не купитъ (Лям., 24) (ГСБМ, В. 7, с. 247); **недармо** — недарма. Недармо его [Римъ] амбросий головою забобоновъ назвалъ (Апакр., 160б) (ГСБМ, В. 20, с. 62); **налево** — налева. Хрестіаны…ани направо ани налево могли бы соити (Валх., 81) (ГСБМ, В. 19, с. 110); **направо** — направа; у правы бок. Река роздвоивъшися над прироженый бегъ свой пошла направо оной воды (Зб. 82, 7б) (ГСБМ, В. 19, с. 226); **напевней —** 1. Найбольш пэўна, дакладна. Великою неведомости мглою естесь огорненый… до пропасти и глубокости пекелнои заблужаешъ, о томъ якъ напевней и якъ налепей ведаю (Варл., 225). 2. З найбольшым даверам, з вялікай упэўненасцю. Будет мовлю без жаднои вонтпливости Воскрсеніе мертвыхъ, и тому якъ напевней веримо (Варл., 72б) (ГСБМ, В. 19, с. 173); **истинно —** 1. Сапраўды. Буди то, или буди сир. Амин… Верно, истинно так ест. або стансе, або тако бе дай (Бяр., 246). 2. Шчыра, чыстасардэчна. Если истинно а правдивее вериш ему дам тобе золота колко хочеш (Зб. 752, 568б) (ГСБМ, В.14, с.186); **любо** — 1. Міла, з любасцю. Отголь о собе церковъ Хрыстова в Песнех песній любо спеваеть (Сматр., 24). 2. У знач. выказніка. Люба, па сэрцу; прыемна. Вси могуть поити проч где коли кому любо (Вісл., 26б) (ГСБМ, В. 17, с. 160); **празно** — дарэмна, марна. Предъ Гсдемъ Богомъ празно не имамы слюбовати (Скар. ЕК, 8б) (ГСБМ, В. 27, с. 477); **особно, особне** — 1. Асобна. Розмаите речи а особне ветхе платье и инее женьске одене продавано (Валх., 43). Подарки довали каждому особно (ИЮМ, IV, 179, 1686). 2. Асабліва. В церквах учтивее стояли в шатах особне коштовных (Бельс., 20б) (ГСБМ, В. 22, с. 407); **единаково** — усё роўна. Пакйлиже вниидемъ во градъ единаково тамъ от гладу помремъ (Скар. ЧЦ, 198). Параўн.: Еднаково. Однымижъ завсегды однако потоужными еднако хвалоу бжуую милуючими и еднаково тиранови турецкому нехутливыми былисмы, естесмы и будемо (Апакр., 203б) (ГСБМ, В. 9, с. 171).

Адзначаная акалічнасць можа сведчыць аб ужо дастаткова выпрацаванай традыцыі ва ўжыванні такіх прыслоўных формаў у старабеларускім пісьменстве даскарынавай і пасляскарынавай пары.

Прыслоўныя словаформы, ужытыя Скарынам у кнігах Царстваў і Іоў, пазней знайшлі сваё адлюстраванне і ў «Слоўніку беларускай мовы» І. І. Насовіча (дарма, довго, запевно, далёко, особно, едыно, не дармо, задармо і інш.), а яшчэ пазней у слоўніку мовы «Нашай нівы» (блиско, даром, задарма, на лево, на право, истинно, вакол і інш.). Параўн.: **Дзіўна** — 1. Незвычайна. *Дзіўна тое, што і найбольш разумные паміж нашых селян усё-ж такі вераць у забабоны.* 1912. № 4, с. 3; 2. Невытлумачальна, загадкава. *І тым болей дзіўна жаданьне боўгароў, што туркі ўжо прыстаюць на ўсе варункі згоды, якіе апрацавала Эўропа*. 1913. № 13, с. 4 (СМНН, Т. 1, с. 566). **Дзивно** — 1. Чудно, чудесно. *Дзивно зроблено*. 2. Удивительно, очень. *Дзивно хорошъ*. 3. В знач. безл. Удивляетъ. *Дзивно, што енъ скоро вороцився* (Насовіч, с. 180). **Дзіўна** — прысл.

да дзіўны (у 1 знач.). 2. Безас. у знач. вык. Незвычайна, выклікае здзіўленне (ТСБМ, Т. 2, с. 191).

Аналіз функцыянальнага статусу прыслоўяў у кнігах Ф. Скарыны Іоў і Царстваў сведчыць не толькі аб працягу, але і паглыбленні традыцый папярэдніх кніжнікаў у працэсе адлюстравання (выкарыстання) царкоўнаславянскіх і найперш вусна-народных элементаў. Апошнія свядома ўключаліся першадрукаром у біблейскія тэксты як своеасаблівыя ўзоры простай лексікі, якія, магчыма, і сталі адным з «масткоў», што нітавалі непарыўнасць развіцця лексіка-семантычнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы на працягу ўсёй яе гісторыі.

## Спіс скарачэнняў

**АВК —** Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею для разбора древних актов, т. I–XXXIX. Вильна, 1865–1915; **АЗР** — Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные археографическою комиссиею, т. I–V. СПб, 1846–1853; **Апакр.** — Апокрисисъ албо отповедь на книжкы о съборе берестейскомъ (Вільня, 1598); **Бельск.** — Летаписецъ то естъ кроиника, з розных многих а досветчоных авторов и историков диялектом русским естъ зложона («Хроника» М. Бельскага пачатку XVII ст.). Рукапіс Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, F, IV. 688; **Будны —** Катихисісъ для детокъ хрістианскихъ языка русского коротко выложена (Клецк, 1562); **Бяр.** — Лексиконъ славеноросскій именъ толъкованіе, Всечестным отцемъ Кір Памвою Берындою…згромаженый (Куцеін, 1653); **Варл**. — Гисторія албо правдивое выписаніе ст. Іоанна Дамаскина, о житіи святых преподобных отецъ Варлаама і Осафа и о наверненю індіянъ (Куцеін, 1637); **Валх.** — Аповесць аб трох каралях-валхвах канца XV ст. Рукапіс Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, Q, 1. 391, лл. 39–96 б; **ГСБМ** — Гістарычны слоўнік беларускай мовы: У 30 т.; **Зб. 82** — Зборнік павучэнняў сярэдзіны XVII ст. Рукапіс Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук ЛітССР, RKF–82; **Зб. 752** — Зборнік жыцій святых другой палавіны XVII ст. Рукапіс Дзяржаўнага гістарычнага музея СССР, Зб. Сінад. 752; ИЮМ — Историко-юридические материалы, извлечённые из архивных книг губерний Витебской и Могилёвской, вып. I–XXXII. Витебск, 1871–1906; **Карп.** — «Казанье двое» Л. Карповіча (Еўе, 1615); **КІ —** Кніга Іова, «Библия руска» выдання Ф. Скарыны 1516–1519 гг.; **КЦ** — Кніга Царстваў, «Библия руска» выдання Ф. Скарыны 1516–1519 гг.; **Лям.** — Ляментъ у света оубогихъ (Вільня, 1620); **Насовіч** — Насовіч І. І. Слоўнік беларускай мовы. Мінск, 1983. Факс. выд.; **Пак. Хр**. — Пакуты Хрыста XV ст. Рукапіс Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, Q, 1. 391, лл. 1–38 б; **Скар. ЕК** — «Библия руска» выдання Ф. Скарыны 1516–1519 гг., Кніга Еклезіяст; **Скар. ЧЦ** — «Библия руска» выдання Ф. Скарыны 1516–1519 гг., Чацвёртая кніга Царстваў; **Сматр.** — Казанье на честныи погребъ пречестного и превелебного мужа господина и отца Леонтія Карповича… презъ Мелетія Смотриского (Вільня, 1620); **СМНН** — Слоўнік мовы «Нашай Нівы»: У 5 т. / пад рэд. В. П. Лемцюговай. Мінск, 2003, 2007. Т. 1, 2; **ТСБМ** — Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: У 5 т. Мінск, 1977–1982; **Хран.** — Книга, глаголемая кроникъ, сиречь собраніе от многихъ летописецъ («Хранограф» XVII ст.). Рукапіс

Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна, № 2405; **Хр. польск.** — «Короткое описанье кроники полской» пачатку XVII ст. Рукапіс Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, F. IV. 152.

## Літаратура


1. Гапоненка, І. А. Пытанні моўнай пераемнасці ў працах беларускіх і ўкраінскіх лінгвістаў / І. А. Гапоненка // Беларускае слова: гісторыя і сучаснасць: зборнік артыкулаў па матэрыялах навук. чытанняў, прысвеч. памяці праф. А. І. Жураўскага (27 кастр. 2009 г., г. Мінск) / пад агул. рэд. М. Р. Прыгодзіча. — Мінск: Права і эканоміка, 2010. — С. 52–59.
2. Струкава, С. М. Лексіка беларускай мовы: Гісторыя і сучаснасць / С. М. Струкава. — Мінск: Права і эканоміка, 2008.

**Хрысціна Варонька** *(Мінск, Беларусь)*

# З НАЗІРАННЯЎ НАД ГРАФІКАЙ І АРФАГРАФІЯЙ КНІГ «РУФ» І «СУДДЗЯЎ» ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Пытанні моўнай формы любога пісьмовага помніка гучалі заўсёды вельмі актуальна і прынцыпова. Істотна, што нарматыўнасць ці ненарматыўнасць пісьмовага матэрыялу вызначалася згодна з рознымі крытэрыямі, якія на пэўны момант дамінавалі. Наогул жа пра існаванне моўнай нормы[1] ў часы стварэння скарынаўскіх кніг гаварыць не выпадае, бо інстытута выпрацоўкі аднастайнага напісання не існавала, былі пісьмовыя школы, якія ў большай ці меншай ступені захоўвалі пэўную пісьмовую традыцыю. А калі ўлічваць, што працэс станаўлення і развіцця старабеларускай мовы ў гэты перыяд адбываўся даволі інтэнсіўна, то цалкам зразумела, што адзінага ўзорнага і магчымага варыянта не магло быць. Гэта стварае пэўныя цяжкасці ў даследаванні помнікаў, але разам з тым факт адсутнасці адзінай пісьмовай нормы патрабуе ўлічваць шэраг пазамоўных крытэрыяў, што ўплывалі на пісьмовую і культурную традыцыю. Спецыяльныя даследаванні, што датычацца гісторыі беларускай мовы на прапанаваным этапе, амаль заўсёды неадназначна трактуюць моўную аснову пісьмовых матэрыялаў, што тлумачыцца рознымі прычынамі: навуковай канцэпцыяй, грамадска-палітычнымі поглядамі аўтара, гісторыяй краіны на сучасным этапе (маецца на ўвазе вострая неабходнасць сцвердзіць наяўнасць гістарычна аддаленай моўнай традыцыі і звязаць яе з сучаснымі працэсамі пры ўмове актыўных нацыесцвярджальных тэндэнцый). Але часам, кіруючыся пэўнай мадэллю нацыянальнай беларускай ідэі, некаторыя аматары будуюць цэлую міфалогію, якая не мае ніякага дачынення да гісторыі беларускай мовы. Графічная сістэма любога тэксту непасрэдна адлюстроўвае моўную сітуацыю, якая панавала ў пэўны прамежак часу. Для нас вельмі важна акрэсліць усе магчымыя графіка-арфаграфічныя асаблівасці друкаваных кніг Старога Запавету і прасачыць навуковае іх абгрунтаванне ў спецыяльнай літаратуры. Як вядома, выданне Францыскам Скарынам кніг Старога Запавету ажыццяўлялася кірылічным шрыфтам. Я. Ф. Карскі ў сваёй працы «Беларусы» звярнуў увагу на знешняе афармленне пражскіх старадрукаў і ахарактарызаваў іх наступным чынам: *«Полууставному письму подражают шрифты старопечатных западнорусских книг. Древнейшие издания — это Библия Скорины. Не стану останавливаться на шрифте Скорины, так как он подробно исследован в известной диссертации П. В. Владимирова, отмечу*

---

[1] Пытанне моўнай нормы і моўнай сістэмы разглядалася ў працы даследчыка гісторыі рускай мовы Б. А. Успенскага «История русского литературного языка (11–17 вв.)». — М., 2002.

*только, что шрифтом такого же рисунка напечатаны кроме пражских и виленские издания Скорины, несвижские Симона Будного и Евангелие Тяпинского. Как можно видеть из прилагаемых снимков, в шрифте Скорины основные линии выведены прямо вертикально, вследствие чего в общем буквы производят впечатление устава. Иллюзия, конечно, нарушится, если мы присмотримся к отдельным начертаниям. Тут мы заметим немало новизны, находящей для себя объяснение только в западнорусском полууставе, отчасти же в собственных комбинациях Скорины. Так, его буквы* ***к, в, т, е, з*** *выводятся только из полуустава, откуда же и его* ***в*** *с особенно маленькой головкой и* ***а****, похожее на* ***я****; особые вычурные* ***ч, ж, ю, т*** *— изобретение самого Скорины*» [3, с. 73]. Я. Ф. Карскі вызначае характар шрыфту як малодшы паўустаў, акцэнтуючы ўвагу на асаблівасці адлюстравання некаторых літар.

## 1.1. Дыякрытычныя (нялітарныя) знакі

Для кніг Старога Запавету характэрна шырокае выкарыстанне разгалінаванай сістэмы надрадковых знакаў. Пытанне апраўданасці ўжывання гэтых знакаў для славянскіх тэкстаў ставілася ў многіх працах рускіх і беларускіх даследчыкаў мовы, але, як і для большасці гістарычна аддаленых моўных задач, аксіёмы не існуе. Дыякрытычныя знакі першапачаткова былі запазычаны з грэчаскай мовы, дзе яны адрознівалі доўгія і кароткія галосныя, а таксама абазначалі розныя віды націску — востры, аблегчаны, цяжкі. Гэтыя знакі маглі быць надрадковыя, падрадковыя, унутрырадковыя. У выданнях Францыска Скарыны выкарыстоўваюцца толькі надрадковыя знакі, якія раней называліся «вымолвные письмена» [4, с. 671], бо знакі націску і прыдыхання павінны былі ўказваць на вымаўленне тых ці іншых слоў. Гаворка пра непасрэднае і практычнае іх выкарыстанне ў старажытных тэкстах заўсёды носіць гіпатэтычны характар. Як адзначаў яшчэ Я. Ф. Карскі, у найбольш ранніх тэкстах колькасць гэтых знакаў была вельмі нязначная, і толькі пачынаючы з 14–15 стагоддзяў пашыраецца іх моўнае выкарыстанне [2, с. 229]. Гэта найперш звязваюць з другім паўднёваславянскім уплывам з боку графікі (Я. Ф. Карскі): «Мы уже указывали, что в 14 в. на юге славянства были выработаны искусственные правила постановки придыханий и ударений. Иначе и поступить было нельзя. Раз было в обычае употребление надстрочных знаков, то надо было его как-нибудь упорядочить: письмо “развращённое” было нетерпимо. Эта реформа произошла в Болгарии при Евфимии Тырновском, а в Сербии пропагандировалась последователем Евфимия — Константином Костенеческим. Мнения Константина Костенеческого служили предметом внимания у разных последующих книжников; подвергались изменениям и дополнениям, но, во всяком случае, не были забыты, а развивались ещё в больших подробностях, так что, читая какую-либо рукопись 16 в., не можем даже понять, чем руководствовались писцы в постановке тех или других над-

строчных знаков» [2, с. 230]. Адносна сістэмна (але без прычынна-выніковых сувязей) алгарытм выкарыстання на пісьме надрадковых знакаў і іх гісторыя пададзены ў працы І. В. Ягіча «Рассуждения южнославянской и русской старины о церковно-славянском языке», Т. 1 («Исследования по русскому языку», изд. Отделения русского языка и словесности Академии наук. — СПб., 1885–1895), якая з'яўляецца зводам розных артыкулаў з грэчаскіх крыніц і перапрацаваных пад уплывам існуючай моўнай практыкі. У тэкстах кніг «Руф» і «Суддзяў» Францыск Скарына выкарыстаў наступную сістэму надрадковых знакаў, якія, дарэчы, адліваліся разам з літарамі:

1) «оксия, окс, оксь, острая» (´). Гэты надрадковы знак ужываўся Скарынам над літарай **е** ў канцы слова: *дние́ очищения*, *насмирение́*, *двое́* і інш.;

2) «вария, тяжкая» (`). Асаблівасць выкарыстання менавіта гэтага знака заключаецца ў яго непаслядоўнасці, але часцей ён ставіўся ў канцы слова над *и* (асабліва ў значэнні *й*): *всеѝ*, *малоѝ*, *з великоѝ*, *превечныѝ* і інш.;

3) «исо, исть, иссо» (῎). Характар ужывання гэтага нялітарнага знака вызначаецца нават больш фармальнымі паказчыкамі: ён выкарыстоўваецца больш паслядоўна над злучнікамі **а**, **и**, а таксама над лігатурай Ѿ: *Й҆ангелъ*, *ѿ҆очию его*, *Гедео҆нъ*, *о҆пустилъ* і інш.;

4) «ерик, ерок, ерчик, ертица, паерк, паерок» (҆). У кнігах рознага кшталту гэты знак абазначаў ці, дакладней, сігналізаваў пра наяўнасць цвёрдага рэдукаванага і цвёрдасць зычнага ў сярэдзіне і канцы слова. У адрозненне ад іншых надрадковых знакаў для выкарыстання ерыка характэрна выразная паслядоўнасць: *съкожным҆*, *судом҆*, *роз҆билъ*, *напол҆нилъ* і інш.;

5) цітла (~). Пад цітлам пісалася адна з прапушчаных літар, калі слова перадавалася ў скарочаным выглядзе; літарамі з цітлам над імі абазначаліся лікі. Гэты знак паслядоўна выкарыстоўваецца не для ўсіх слоў, а толькі для сакралізацыі некаторых царкоўных паняццяў: *гдь*, *гдньь*, *милсти*, *глющє*, *бгь* і інш. Але трэба адзначыць, што цітла не заўсёды ўказвала на скарачэнне слова і вынаску літары над радком. У рускіх друкаваных тэкстах пад цітлам (каморай) пісаліся аднаскладовыя словы (сѧ, мѧ), якія атрымалі назву «супружие» [4, с. 794].

Дыякрытычныя знакі — важны складнік графічнай сістэмы тэкстаў, які, магчыма, і загрувашчвае моўную аснову, стварае пэўныя перашкоды для чытання пісьмовага матэрыялу, але ўжо на падставе механічнай пераемнасці гэты фармальны паказчык яднае друкаваныя тэксты Францыска Скарыны з пісьмовай традыцыяй. Лічым, аднак, што гэта была не самамэта першадрукара.

## 1.2. Вынасныя літары

Акрамя дыякрытычных знакаў своеасаблівасць графічнай сістэмы друкаваных кніг «Руф» і «Суддзяў» заключаецца ў значнай колькасці вынасных літар, арыентуючыся на якія, Я. Ф. Карскі вызначыў тып скарынаўскага шрыфту як малодшы паўустаў. Чым іх больш, тым пісьмо паскараецца, знешні выгляд літар можа кардынальна змяніцца. З распаўсюджаннем скарапісу рукапісны тэкст становіцца цяжка пазнавальным, абрысы графем трансфармуюцца і іх канфігурацыя вызначаецца ўрыўкавасцю. Друкаваны тэкст, безумоўна, арыентаваўся на рукапісныя аналагі таго ж часу, акрамя таго тут жа спрацоўваў прынцып эканоміі пісьмовай прасторы. Улічваючы, што друкаваныя кнігі на той перыяд яшчэ з'яўляліся прадметам раскошы, зразумела, што як мага меншы аб'ём павінен быў змясціць як мага больш зместу. Зусім натуральна тады выглядае выкарыстанне вынасных літар, якія з'яўляліся толькі ў абсалютна зразумелых словах, якія не патрабавалі нейкага дадатковага каментару. Літара магла выносіцца над радком у сярэдзіне слова (першая літара, якая стаіць за галоснай), у канцы слова. У скарынаўскім тэксце выносяцца наступныя літары:

1) у дзеясловах 3 асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу выносіцца літара **т**: *побирае*$^{т}$, *выиде*$^{т}$, *погледи*$^{т}$ і інш. Трэба адзначыць, што вельмі часта сустракаецца лігатура *е*$^{ст}$, канфігурацыя якой вызначаецца шматузроўневасцю;

2) у сярэдзіне і канцы слова выносіцца літара **н**: *Ева*$^{н}$*гелистъ*, *гора Сио*$^{н}$, *сы*$^{н}$*ми*, *Хелио*$^{н}$;

3) літара **м**: *докторо*$^{м}$, *посполиты*$^{м}$, *стареишина*$^{м}$;

4) літара **с**: *мило*$^{с}$*ти*, *го*$^{с}$*подь*;

5) літара **х**: *и*$^{х}$, *убоги*$^{х}$, *ваши*$^{х}$, *избави*$^{х}$, *пони*$^{х}$;

6) літара **д**: *вла*$^{д}$*ыку*, *пре*$^{д}$ *очима*;

7) літара **о**: *пр*$^{о}$*рка*.

Неабходна адзначыць, што вынясенне літары над радком не толькі сведчыла пра эканомію пісьмовага матэрыялу, але і стварала ці, дакладней, з'яўлялася адным са складнікаў індывідуальнага аўтарскага стылю, бо, як адзначаюць навукоўцы, некаторыя вынасныя літары (**м**, **н**), выкарыстаныя ў друкаваных кнігах Старога Запавету Францыскам Скарынам, не маюць аналагаў сярод іншых кніг, і папярэдняя распрацоўка канфігурацыі вынасных элементаў вылучаецца выразным уласнатворчым характарам. Усе тыя графічныя элементы, якія не маюць непасрэднага дачынення да мовы пісьмовага помніка, адлюстроўваюць ці то блізкасць да традыцыі, ці мэтазгоднасць іх мастацкага ўвасаблення, але менавіта для надрадковых знакаў і вынасных літар у дадзеным моўным кантэксце характэрна трывалая прасторавая пазіцыя. Як адзначалася вышэй, пэўнага алгарытму, нейкай заканамернасці для дадзеных графічных элементаў у вызначаных тэкстах выявіць, напэўна, немагчыма, бо адбываецца паступовая іх дыферэнцыяцыя ў залежнасці ад практычнага іх

прымянення. І гэта яшчэ адна з падстаў меркаваць пра набліжэнне кніжнай мовы да гутарковай, здыманне нейкіх штучных бар'ераў, якія ўскладнялі чытанне і разуменне любых тэкстаў.

## 1.3. Графемы для абазначэння галосных гукаў

Наяўнасць некалькіх варыянтаў для адной графемы абумоўлена яе пазіцыяй у дачыненні да іншых графем, а таксама ўжо адразу можна сказаць пра неадпаведнае выкарыстанне некаторых графем, іх узаемнае змяшэнне і ўзаемадапаўненне. Розналітарнае напісанне ўласціва для многіх галосных графем, і, як адзначалася вышэй, гэта звязана з рознымі фактарамі.

1) У тэксце адбываецца выразнае размежаванне графем **е** і **є**. Наяўнасць графічнага знака **е** сведчыць пра памякчонасць складу, яго выкарыстанне больш пашыранае: *воевахсѧ*, *поведелъ*, *пребывати* і інш. **Є** выкарыстоўваецца ў тэксце толькі для перадачы спалучэння [**jэ**] і ніколі не пачынае слова: *разноличныє*, *сеє егда доконалъ*, *единостаиноє*, *загинутиє*, *поглавиє*, *людиє*, *милосердиє божиє* і інш. Дакладна зразумела, што характар гучання, як і выкарыстання, у гэтых словах адрозніваецца. Акрамя таго для абазначэння гука [**э**] ўжываецца **ѣ**. Гісторыя гэтай графемы вызначаецца вялікай часавай працягласцю, калісьці гэта была асобная і самастойная фанема, яна выразна адрознівалася ад **е** і **є**. У славянскіх мовах яна праяснілася па-рознаму ў залежнасці ад іх фанетычных асаблівасцей. У старабеларускай мове яна вызначалася высокім пад'ёмам і гучала сярэдне паміж **е** і **я**, але з часам часткова або поўнасцю супала з галосным пярэдняга раду [**э**]. Атрымалася, што ў выніку канвергенцыі адбылося змяшэнне **ѣ** і **е**, гэты ж працэс адлюстраваны ў тэксце: *предословие*, *конецъ*, *хлебъ*, *поколение*, *отецъ* і інш. Пра неадрозненне гэтых дзвюх літар сведчыць таксама іх дублетнае выкарыстанне: *предословие* — *прѣдъсловиѥ*, *поколение* — *с поколѣниѥ*, *конецъ* — *конѣцъ* і інш.

2) Для абазначэння гука [**а**] таксама выкарыстоўваецца некалькі варыянтаў: **а**, **ꙗ**, **ѧ**. Апошнія два варыянты абазначаюць гук [**а**] пасля мяккага. Трэба адзначыць, што варыянты **ꙗ** і **ѧ** узаемазамяняюцца нават у адных і тых жа пазіцыях: *ꙗчмень* — *ѧчмень, рукоꙗть* — *рукоѧть, царꙗ* — *царѧ, приꙗтель* — *приѧтель, судьꙗми* — *судьѧ* і інш. Галосная графема **ѧ** у старабеларускіх тэкстах мае вельмі штучны характар, калі ўлічваць, што існуе аналаг **ꙗ**, але гэта быў адзін са спосабаў перадачы гука [**а**] пасля мяккіх зычных: *ездѧщихъ, кнѧжашихъ, протѧгни, валѧлсѧ, колъ вѧзѧщъ* і інш. Акрамя таго мы знайшлі словы *каꙗахусѧ* — *покааниѧ* — *покаѧние*, другое з якіх вызначаецца як гіпернорма. Увогуле прынцыпы выкарыстання розных варыянтаў літары **а** адпавядаюць іх пазіцыі ў слове, пытанні могуць узнікнуць з **ѧ** і **ꙗ**, для якіх няма выразнага размежавання.

3) Для абазначэння гука [**і**] у тэксце прадстаўлены некалькі варыянтаў: **ї**, **ѝ**, **и**. Літара **и** (дзесяцірычнае) пішацца для абазначэння гука [**і**] пасля мяк-

кага зычнага: *ѿворилъ, ɣчинилъ, попалиша, единороженнаѧ* і г. д. Графема **ї** выступае ў тэксце як арфаграфічны варыянт и, але вызначаецца характарам ужывання: яна выкарыстоўваецца найчасцей ва ўласных назвах і зрэдку перад ётаванымі галоснымі: *всих созженїѧ, возлианїѧ, ОЇюде, за Їорданомъ, Їзахарово, Їзегипта, Їзраилевыхъ* і г. д. З надрадковым знакам «ісо» таксама пішацца **и** дзесяцірычнае, калі абазначае злучнік: *Ѝ поодаль живуще, Ѝ ѿтоле идоша, Ѝ Їдолы ́чинити, Ѝ поставиша, Ѝ вниидоша* і г. д. Сярод усіх гэтых формаў пераважае **и** дзесяцірычнае.

4) Найбольшай паслядоўнасцю вылучаецца гук [**ы**]. Няўстойлівасць **ы** ў сістэме фаналагічных супрацьпастаўленняў прывяла да таго, што **ы** фаналагічна супаў з **и**. У сучаснай беларускай мове яны захоўваюцца як гукі, але з’яўляюцца пазіцыйнымі варыянтамі адной фанемы. Калі звярнуцца да гісторыі, то **ы**, **і** не былі самастойныя, гэта былі пазіцыйныя разнавіднасці **ь** і **ъ**. Іх функцыянаванне адбывалася ў выніку ўплыву **j**, а таксама галосных верхняга пад’ёму. У друкаваным тэксце скарынаўскіх кніг графема **ы** ўжываецца пасля цвёрдых зычных і не пачынае слова: *филистымскихъ, жены, тысещу, выгнастемѧ* і г. д. Таксама выкарыстанне гэтай графемы ў пэўных пазіцыях сведчыць пра набліжэнне да гутарковай мовы, напрыклад, *съ однымъ полкомъ, многымъ, розыидошесѧ, изыиде, с ыными подругами, куды* і г. д.

5) Для абазначэння гука [**у**] выкарыстоўваюцца наступныя варыянты: **ɣ**, **у**, **ю**, **оу**. Графема **ю** выкарыстоўваецца для абазначэння гука [**у**] пасля мяккага зычнага, рэгулярна яна ўжываецца і пасля галосных: *единою щекою ословою, предъ тварию, любить* і г. д. Не адрозніваюцца характарам выкарыстання графемы **ɣ** і **оу**: яны гэтак жа свабодна пішуцца замест прыстаўкі **в**, прыназоўніка **в**, а таксама пачынаюць слова: *оузяла колъ, ɣтекаху к вапне, чемɣ, ɣздыхала, куды ɣвоити, оусходити, ɣзѧлъ сребреники, ɣ вратъ, ɣтрее, ɣвоище, оу Їордана, во оуста* і г. д. Фактычна ў плане выкарыстання яны з’яўляюцца дублетамі. Калі параўноўваць абрысы літары у ў розных відах пісьма — устаў, паўустаў, скорапіс (на матэрыяле табліц, што прапанаваў Л. У. Чарапнін), то відавочна, што больш пашыраны варыянт **у** характэрны для ўстаўнога пісьма 11 стагоддзя. Пачынаючы з 12, 13 стагоддзяў больш распаўсюджаныя варыянты **оу**, **ɣ**. Для паўустава толькі з 15 стагоддзя зноў пачынае дамінаваць графема **у**. У скарынаўскім тэксце, нягледзячы на пэўную пашыранасць выкарыстання графемы **ук** (**ɣ**) і дыграфа **оу**, дамінуе варыянт **у**.

6) Для абазначэння гука [**о**] існуе некалькі варыянтаў: **о**, **о**, **ѿ**. Дыграф **ѿ** найбольш паслядоўна выкарыстоўваецца для спалучэння [**от**] у прыназоўніках, каранях і прыстаўках: *ѿпочинутиє, ѿступованиє, ѿрабынь, ѿочию его, ѿвеща, ѿМадиамлѧнъ, ѿворилъ* і г. д. Спецыфічнае графічнае адлюстраванне мае літара **о** ў наступных спалучэннях: *ОВениамина, Онъ, Омужех* і г. д. Гэтая спецыфічнасць заключаецца не толькі ў выкарыстанні надрадковага знака «исо», але і ў канфігурацыі самой літары. Што ж датычыцца рукапісных характарыстык устаўнога і паўустаўнога пісьма, то відавочных аналагаў

няма. Як відаць, самым распаўсюджаным варыянтам з’яўляецца графема **о**, якая свабодна выкарыстоўваецца ў пачатку, сярэдзіне і канцы слова: *отрокъ, близко, небоитесѧ, ѿпоколениѧ* і г. д. Характэрна таксама выкарыстанне на месцы этымалагічнага **е** графемы **о** ў словах тыпу *знашолъ, вышолъ, шолъ*, што звязана з зацвярдзеннем шыпячых. Аднак прыклады можна прывесці толькі з літарай **ш**. Мы не сустрэлі ніводнага прыкладу з зацвярдзелым **ч**, ён заўсёды мяккі: *чюждихъ странъ, так… чили ни ўчителѧ, наўчение, не чините* і г. д.

7) Графемы **ь**, **ъ**. Рэдукаваныя галосныя ўжо чатыры стагоддзі як не абазначалі ніякіх гукаў і пісаліся па традыцыі згодна з законам (тэндэнцыяй) да ўзыходзячай гучнасці, паводле якой склады павінны былі быць адкрытымі. Звышкароткія рэдукаваныя да 11 стагоддзя абазначалі галосныя гукі, але з часам іх звышкароткасць прывяла да іх падзення (у помніках 11 стагоддзя яны ўжо дакладна не размяжоўваюцца і ўзаемазамяшчаюцца). У нашым тэксце таксама няма дакладнага іх размежавання, але варта вылучыць некаторыя асаблівасці іх выкарыстання:

- літара **ъ** пішацца ў дзеясловах прошлага часу: *учинилъ естъ, взѧлъ, навѧзалъ, хотелъ, загадалъ есь* і г. д.;
- у лічэбніках з губнымі зычнымі: *седмъдесѧтъ мужевъ, седмъ, осмъдесѧтъ лѣтъ, четыреста осмдесѧтъ и четыре лѣта* і г. д.;
- літара **ъ** пішацца для абазначэння цвёрдых зычных у канчатках і каранях слова: *складъ, дщеръ, мозгъ, зажегъше, возъпити, розъбилъ, надъними* і г. д.

Можна вылучыць асаблівасці выкарыстання мяккага рэдукаванага **ь**:

1) у дзеясловах цяперашняга часу, а таксама ў формах загаднага ладу: *зрѧть, ослепѧють, да идуть и привезуть, дасть, судѧть, встань и подьмы в путь* і г. д.;

2) у лічэбніках: *десеть, лѣтъ пѧть сотъ и двадесеть, четь сыновъ* і г. д.;

3) у сярэдзіне і канцы назоўнікаў: *мечь, помошь, людьские, Веньаминова, ангельское, кричьте* і г. д.

Даволі паслядоўна ў тэксце перадаецца [**ў**], якое графічна супадае са спалучэннем **оу**, а таксама часам адлюстроўваецца пры дапамозе знака **ү**. Такая з’ява назіраецца ў прыназоўніках, прыстаўках, корані: *будеть оусходити, үзалъ естъ, үвоище, үздыхала, оузѧла, үкопнахъ, заүтра, затруби ү трубу* і г. д. Становіцца даволі заўважна, што гэтыя формы пачынаюць дамінаваць і актыўней пранікаць у тэкст.

У тэксце існуе некаторая група слоў, дзе зычныя спалучаюцца паводле гістарычных законаў, некаторыя іншамоўныя словы перадаюцца палітарна, што стварае неверагодныя спалучэнні: *могл̲ъ такъ үчинити, к морю черм̲н̲ому, сед̲м̲ъ, множество вел̲б̲людов, царѧ Мез̲о̲потамскаго* і г. д. Спалучальныя магчымасці зычных не абмяжоўваюцца дадзенымі прыкладамі, але гэта найбольш выразныя факты. Важна адзначыць, што некалькі разоў на працягу ўсяго тэксту паўтараюцца словы *солнце, солнечныи* разам з зычнай графемай

**л**, у сваю чаргу словы *празникъ, празноваль, празничныи*, аналагічныя паводле наяўнасці такога зычнага, выкарыстоўваюцца без літары **д**.

Неабходна адзначыць, што ў шэрагу фактаў часта перадаюцца выпадкі фанетычных асіміляцый: *да идемъ черес землю твою* (па глухасці), *погордевъ прозбою* (па звонкасці), *збирала, изземли, знашли, з пречистое девици, зделали пеψеры и перекопы* (па звонкасці) і г. д. Гэтыя прыклады, на жаль, адзінкавыя, нельга вывесці нейкую строгую і дакладную сістэму. Істотным будзе прасачыць паходжанне выразу тыпу *будут ли людиє Їзраилевы хранить заповеди его… чили ни*. Гэты выраз з падобным кантэкстам назіраецца ў тэксце некалькі разоў. Зразумела, што на месцы *чили* павінен быў стаяць злучнік *или*. Лічым, што пад уплывам вымаўленчай практыкі сфарміравалася спалучэнне *чили*, якое нават захавалася сёння ў некаторых дыялектах (яно дакладна зафіксавана).

У апісанні галосных графем мы ўжо звярталі ўвагу на зацвярдзенне шыпячых (не ўсіх), што ж датычыцца зычнага **р**, то мы сустрэлі толькі адзін выпадак яго цвёрдага ўжывання, які быў зафіксаваны ў кнізе Царстваў: *ногы дрыжашае*.

Частотнасцю выкарыстання адрозніваецца літара **ψ**, якая ўзнікла дзякуючы ўплыву **j** на зычныя і групы зычных. Гэта характэрная рыса для паўднёваславянскіх моў, у прыватнасці для старaславянскай мовы. У выніку змякчэння і асіміляцыі зычных з наступным **j** утварыўся складаны зычны **ψ**. Часцей гэтая графема выкарыстоўваецца ў розных дзеяслоўных формах, у назоўніках яна вызначаецца няпэўнасцю: *помоψь — помочь*.

Уласныя назвы і іх правапіс — рэч даволі складаная, калі ўлічваць, што дакладнага правіла іх передачы не было. Ужо ў прадмове мы сустракаем наступны варыянт: *ѿ Цира Царѧ Перскаго*. Зноў-такі гэта адзінкавы выпадак, і наўрад ці мы можам гаварыць пра з'яву цекання. Сістэма галосных і зычных графем для тэкстаў друкаваных кніг Старога Запавету Францыска Скарыны цалкам адлюстроўвае іх традыцыйны характар, адначасова падкрэслівае свядомыя ці выпадковыя эксперыменты з боку графікі, накіраваныя на збліжэнне з гутарковай мовай і на зняцце штучных бар'ераў, якія пагаршалі агульнае разуменне тэксту.

Такім чынам, сістэма галосных графем для друкаваных скарынаўскіх кніг вызначаецца, з аднаго боку, традыцыйнасцю, а з другога — інавацыйнасцю: пашыраецца фанетызацыя пісьма, праўда, яшчэ не так паслядоўна. Штучныя моўныя напластаванні ў выглядзе некаторых дыякрытычных знакаў, а таксама пэўных галосных (**ѧ, ѫ, ѣ, ъ, ь**) пастуова выцясняюцца і набываюць выразны архаічны характар.

## Літаратура

1. Біблія: факсімільнае ўзнаўленне Бібліі, выдадзенай Францыскам Скарынаю ў 1517–1519 гг.: у 3 т. — Т. 2. — Мінск, 1991.
2. Карский, Е. Ф. Славянская кирилловская палеография / Е. Ф. Карский. — М., 1921.
3. Карский, Е. Ф. Белорусы / Е. Ф. Карский. — Т. 2: Язык белорусского наречия. — Вып. 1. Исторический очерк звуков белорусского наречия. — Минск, 2006.
4. Ягич, И. В. Рассуждения южнославянской и русской старины о церковнославянском языке / И. В. Ягич. — Т. 1: Исследования по русскому языку. — СПб., 1885–1895.

# НОВЫЯ АСПЕКТЫ БЕЛАРУСКАГА СКАРЫНАЗНАЎСТВА І СКАРЫНІЯНЫ

**Валерый Белакурскі, Жанна Белакурская** *(Мінск, Беларусь)*

## ПЕРШЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ ТВОРЧАСЦІ Ф. СКАРЫНЫ Ў БДУ

З перамогай Кастрычніка 1917 г. у Беларусі ўзнялася трэцяя хваля нацыянальнага адраджэння. У рэспубліцы за кароткі час былі створаны інстытуцыйныя асновы для развіцця беларускай культуры і навукі — адчынены першыя навуковыя ўстановы, кафедры, разгорнута падрыхтоўка нацыянальных навуковых кадраў. Ужо ў працэсе інстытуцыяналізацыі культура і навука шырока заявілі аб сабе на роднай мове.

Магутны пад'ём нацыянальнай самасвядомасці выклікаў глыбокую цікавасць да гісторыі свайго народа, яго культурнай спадчыны. У вывучэнні і распрацоўцы дадзеных праблем важная роля належала вучоным БДУ, працы якіх паклалі пачатак сістэмным навуковым даследаванням у Беларусі.

Найбольшую ўвагу першых даследчыкаў беларускай культуры ў БДУ прыцягвала асоба Ф. Скарыны — выдатнага беларускага першадрукара, асветніка і мысліцеля-гуманіста. Пачатак комплексным навуковым даследаванням яго жыцця і творчасці быў пакладзены юбілейным зборнікам «Чатырохсотлецце беларускага друку», які ўбачыў свет у 1926 г. У яго падрыхтоўцы і выданні прынялі ўдзел такія вядомыя вучоныя рэспублікі, як У. Пічэта, У. Перцаў, М. Шчакаціхін, З. Жылуновіч і інш. Матэрыялы пра Скарыну, змешчаныя ў кнізе, вельмі разнастайныя па характары. Так, гісторык А. Ясінскі даследаваў культурнае развіццё Чэхіі ў пачатку XVI ст., З. Ягораў прывёў падрабязныя звесткі пра Падуанскі ўніверсітэт XV–XVI стст., дзе ў свой час Скарына атрымаў ступень «доктара лекарскіх навук», Я. Воўк-Левановіч прааналізаваў мову скарынаўскіх выданняў Бібліі.

У артыкуле «Францішак Скарына і яго літаратурная дзейнасць», змешчаным у зборніку, М. Піятуховіч ахарактарызаваў Скарыну як выдатнага гуманіста, у працах якога выяўляюцца «яркія ўзоры нацыянальнай самасвядомасці» [8, с. 178–179]. Змагаючыся за асвету, уздым дабрабыту і культуры народа, Скарына служыў яму ўсёй сваёй практычнай дзейнасцю. Яго жыццё — узор самаадданай працы і вялікі подзвіг, падкрэслівае даследчык. Грунтоўна прааналізаваўшы прадмовы Скарыны да розных выданняў Бібліі, Піятуховіч робіць вывад аб крытычных адносінах аўтара да тэкстаў Свяшчэннага Пісання. Адвольнае каменціраванне Бібліі, шматлікія ўстаўкі і змены, нарэшце, пераклад яе на старабеларускую мову — усё гэта, на думку даследчыка, сведчыць, што Скарына адышоў ад царкоўных традыцый і, кіруючыся найперш асветніцкімі мэтамі, выступаў як вучоны-гуманіст.

Адной з праяў гуманізму беларускага асветніка быў яго індывідуалізм, які расхістваў рэлігійныя ўяўленні аб чалавеку як істоце, поўнасцю залежнай ад Бога. «Скарына поўны пачуцця ўласнай годнасці, — падкрэслівае М. Піятуховіч, — ён ужо далёкі ад хрысціянскага ідэалу пакорлівасці…» [8, с. 178]. Нават Біблію, адзначае даследчык, Скарына быў схільны разглядаць хутчэй з індывідуалістычных, а не рэлігійных пазіцый. Кніга «Іоў», напрыклад, — гэта «лекарство душевное, потеха всем смутным», Псалтыр — не толькі «малым детям початок всякой доброй науки», але і «псіхалагічны памятнік, дзе чалавек можа знайсці водгук свайму асабістаму настрою, дзе заключана складаная гама перажыванняў, пачынаючы ад найвышэйшага стану экстазу, захаплення і канчаючы пачуццём адчаю і смутку» [8, с. 179]. Па прадмовах да Бібліі, адзначае Піятуховіч, можна меркаваць аб вялікай і разнастайнай цікавасці Скарыны да прыроды. Тут мы знаходзім «размовление о прирождении древ и былин, зверей и птиц, гадов и рыб» [8, с. 178]. У цэлым жа для філасофскіх і грамадска-палітычных поглядаў Скарыны, заключае даследчык, было характэрна імкненне да пераадолення сярэдневяковых тэалагічных уяўленняў і ўсталяванне натуралістычных поглядаў на сусвет. І хаця на асобе Скарыны ўсё «яшчэ ляжаць густыя цені сярэднявечча, — піша М. Піятуховіч, — у той жа час змрок гэтых ценяў рассейваюць светлыя праменні жыццярадаснага Рэнесансу» [8, с. 179].

Істотны ўклад у даследаванне светапогляду Скарыны ўнёс У. Пічэта. У сваіх артыкулах, змешчаных у зборніку «Чатырохсотлецце беларускага друку», ён грунтоўна разгледзеў шматлікія аспекты дзейнасці асветніка. Эпоху, у якую жыў і працаваў выдатны гуманіст, Пічэта ахарактарызаваў як «беларускае Адраджэнне». Адметнай рысай гэтага часу, на погляд аўтара, быў «гуманістычны рух, нацыянальны ў сваёй аснове і індывідуалістычны па свайму характару» [8, с. 317]. Вучоны падрабязна даследаваў сацыяльна-эканамічны і культурны ўзровень радзімы Скарыны — Полацка XVI ст., даў агляд дзейнасці асветніка ў Празе і Вільні. У працы «Скарыніяна» Пічэта разгледзеў асноўныя пытанні, якія паставіла і паспрабавала вырашыць

гістарыяграфія XVIII — пачатку XX ст. Да іх ліку належалі: вызначэнне часу і месца выданняў Скарыны, высвятленне крыніц, якія паслужылі асновай для яго перакладаў, вывучэнне мовы выданняў Скарыны і інш.

У. Пічэта ўважліва прааналізаваў адзінае на той час арыгінальнае манаграфічнае даследаванне, прысвечанае беларускаму мысліцелю, — кнігу П. Уладзімірава «Доктар Францыск Скарына» (СПб., 1888) і рэцэнзіі на яе. Адзначаючы несумненную вартасць гэтай працы, падкрэсліваючы яе бясспрэчную навуковую каштоўнасць, беларускі вучоны адзначыў таксама і шэраг недахопаў — у першую чаргу недастатковае асвятленне аўтарам сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця Літоўска-Беларускай дзяржавы XVI ст., яе сувязей з Заходняй Еўропай. Скарыну Пічэта характарызуе як выдатнага гуманіста, дзейнасць якога — адданае служэнне свайму народу. Гаворачы аб значэнні перакладу Бібліі, аўтар адзначае, што, перакладаючы Свяшчэннае Пісанне на родную мову, усходнеславянскі першадрукар імкнуўся зрабіць яго «даступным і зразумелым для шырокіх народных мас» [8, с. 317]. Для Скарыны Біблія, падкрэсліваў ён, мела вялікае пазнавальнае значэнне. У той жа час спроба прадставіць Біблію як аўтарытэтную крыніцу ведаў, на погляд даследчыка, сведчыць аб рэлігійнай абмежаванасці поглядаў перакладчыка. Індывідуалізм Скарыны, які цалкам не парваў з царкоўнымі традыцыямі, Пічэта смела параўноўваў з індывідуалізмам ранніх італьянскіх гуманістаў, такіх, напрыклад, як Дантэ, які таксама не змог канчаткова парваць з рэлігіяй.

Скарына называў сваю мову «рускай мовай», супрацьпастаўляючы ёй «мову славянскую». Я. Воўк-Левановіч, падрабязна разгледзеўшы мову перакладу Скарынавай Бібліі, зрабіў вывад, што «жывая беларуская мова эпохі Скарыны ў большасці характэрных рыс — фанетыкі, марфалогіі і словах — была такой, якой мы яе ведаем цяпер» [8, с. 383].

Вялікую ўвагу Скарыне ўдзяляў Я. Карскі. Яшчэ ў 1918 г., у Петраградзе, ён надрукаваў першую ў савецкі час працу аб выдатным беларускім асветніку, прысвечаную 400-годдзю з дня выхаду ў свет пражскага Псалтыра Скарыны [4, с. 13–14]. Абагуліўшы вядомы да таго часу матэрыял, галоўным чынам даследаванні П. Уладзімірава, І. Каратаева, І. Шляпкіна і інш., ён раскрыў веліч грамадзянскага подзвігу Скарыны, паказаў яго сапраўдную ролю ў гісторыі беларускага народа. У кнізе «Беларусы» (1921) аўтар таксама адвёў шмат месца вялікаму гуманісту. Карскі высока ставіў дзейнасць Скарыны і лічыў, што ўсе яго выданні Бібліі — выключная ў многіх адносінах з'ява «заходнерускай культуры». У асобе Скарыны, піша ён, мы маем «выдатнага адукаванага чалавека свайго часу, які ніколькі не ўступаў заходнееўрапейскім дзеячам таго часу ні сваім розумам, ні энергіяй і высокімі задумамі» [5, с. 23]. Даследчык бачыў мэту перакладчыцкай і кнігадрукарскай дзейнасці Скарыны ў імкненні распаўсюдзіць асвету сярод народа. У сваім перакладзе Бібліі, адзначаў вучоны, Скарына выявіў вялікую самастойнасць. Яна заключалася як у напісанні прадмоў, так і ва ўжыванні вершаў сілабічнага характару.

У сваю кнігу Карскі ўключыў урыўкі перакладаў Скарыны і даў іх сціслы лінгвістычны аналіз. Вызначаючы канфесійную прыналежнасць асветніка, Карскі лічыў яго праваслаўным і на гэтай падставе спрабаваў даказаць, што тым горадам, дзе была выдадзена яго Біблія, з'яўляецца менавіта чэшская Прага, а не прадмесце Варшавы, як меркавалі некаторыя даследчыкі. Ён таксама выказаў думку аб тым, што, магчыма, некаторыя кнігі, перакладзеныя Скарынам, так і не былі надрукаваны.

Спецыяльныя раздзелы, прысвечаныя Скарыне, уключаліся таксама ў агульныя курсы гісторыі беларускай літаратуры. Адной з такіх кніг былі «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры» праф. М. Янчука (Мінск, 1922), якія ўяўлялі сабой дапрацаваны курс лекцый, прачытаных аўтарам у Маскоўскім універсітэце. На падставе вывучэння прадмоў М. Янчук знаёміць чытача са светапоглядам Скарыны. Высока адгукаючыся аб асветніцкай дзейнасці гуманіста, вучоны адзначыў, што «Скарына першым даў у рукі народу зразумелую літаратуру і абуджаў у гэтым народзе любоў да асветы і да роднага слова» [11, с. 8]. Погляд Скарыны на значэнне кніг Свяшчэннага Пісання, згодна з думкай Янчука, нельга характарызаваць як выключна царкоўны. «Ён (Скарына. — *В. Б.*) шукае ў іх не толькі боскую, але і жыццёвую мудрасць» [11, с. 10]. Гаворачы пра сілабічныя вершы Скарыны, вучоны падкрэсліваў іх уплыў на далейшае вершаскладанне ў Беларусі і на Украіне.

У 1926 г. у Мінску ўбачыла свет чацвёртае выданне «Гісторыі беларускай літаратуры» М. Гарэцкага (першае і другое былі надрукаваны ў Вільні ў 1920 і 1921 гг.). Значнае месца ў кнізе адводзілася асвятленню жыццёвага і творчага шляху Скарыны. Характарызуючы Скарыну як яркага прадстаўніка беларускай літаратуры эпохі Адраджэння, аўтар бачыў у ім «гуманіста, патрыёта і чалавека набожнага, лепшага інтэлігента свайго часу» [2, с. 21]. Высвятляючы значэнне Скарыны, Гарэцкі сцвярджаў, што «Скарына стаіць у нас на вялікім гісторыка-літаратурным і культурным рубяжы як беларускі першадрукар. Друкарня яго ў Вільні, першая ў Беларусі, выканала вялікую культурную місію для ўсяго славянскага Усходу» [2, с. 25].

Вялікую цікавасць у чытачоў выклікаў артыкул А. Харэвіча «Скарына і яго эпоха», надрукаваны ў часопісе «Полымя» ў 1925 г. Даючы агульную характарыстыку сацыяльна-эканамічнага становішча ВКЛ у канцы XV — пачатку XVI ст., даследчык звярнуў увагу на развіццё буйнога землеўладання і звязаных з ім шляхецкіх вольнасцей, становішча гарадоў, маральны заняпад царквы. У ідэалогіі Скарыны аўтар бачыў рэакцыю на рэлігійна-схаластычнае светаразуменне сярэднявечча. Скарына, на думку Харэвіча, — прадстаўнік гуманістычнага напрамку, той яго часткі, якая была цесна звязана з Рэфармацыяй. Некаторымі сваімі ідэямі, сцвярджае даследчык, Скарына значна апярэдзіў той час, у які жыў. «Праз усе яго выданні, — падкрэслівае А. Харэвіч, — праходзіць ідэя сувязі пісьменства з народам, тая ідэя, якая жыве і ў нашы дні» [7, с. 151]. Аўтар высока ацэньвае ролю першай белару-

скай друкарні, створанай Скарынам у Вільні, адзначаючы пры гэтым, што яна садзейнічала распаўсюджанню адукаванасці і асветы сярод народа. У асобе Скарыны ён бачыў не толькі асветніка, але і вучонага-філолага.

Беларускія мастацтвазнаўцы ў сваіх працах закраналі пытанне аб гравюрах і аздобах у выданнях Скарыны. Асабліва падрабязна даследаваў гэту праблему М. Шчакаціхін. Даючы высокую ацэнку мастацкай вартасці гравюр скарынаўскай Бібліі, вучоны імкнуўся выявіць іх сувязь з аналагічнымі ўзорамі ў Заходняй Еўропе. У прыватнасці, Шчакаціхін выдзеліў з агульнага ліку гравюр пражскай Бібліі Скарыны невялікую іх групу, якую, як ён лічыў, па тэхнічных і іншых асаблівасцях можна было аднесці да чэшскай мастацкай традыцыі. Аднак у працэсе далейшых даследаванняў вучоны не змог знайсці сярод чэшскіх узораў такіх, што як па сюжэтах, так і па тэхніцы выканання былі падобныя на гравюры скарынаўскай Бібліі, выдадзенай у Празе. Гэта дало магчымасць выказаць меркаванне, што Скарына сам ілюстраваў свае выданні.

На падставе ўважлівага аналізу паперы і філіграней кніг беларускага першадрукара М. Шчакаціхін спрабаваў дакладна вызначыць год іх выдання [10, с. 435–450]. Даследчык выказаў таксама цікавую гіпотэзу аб даце нараджэння самога Скарыны [9, с. 148–152]. У гэтай сувязі М. Шчакаціхін звярнуў увагу на яго асабісты герб, дзе сонца напалову заслонена месяцам, і зрабіў вывад, што Скарына павінен быў нарадзіцца менавіта ў той год, калі адбылося сонечнае зацьменне, бачнае і ў Полацку, на радзіме Скарыны. Такое зацьменне, згодна з астранамічнымі данымі, было зафіксавана 6 красавіка 1486 г.

У канцы 1920-х гг. у рэспубліцы з’явіліся даследаванні, прысвечаныя эпосе Скарыны. Вучоныя працягвалі таксама высвятляць гістарычнае значэнне яго кніг для асветы беларускага народа [3, с. 83–95]. З’явіліся першыя ў савецкі час публікацыі дакументаў, што датычаць жыцця Скарыны і яго сям’і [1, с. 263–264].

Як сведчаць разгледжаныя матэрыялы, да пачатку 30-х гг. XX ст. у рэспубліцы былі дасягнуты прыкметныя поспехі ў вывучэнні творчасці Скарыны. Аднак далейшым даследаванням значна перашкодзіў вульгарны сацыялагізм, нігілістычнае стаўленне да культурнай спадчыны мінулага, якія расцвілі ў перыяд культу асобы. Даволі шырокае распаўсюджанне атрымала думка аб старажытнай беларускай культуры як амаль цалкам «рэакцыйна-феадальнай». Скарына разглядаўся некаторымі аўтарамі як сярэднявечны манах-схаласт, які пераклаў рэакцыйную, шкодную Біблію на беларускую мову [6, с. 16].

Такім чынам, у выніку першых даследаванняў творчасці Скарыны вучонымі БДУ беларуская культура ўзбагацілася каштоўнымі працамі, якія раскрылі яркую старонку духоўнага развіцця свайго народа. Набыткі вучоных універсітэта паклалі пачатак той плённай працы, што працягваецца ў нашы дні.

## Літаратура

1. Беларускі архіў (XV–XVI стст.). — Мінск: Галоўлітбел, 1928. — Т. 2. — 342 с.
2. Гарэцкі, М. Гісторыя беларускай літаратуры / М. Гарэцкі. — М.; Л.: Дзярж. выд., 1924. — 382 с.
3. Доўнар-Запольскі, М. Да юбілею беларускага кнігадрукавання / М. Доўнар-Запольскі // Гісторыка-археалагічны зборнік. — Мінск, 1927. — № 1. — С. 83–95.
4. Карский, Е. Ф. Доктор Франциск Скорина. По поводу 400-летия его изданий (1517–1917) / Е. Ф. Карский // Чырвоны шлях. — 1918. — № 3–4. — С. 13–16.
5. Карский, Е. Ф. Белорусы / Е. Ф. Карский. — СПб., 1921. — Т. 3. — Ч. 2. — 246 с.
6. Ротман. Афіцыйны гісторык нацдэмаў // Савецкая краіна. — 1931. — № 7. — С. 10–18.
7. Харэвіч, А. Скарына і яго эпоха / А. Харэвіч // Полымя. — 1925. — № 7. — С. 138–152.
8. Чатырохсотлецце беларускага друку (1525–1925). — Мінск: Інбелкульт, 1926. — 353 с.
9. Шчакаціхін, М. Калі радзіўся Францыск Скарына / М. Шчакаціхін // Полымя. — 1925. — № 5. — С. 148–151.
10. Шчакаціхін, М. Да пытання аб храналогіі «Малой падарожнай кніжыцы» Скарыны / М. Шчакаціхін // Зап. аддзела гуманітарных навук Інбелкульта. Працы класа гісторыі. — Мінск, 1928. — Кн. 3. — Т. 2. — С. 345–450.
11. Янчук, Н. А. Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры / Н. А. Янчук. — Мінск: Адраджэнне, 1922. — 118 с.

**Ігар Запрудскі** *(Мінск, Беларусь)*

# АСОБА І ЧЫННАСЦЬ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ Ў АЦЭНКАХ АДАМА КІРКОРА

Адам Кіркор (1818–1886) пакінуў значны след у гістарыяграфіі і краязнаўстве, этнаграфіі і фалькларыстыцы, публіцыстыцы, мемуарыстыцы і нарысістыцы, а таксама літаратуразнаўстве. Як арганізатар выдавецкай справы, рэдактар альманахаў «Radegast» (1843), «Pamiętniki Umysłowe» (1845–1846), «Teka Wileńska» (1857–1858), «Na dziś» (1872), «Teka Krakowska» (1884) і газет «Kurjer Wileński» (1860–1866), «Новое время» (1868–1870) ён быў вядомы не толькі ў Беларусі і Літве, але і ў адукаваных колах польскага і рускага грамадства. Кіркораўскія выданні, незалежна ад таго, выходзілі яны ў Вільні, Пецярбургу або Кракаве, мелі рэгіянальны літоўска-беларускі характар, тэматычна былі звязаны з грамадскімі і культурнымі праблемамі мясцовага жыцця, узбуджалі ў чытачоў пачуццё патрыятызму і ў пэўнай ступені накіроўвалі развіццё літаратуры ў краі. Пішучы па-польску і па-руску (па няпэўных звестках, і па-беларуску), ён лічыў сябе ліцвінам, у адной з публікацый назваў сябе «не прыроджаным палякам, а беларусам» і ў той жа час не пярэчыў, калі да яго звярталіся як да «истинно русского» чалавека. У светапоглядзе А. Кіркора важнае значэнне меў славянафільскі аспект.

Упершыню А. Кіркор выступіў на літаратурнай ніве ў 1839 г. у «Вопытах у рускай славеснасці выхаванцаў гімназій беларускай навучальнай акругі», а яго апошняя кніга «Літоўская базіліка» была выдадзена ў 1886 г. Ён быў аўтарам дзясяткаў артыкулаў і разнастайных навуковых, навукова-папулярных і літаратурных прац, найважнейшымі сярод якіх з’яўляюцца «Гістарычны даведнік па Вільні і яе ваколіцах» (1856, 2-е выд. 1880), «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» (1858) з далучэннем першага надрукаванага беларуска-рускага слоўніка, «Нарысы сучаснай рускай літаратуры» (1873), «Пра літаратуру братніх славянскіх народаў» (1874), у якой першы раздзел прысвечаны разгляду гісторыі беларускай літаратуры, «Літоўскія абразкі: З успамінаў бадзягі Sobarri» (1874), каларытныя і адметныя па кампазіцыі і стылістыцы мемуары; нарысы пра Літву і Беларусь, змешчаныя ў 3-м томе «Маляўнічай Расіі» (1882), знамянальная і найбольш значная ў XIX ст. работа пра нашу бацькаўшчыну, разлічаная на масавага чытача. А. Кіркор сябраваў з беларускімі пісьменнікамі У. Сыракомлем, В. Каратынскім, В. Дуніным-Марцінкевічам, А. Вярыгам-Дарэўскім, А. Плугам, А. Ельскім, Ю. Ляскоўскім, ён меў шырокія сувязі ў краёвых, расійскіх і польскіх навукова-культурных колах.

На хвалі «галоснасці», абвешчанай імператарам Аляксандрам II у другой палове 50-х гг. XIX ст., імя Францішка Скарыны ў адпаведным, асветніцкім

і нацыянальна-будзіцельскім, кантэксце было згадана А. Кіркорам у «Этнаграфічным поглядзе на Віленскую губерню» (1858). Аўтар з публіцыстычнай пафаснасцю імкнуўся пераканаць чытачоў: «Не падлягае сумненню, што дыялект, які называюць цяпер беларускім, менавіта той самы, якім карысталіся старажытныя Крывічы. На ім былі напісаны літоўскія законы, граматы і ўсе публічныя акты да часоў Стэфана Баторыя… На беларускім дыялекце вядомы наступныя найбольш важныя кнігі: Статут Казіміра Ягелона 1492 г., Статут Літоўскі, складзены ў 1505 г., выпраўляны ў 1522, 1529, 1564 і 1588 гг. (друкаваўся ў 1856, 1858 і 1821 г.), Трыбунал вялікага князя літоўскага 1581 г., Летапісец Літоўскі і Рускі (выд. Даніловічам у 1827 г.), Хроніка Быхаўца (выд. Нарбутам у 1846 г.), Біблія, выд. Скарыны ў 1517 (у Празе, а потым у 1525 г. у Вільні), Псалмы, Апостальскія дзеі, яго ж, выд. 1525 г., Пасланні апост. 1528 г. і шмат іншых» [3, с. 125]. Гэта этнаграфічнае даследаванне складалася па акрэсленай праграме Рускага геаграфічнага таварыства, але аўтар імкнуўся выйсці за вузкія рамкі і падкрэсліць багатыя культурныя традыцыі беларускага народа. Ён ужо тады выдатна разумеў не толькі тое, якую ролю адыгрывала ў ВКЛ беларуская мова і культура, але і значэнне выданняў Скарыны для пацвярджэння багатых культурных здабыткаў рэнесанснай эпохі.

Найбольш важнае для гісторыі беларускага літаратуразнаўства выступленне вучонага ў якасці даследчыка літаратуры — гэта кніга «Пра літаратуру братніх славянскіх народаў» (1874), якая змяшчала тэксты публічных лекцый, прачытаных А. Кіркорам у кракаўскім Тэхнічна-прамысловым музеі ў 1873 г. У літаратурным аглядзе газеты «Czas» сцвярджалася: «Сярод іншых лекцый найбольш адзначыліся лекцыі пра літаратуры братніх славянскіх народаў, якія прачытаў п. А. Кіркор, вядомы віленскі пісьменнік і археолаг, і якія зараз выйшлі асобнай кніжкай... Трэба прызнаць, што аўтар у вельмі займальнай форме выканаў пастаўленую перад сабой задачу; бо змог пра кніжкі, вядомыя толькі эрудытам, і пра аўтараў, слава пра якіх не разышлася шырока, расказаць так даступна, даць ім такія цікавыя гістарычныя характарыстыкі, што нідзе аўтар не выглядае сухім, але паўсюль пазнавальным, аж да завастрэння цікавасці да знаёмства з тымі крыніцамі, з якіх ён так умела чэрпаў» [9, 1873]. Кіркораўскія лекцыі адразу атрымалі высокую ацэнку, што паспрыяла іх хуткаму выданню асобнай кнігай. Але пазней гэтая важная праца была незаслужана забыта. Нават у вялікім артыкуле «Беларуская літаратура і бібліяграфія» (1892) А. Ельскага, якому А. Кіркор завяшчаў значную частку свайго рукапіснага архіва, не змешчана інфармацыя пра яе [6, 1892]. У сувязі з тым, што кніга «Пра літаратуру братніх славянскіх народаў» была выдадзена па-за межамі Расіі і нязначным накладам, увядзенне яе ў навуковы ўжытак у беларускім літаратуразнаўстве адбылося толькі ў 60-я гг. XX ст. Упершыню кароткая характарыстыка зместу кіркораўскіх лекцый дадзена А. Мальдзісам [4, с. 127–128].

А. Кіркор быў добра знаёмы з працамі рускіх славістаў па гісторыі ўсходнеславянскіх літаратур. Але з некаторымі іх канцэптуальнымі палажэннямі ён прынцыпова не пагаджаўся. Апынуўшыся ў Кракаве, па сутнасці, у эміграцыі, вучоны змог адкрыта выказаць сваю пазіцыю. Паказальнае ў гэтым сэнсе шчырае кіркораўскае прызнанне пра змест і скіраванасць сваіх лекцый у датаваным 1873 г. лісце да пецярбургскага славіста А. Катлярэўскага: «Зразумела, прабелаў мне не пазбегнуць: зусім няма матэрыялаў. Суцяшаюся тым, што ўсё ж хоць мая праца і вельмі будзе дрэнная — але першая ў польскай літаратуры. За напрамак я не перажываю — яго не асудзіць і ліберальны рускі. Бадай што рускаму не спадабаецца тое, што я праводжу рэзкую мяжу паміж усходняй і заходняй Расіяй і гавару спярша пра апошнюю, г. зн. пра русінаў літаратуру (іначай кажучы, пра маларускую і беларускую), а пра расійскую ці маскоўскую пачынаю з XV і XVII стст. Але што ж рабіць — Кіева, “Песні пра паход Ігара”, Скарыну, Статута і г. д. і г. д. маскалям я не аддам. Усё гэта наша, а іх літаратура ўласна ж і пачынаецца з часоў архі-Грознага, Курбскага і інш.» [цыт. па: 5, с. 440]. І такой неардынарнай для таго часу трактоўкі фактаў мінулага, паводле якой «Слова...», асоба і чыннасць Скарыны і Статуты ВКЛ сталіся фундаментальнымі «катэгорыямі», А. Кіркор паслядоўна прытрымліваўся ў кнізе «Пра літаратуру братніх славянскіх народаў», адкрыўшы яе нарысам «Русінская літаратура». Гаворачы пра беларускую мову і літаратуру, вучоны выразна акрэсліў сваю пазіцыю: «Беларус і сёння не паддаўся такім вялікім зменам і да нашых дзён захаваў мову, на якой напісана была знакамітая паэма “Песня пра паход Ігара”, на якую Скарына пераклаў Святое Пісанне, на якой абвяшчаліся законы, статуты, прывілеі, наданні і г. д. з першай паловы XIII ст.» [7, s. 50].

А ў той перыяд у польскай навуцы і публіцыстыцы было пашырана безапеляцыйнае меркаванне, што «Русь (Беларусь. — *І. З.*) нарэшце пазбылася даўнейшага варварства дзякуючы польскай культуры» [2, с. 131]. У сувязі з гэтым, гаворачы пра культурную сітуацыю ў Вялікім Княстве Літоўскім у XIV–XVII стст., А. Кіркор выступаў з выразна тэндэнцыйных пазіцый. Невыпадкова ён не толькі падкрэсліў, што пераклад Бібліі на русінскую (старабеларускую. — *І. З.*) мову быў надрукаваны на 44 гады раней за першы польскамоўны пераклад, але і на аснове фактаў даводзіў, што культура ВКЛ у гэты перыяд была на вельмі высокім узроўні. «Літоўская Русь не была так далёка дзікай і варварскай нават і перад першым з’яднаннем з Польшчай (маецца на ўвазе Крэўская ўнія 1386 г. — *І. З.*), — палемічна адзначалася ў кіркораўскіх лекцыях. — Не кожнаму вядома, што русінская мова некалькі стагоддзяў была пануючай на Літве і Русі, што не адны толькі сялянскія песні, але і літаратурныя творы, а таксама дакументы і творы рэлігійнага, гістарычнага, прававога і дыпламатычнага зместу пісаліся на гэтай мове» [7, s. 37]. Як асветнік А. Кіркор выдатна разумеў важнасць выдавецкай дзейнасці ў гісторыі літаратуры і культуры. Прыведзены ім факт выдання ў Княстве ў

перыяд з 1517 па 1632 г. 149 кніг на старабеларускай, польскай і лацінскай мовах сведчыў аб высокім узроўні развіцця «русінскай» цывілізацыі.

Цікавую ацэнку даў вучоны дзейнасці Францішка Скарыны. Гаворачы пра скарынаўскую эпоху, А. Кіркор спецыяльна падкрэсліў: «Пяройдзем да помнікаў пісьменства, надрукаваных у XV і XVI стагоддзях. З гэтага пункту гледжання русінскае пісьменства не толькі не саступае іншым братнім, але нават у пэўных адносінах ідзе паперадзе іх. Такі вывад не з'яўляецца толькі меркаваннем. Наадварот, мы сцвярджаем гэта на аснове навукова вырашанага пытання» [7, s. 24]. А. Кіркор прапанаваў кароткі нарыс жыцця і дзейнасці Скарыны, асабліва падкрэсліваючы факт перакладу Бібліі менавіта на родную мову (у процівагу польскай і «расійскай»). Ён назваў Палачаніна «чалавекам... глыбокай навукі» і «верным каталікам» [7, s. 28], сцісла акрэсліў акалічнасці драматычных стасункаў першадрукара з Марцінам Лютэрам і каралём Жыгімонтам І Старым, не хаваў таго, што некаторыя сучаснікі абвінавачвалі Скарыну ў чарнакніжніцтве.

Кіркораўскае стаўленне да прысвечаных першадрукару даследаванняў было крытычным. Прынамсі, ён адным з першых асудзіў заганную практыку выкарыстання творчай спадчыны Скарыны ў палітычных мэтах. А такія факты мелі месца, асабліва пасля паўстання 1863–1864 гг., калі скарынаўскія выданні сталі важкім аргументам, каб «даказаць старшынство і сілу рускай цывілізацыі ў заходніх губернях» [2, с. 147]. Нібы праводзячы паралель з уласным пакручастым жыццём, А. Кіркор разважаў: «Часам дзіўны лёс наканаваны чалавеку, ён хутка выйдзе на самастойную дарогу і, не дагаджаючы той ці іншай партыі, лагеру альбо пашыранай думцы, ідзе за натхненнем сваёй ідэі і сэрца, знаходзячы адзінае суцяшэнне ў спакоі ўласнага сумлення. Так было і са Скарынам. Пры жыцці ірвалі яго, знеслаўлялі, нават прыцягвалі да суда, а вось і пасля смерці, праз тры стагоддзі, палітычныя партыі карыстаюцца ім і працай гэтага слаўнага чалавека, кожны з лагераў яе сабе прысвойвае і на сваю карысць тлумачыць» [7, s. 28]. Думаецца, што названы палітычны чыннік і стаў прычынаю таго, што ў пазнейшых падцэнзурных выданнях А. Кіркора, апублікаваных у Расіі, імя і чыннасць Скарыны або не згадваліся ўвогуле, як сталася з перавыданнем «Гістарычнага даведніка па Вільні і яе ваколіцах» (1880) [8, s. 30], або пра іх пісалася са значна меншым піетэтам.

Так, у нарысе «Асвета і народная творчасць у Літве», змешчаным у 3-м томе «Маляўнічай Расіі» (1882), інфармацыя пра Скарыну заключана ў адным абзацы і падаецца пераважна канстатацыйна. А. Кіркор сцвярджае: «Русская библия переведена с латинской Вульгаты Францом Скориною из Полоцка… Некоторые из русских вельмож обратили на него внимание, как на человека весьма способного, и, сознавая необходимость иметь библию на родном языке, поручили ему это великое дело… Скорина усердно взялся за перевод, но, вероятно, типография Фиола (Швайпольта Фіёля. — *І. З.*) оказалась недостаточною для издания библии, и потому Скорина отправился в Прагу, где и

начал ее печатание в 1517 г., продолжая его до 1520 г. Между тем в Вильне, стараниями того же Бабича, основана была значительная типография… Тогда Скорина поспешил в Вильно и здесь продолжал печатание, оконченное в 1525 г. Кроме перевода библии, Скорина издал несколько … других русских книг. Издания его украшены великолепными по времени политипажами, сделанными в Нюренберге» [1, с. 100]. Тым не менш у багата ілюстраваным 3-м томе «Маляўнічай Расіі» ніводнай скарынаўскай гравюры не змешчана, нават вядомай партрэтнай выявы. І гэта ўяўляецца невыпадковым. А. Кіркор, верагодна, свядома імкнуўся пазбягаць таго, што магло б прывесці да эмблематызацыі Ф. Скарыны ў якасці «рускага» першадрукара. Аўтар, па зразумелых прычынах, не мог адкрыта акцэнтаваць увагу на «беларускасці» асветніцкай чыннасці Палачаніна, але знайшоў магчымасць даць падказку дапытліваму чытачу. У гэтым сэнсе вельмі паказальна, што ў абзацы, які непасрэдна папярэднічаў канспектыўнаму экскурсу, прысвечанаму Скарыне, сцвярджалася: «Первая библия на славянских языках напечатана по-чешски в Праге в 1488 г., вторая же, на белорусском языке, в 1517 г. (відавочна, тут маецца на ўвазе Скарынава выданне. — *І. З.*), третья, Краинская, в 1555, а затем четвертая, польская, напечатанная в Кракове для римско-католического исповедания в 1561…» [1, с. 100]. Гэты факт дастаткова выразна характарызуе датклівасць сітуацыі і пазіцыю А. Кіркора як аўтара, які, з аднаго боку, павінен быў улічваць жорсткія патрабаванні рэдактараў і расійскай цэнзуры, кансерватыўная і выключна імперская скіраванасць дзейнасці якой пасля гвалтоўнай смерці Аляксандра II у 1881 г. стала беспрэцэдэнтнай, а з другога боку, заставацца верным уласным перакананням і гістарычнай праўдзе.

Такім чынам, А. Кіркор належаў да ліку тых даследчыкаў і папулярызатараў навукі другой паловы XIX ст., дзякуючы працам якіх постаць Францішка Скарыны, набываючы рэнесансную маштабнасць, паступова ўпісвалася ў кантэкст менавіта беларускай гісторыі. Аднак ідэйная скіраванасць і пафас кіркораўскіх публікацый, у якіх ішла гаворка пра асобу і чыннасць першадрукара, у значнай ступені залежалі ад часу і месца іх напісання, характару выдання, інтэлектуальнай атмасферы і палітычнай кан'юнктуры, пашыраных у тагачасным грамадстве.

## Літаратура

1. Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении: Литовское и Белорусское Полесье: Репринт. воспроизведение изд. 1882 г. — Минск: БелЭн, 1993. — 550 с.
2. Каўка, А. Тут мой народ: Францішак Скарына і беларуская літаратура XVI — пач. XX стст. / А. Каўка. — Мінск: Маст. літ., 1989. — 255 с.
3. Киркор, А. Этнографический взгляд на Виленскую губернию / А. Киркор // Этнографический сборник. — СПб.: Тип. Э. Праца, 1858. — Вып. 3. — С. 115–276.
4. Мальдзіс, А. Творчае пабрацімства: Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX ст. / А. Мальдзіс. — Мінск: Навука і тэхніка, 1966. — 159 с.
5. Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей: у 4 кн. — Мінск: Навука і тэхніка, 1993. — Кн. 1: Старажытны перыяд — XIX ст. — 476 с.
6. Jelski, A. Białoruska literatura i bibliografia / A. Jelski // Wielka encyklopedja powszechna ilustrowana. — Warszawa: Nakł. i druk S. Sikorskiego, 1892. — T. 8. — S. 646–658.
7. Kirkor, A. H. O literaturze pobratymczych narodów słowiańskich: Odczyty publiczne w Muzeum techniczno-przemysłowem w Krakowie / A. H. Kirkor. — Kraków: Druk. L. Paszkowskiego, 1874. — 356 s.
8. Kirkor, A. H. Przewodnik historyczny po Wilnie i jego okolicach / A. H. Kirkor. — 2-e wyd. — Wilno: Nakł. i druk. J. Zawadzkiego, 1880. — 308 s.
9. Ze swiata książkowego // Czas. — 1873. — 15 listopada.

**Наталля Гардзіенка** *(Мінск, Беларусь)*

# ДА БІЯГРАФІІ СКАРЫНАЗНАЎЦЫ ЯНКІ САДОЎСКАГА

Найбольш вядомымі скарыназнаўцамі на эміграцыі можна назваць айца Аляксандра Надсана ды Вітаўта Тумаша. Апошні быў не толькі аўтарам шматлікіх публікацый, але і складальнікам даведніка «Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны XVI–XX» (Нью-Ёрк, 1989). Анатаваная бібліяграфія ахоплівае Скарыніяну ад 1492 да 1982 гг. у 7 раздзелах: актавыя, летапісныя, эпісталярныя матэрыялы; выданні самога Скарыны; рукапісныя копіі і наследаванні Скарынавых выданняў; літаратура пра Скарыну і ягоную дзейнасць (каля 2500 пазіцый); творы літаратуры і мастацтва пра Скарыну; Скарына ў музыцы; рознае (арганізацыі і г. д.). Сярод згаданых у кнізе публікацый ёсць і колькі пазіцый (у тым ліку і дзве дысертацыі), якія належалі прафесару Кінгстанскага ўніверсітэта ў Канадзе доктару Янку Садоўскаму.

Звестак пра жыццё гэтага навукоўца ў друку амаль не засталося. Можна згадаць хіба што некралог у газеце «Беларус»[1] ды кароткія згадкі ў кнізе а. Аляксандра Надсана «Біскуп Чэслаў Сіповіч: святар і беларус» (Мінск, 2004). Тым больш каштоўным з'яўляецца фонд Янкі Садоўскага ў Нацыянальнай бібліятэцы і архіве Канады ў Атаве (*Library and Archives Canada. John Sadouski Fonds. MG31–D124*). У адной з 11 скрыняў дакументаў ёсць англамоўны варыянт аўтабіяграфіі, напісаны каля 1970 г., дзе і выкладзеныя галоўныя падзеі жыцця навукоўца. І хоць факты пададзеныя сцісла і з пэўнымі замоўчваннямі, аднак гэты жыццяпіс можна ўзяць за аснову аднаўлення біяграфіі нашага героя.

Янка Садоўскі нарадзіўся 15 ліпеня 1926 г. у вёсцы Залужжа (сёння Стаўбцоўскі раён Мінскай вобласці) у сям'і селяніна Пятра. У 1933–1939 гг. вучыўся ў пачатковай школе ў роднай вёсцы. Пасля, да 1942 г. навучаўся ў сярэдняй школе ў Міры. У 1942–1944 гг. вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Далей у біяграфіі Садоўскага заўважаецца першая лакуна. Навуковец не ўдакладняе, якім менавіта чынам ён трапіў у польскае войска на Захадзе. Аднак можна дапусціць, што разам з іншымі навучэнцамі настаўніцкай семінарыі (з тым самым Аляксандрам Надсанам) ён апынуўся ў 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, якая была кінутая немцамі на змаганне з саюзнікамі ў Францыі. І з іншымі маладымі беларусамі ён з гэтай дывізіі ўцёк, бо ад лютага 1945 г. ужо быў жаўнерам польскага войска генерала Андэрса. Разам з вайскоўцамі ў ліпені 1946 г. Янка Садоўскі прыбыў у Вялікабрытанію і да траўня 1947 г. яшчэ служыў там у Польскім перасяленчым корпусе. Пасля

[1] Сьв. памяці Янка Садоўскі // Беларус. — № 303–304. — Жнівень–верасень 1982. — С. 7.

дэмабілізацыі працаваў у ведамствах брытанскай Камісіі лясной гаспадаркі, а таксама Нацыянальнай вугальнай рады.

У верасні 1949 г. Янка Садоўскі здаў у Лондане іспыт на атрыманне атэстата сталасці, а ўжо ў кастрычніку таго ж года паехаў у Італію *«вывучаць італьянскую і лацінскую мовы»*. Тут у аўтабіяграфіі Янкі Садоўскага, пісанай для кіраўніцтва Кінгстанскага ўніверсітэта, свядома замоўчваецца рэлігійная складовая жыцця навукоўцы. Пры атрыманні магчымасці навучання ў Рыме Садоўскі яшчэ ў 1948 г. паступіў кандыдатам у ордэн марыянаў, пра разбудову якога так дбаў стваральнік беларускага рэлігійна-грамадскага асяродку ў Паўночным Лондане а. Часлаў Сіповіч. Таму, пасля навіцыяту, Садоўскі і распачаў навучанне ў Рыме ў падрыхтоўцы да святарства[1].

У аўтабіяграфіі сцвярджаецца, што ў 1950–1952 гг. ён навучаўся ў Папскім інстытуце «Ангелікум» у Рыме, дзе атрымаў ступень бакалаўра філасофіі. У 1952–1956 гг. ён вывучаў тэалогію ў Папскім «Грыгарыянскім» універсітэце і атрымаў ліцэнцыят у тэалогіі. Праўда, надзеі а. Часлава Сіповіча студэнт не апраўдаў. Ужо ў 1953 г. ён вырашыў не аднаўляць сваіх законных шлюбаў у марыянаў ды перайшоў з візантыйскага ў рымскі абрад, у якім ён 17 снежня 1955 г. быў пасвечаны ў святарства[2].

Святарства не спыніла навучання. У 1956–1958 гг. Садоўскі вывучаў біблеістыку ў Папскім біблейскім інстытуце, па сканчэнні якога меў ліцэнцыят у Святым Пісанні. Адначасова ў 1956–1960 гг. вучыўся ў Рымскім універсітэце, спецыялізаваўся на вывучэнні гісторыі ўсходнеславянскіх моў і зацікавіўся даследаваннем жыцця і дзейнасці Францыска Скарыны. З гэтай нагоды ў Садоўскага завязалася ліставанне з Вітаўтам Тумашам, якое працягнулася на доўгія гады. Тумаш карыстаў з наяўнасці «свайго» чалавека ў Італіі, каб праверыць розныя факты Скарынавай біяграфіі, часам прасіў Садоўскага дапамагчы з перакладамі некаторых лацінскіх выразаў. Ліставанне двух скарыназнаўцаў захоўваецца ў архіве Садоўскага ў Канадзе і чакае свайго даследчыка.

Вынікам «італьянскага» перыяду навучання ды скарынаведы Янкі Садоўскага стала знаходка ў падуанскім архіве новага дакумента, згодна з якім можна было меркаваць, што паміж 1506 і 1512 гг. будучы першадрукар быў сакратаром у дацкага караля. Янка Садоўскі спрабаваў таксама знайсці доказы таго, што Скарына вучыўся ва ўніверсітэце ў Капенгагене. Значна пазней, у 1969 г., у лонданскім *The Journal of Byelorussian Studies* пабачыў

---

[1] Надсан, А. Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус / А. Надсан. — Мінск: БелФранс, 2004. — С. 161.

[2] Тамсама. — С. 126.

свет артыкул даследчыка, прысвечаны звесткам пра «дацкі» перыяд жыцця першадрукара[1].

Іншым вынікам «італьянскага» перыяду стала атрыманне Янкам Садоўскім у 1964 г. ступені доктара літаратуры ў славяназнаўстве. А дысертацыя яго, напісаная пад кіраўніцтвам прафесара Р. Пічыа (*R. Picchio*), мела назву «Францыск Скарына».

Праўда, у часе абароны дысертацыі Янка Садоўскі ўжо не жыў у Італіі. У лютым 1961 г. на загад а. Часлава Сіповіча ён вярнуўся ў Лондан, дзе меўся стаць кіраўніком Беларускай школы-інтэрната імя Св. Кірылы Тураўскага. Аднак выконваў гэтыя абавязкі ён вельмі невялікі час, ужо ў снежні 1961 г. Янка Садоўскі пакінуў і Марыян Хаўз і наогул святарства ды ў хуткім часе ажаніўся з англічанкай.

Застаўшыся на нейкі час жыць у Лондане, Садоўскі выкладаў рускую мову ў розных мясцовых школах. Ад 1964 г. пачаў рыхтаваць дактарат філасофіі ў галіне рускай мовы і літаратуры ў Школе славянскіх і ўсходнееўрапейскіх студыяў Лонданскага ўніверсітэта. Спецыялізаваўся ён у гісторыі ўсходнеславянскіх моў і падрыхтаваў дысертацыю на тэму «Лінгвістычны аналіз Чатырох Кніг Царстваў, надрукаваных Францыскам Скарынам у 1518 г.». Сваю працу пісаў пад кіраўніцтвам вядомага брытанскага славіста прафесара Роберта Оты ды прафесара М. Самілава. Ступень доктара філасофіі атрымаў 8 лістапада 1967 г.

Пасля абароны Янка Садоўскі змог нарэшце з’ехаць з Вялікабрытаніі, дзе яму было складана жыць з адчуваннем крыўды з боку беларускіх святароў. Навуковец перабраўся за акіян. У 1968–1969 гг. ён выкладаў рускую мову і літаратуру ў Ілінойскім універсітэце ў Чыкага. Аднак пачуваўся тут не надта добра. У лісце да Кастуся Акулы ад 4 траўня 1969 г. пісаў, што меў праблемы з горлам, што ЗША надаелі, *«як горкі яблык»*. Вельмі чакаў выезду ў Канаду. Тут ад 1 ліпеня 1969 г. ён атрымаў пасаду дацэнта рускай мовы і літаратуры ў Квінс-універсітэце ў Кінгстане (штат Антарыа, Канада). І менавіта ў гэтым універсітэце Янка Садоўскі працягнуў сваю навуковую дзейнасць ды працаваў да раптоўнай смерці ў 1982 г.

У гэты «канадыйскі» перыяд свайго жыцця навуковец меней займаўся скарыназнаўствам. У Садоўскага з’явіліся іншыя тэмы: ён пісаў пра беларускі ўплыў на рускую культуру ў XVI–XVII стст., пра беларускую літаратуру ў XIX ст., пра асобных беларускіх літаратараў XX ст. (Рыгора Крушыну, Васіля Быкава). Садоўскі пэўны час рабіў адмысловыя англамоўныя агляды беларускіх публікацый для *The Year`s Work in Modern Languages Studies*. Аднак найбольш вядомым навуковец стаў як аўтар першай даследчай працы,

---

[1] Sadouski, J. Skaryna`s Stay in Denmark / J. Sadouski // The Journal of Byelorussian Stuies. — Vol. II. — № 1. — London, 1969. — P. 25–28.

прысвечанай беларускай эміграцыі на Захадзе, — кнігі «Гісторыя беларусаў у Канадзе»[1].

Тым не менш, і ў Канадзе з’яўляліся некаторыя скарынаведныя публікацыі Садоўскага[2], а таксама рыхтавалася да друку кніга на падставе дзвюх дысертацыяў. Першы раз навуковец паведамляў пра магчымасць выдання сваёй скарынаведнай працы ў згаданым вышэй лісце да Кастуся Акулы. Яшчэ ў 1969 г. Садоўскі сцвярджаў, што выдавецтва ўніверсітэта ў Алабаме прапаноўвала яму выдаць ягоную дысертацыю пра Скарыну. Пазней пра гэта ж пісалася як пра справу амаль што вырашаную ў 1972 г. Тут варта прывесці адзін з лістоў Вітаўта Тумаша да Янкі Садоўскага, які адлюстроўвае асобныя аспекты тагачаснага скарыназнаўства, а таксама пэўныя прынцыповыя разыходжанні двух даследчыкаў.

«26 студзеня 1972 г.

Вельмі паважаны спадару Прафэсару!

Днямі дастаў ад а. А. Надсана паведамленьне зь Лёндану аб новым важным адкрыцьці ў галіне скарыніяны: у экзэмпляры “Малой падарожнай кніжкі” Каралеўскае бібліятэкі ў Капэнгазе ён выявіў нідзе дагэтуль нязнойдзеную Скарынаву Пасхалію. На падставе-ж яе далося ўстанавіць час выхаду Падарожнай кніжкі — 1522 год. Дык яна першы віленскі друк Скарыны, а не Апостал 1525 году (магчымасьць гэткую браў і я на ўваге, ЗАПІСЫ, кн. 5. б. 24). Пра знахадку А. Надсан ужо даў артыкул у “Божым шляхам”. Дык дату пачатку Скарынавага друку ў Вільні давядзецца цяпер [выправіць] і ў артыкуле маім пра канфіскату Скарынавых кнігаў у Вроцлаве, калі б да яго друку дайшло.

Як Вы паведамлялі ў Вашым перадкалядным лісьце, ужо ў гэтым месяцы мела ісьці ў друк Вашая дысэртацыя. Вітаю Вас з удачай! Яшчэ на адну важную й каштоўную пазыцыю ў скарынаведнай літаратуры будзе больш.

Пры гэтай нагодзе перадаць хачу й пару маіх заўвагаў пра друкаваную ў ЗАПІСАХ частку дысэртацыі — можа нешта з гэтага прыдасца пры апошняй рэдакцыі. Калісьці, калі былі прысланыя да друку ў ЗАПІСЫ «Лексычныя асаблівасьці», я заўважыў у іх хіб тэхнічнага характару, ды ўсё-ж пусьціў у друк, “каб толькі хутчэй” кніга друкавалася. Гэтае “хутчэй”, як ведама, за-

[1] Sadouski, J. A History of Byelorussians in Canada / J. Sadouski. — Belleville, 1981. — 148 p.

[2] Найбольш значнымі скарыназнаўчымі публікацыямі Янкі Садоўскага былі: Садоўскі, Янка. Лексычныя асаблівасьці Кнігі Царстваў Скарыны // Запісы БІНіМ. № 5(11). Мюнхен, 1970. С. 91–112; Sadouski, John. Studies on Doctor Francis Skaryna in the West since Word War II. (Дасьледаваньні аб Францішку Скарыну па другой сусьветнай вайне на Захадзе) // Запісы БІНіМ. № 17. Нью-Ёрк, 1983. С. 31–34; Садоўскі Янка. Марфалягічныя асаблівасьці Кнігі Царстваў Ф. Скарыны// Запісы БІНіМ. № 18. Нью-Ёрк, 1988. С. 83–95.

цягнулася пазьней ледзь не на тры гады! Ідзе пра тое, што ў тэксьце Вашага артыкулу ёсьць аж колькісот поклікаў на два слоўнікі — Насовіча ды Крапівы. І два гэтыя прозьвішчы, што ўвесь час паўтараюцца, падаюцца кажны раз у поўным іх напісаньні. У гэткіх выпадках куды практычней, адзначыўшы гэта пры пачатку, далей даваць скароты, хапіла-б самой першай літары гэтых прозьвішчаў — Н і К. Гэткі спосаб ашчаджае час, месца, грошы. Паводле майго шацунку, пры тарнаваньні скаротаў артыкул быў-бы на бачыны 4 карацейшы й друк яго адпаведна быў-бы танейшым.

Рэч другая: "Лексычныя асаблівасьці" былі-б моваведам куды цікавейшыя й навукова куды мацнейшыя, калі-б пры кажным Скарынавым слове быў дадзены заўсёды хоць-бы адзін прыклад з тэксту — зварот ці сказ — з гэтым словам. Гэта памагае вельмі лепш асэнсаваць тое значаньне, у якім дадзенае слова Скарына ўжыў.

Не магу стрымацца, каб пры нагодзе ліста не падзяліцца некаторымі маімі меркаваньнямі, не датычнымі ўжо дысэртацыі, але — мовы Скарыны. Пераказваю іх не для нейкае дыскусіі, а толькі ў парадку сяброўскага абмену паглядамі. Зь некаторых Вашых выказваньняў падчас нашых кароткіх сустрэчаў ведаю, што ў гэтым пытаньні пагляды ў нас даволі розныя. Вось дзеля гэтага я пачуваюся да абавязку сказаць, чаму мае якраз гэткія, а ня іншыя.

Ідзе тут пра ў скарынаведнай літаратуры старое пытаньне: якая мова Скарынавых перакладаў — беларуская ці царкоўнаславянская? Калі ў сваіх біяграфічных ці бібліяграфічных нарысах я трымаюся пагляду, што яна беларуская, дык у запраўднасьці толькі стаю на пазыцыях найбольшага ў беларускай моваведзе аўтарытэту — Аўхіма Карскага, — які ў гэтай справе даў сваю, добра ведамую, формулу, што ў Скарыны "аснова мовы народная беларуская".

Па шырыні й грунтоўнасьці вывучэньня беларускае й старое, і сучаснае мовы раўні Карскаму пакульшто няма. Для дадзенага пытаньня важна тое, што Карскі знаў дасканальна як мовавед ня толькі мову беларускую, але й царкоўнаславянскую. Гадоў колькідзесят яе ён выкладаў з унівэрсытэцкае катэдры. Ягоная граматыка мовы царкоўнаславянскае да 1917 г. мела 19 выданьняў. Таму калі хто, дык Карскі быў дакладна дасканала падрыхтаваны і аўтарытэтны на тое, каб даць адказ на пытаньне, якая нацыянальная аснова мовы Скарынавых перакладаў.

Калі ўсё-ж у справе характару мовы Скарыны паўстаюць у моваведаў і немоваведаў сумлевы й засьцярогі, ёсьць на гэта колькі розных прычынаў. Галоўная зь іх тая, што Скарына ў сваіх выданьнях ня зрываў кардынальна з царкоўнаславяншчынай, а наадварот, шмат элемэнтаў гэтае мовы пакідаў, помнячы, відавочна, тое, што чытачы звыклыя да кольківаковае ўжо традыцыі панаваньня гэтае мовы ў рэлігійнай літаратуры ды ў царкоўным ужытку, прывыклі да яе, і раптоўны зрыў быў бы не пажаданым — можна было-б "адарвацца ад чытача". Ці з тых ці іншых меркаваньняў, але мова

ягоных перакладаў побач элементаў беларускіх мае й вельмі шмат захаванае царкоўнаславяншчыны і маем тут у запраўднасьці своеасаблівы стоп дзьвюх моўных стыхіяў, што пазваляе адным уважаць яе за мову беларускую, другім — за ц.-славянскую. У абодвух выпадках гэта значыць толькі, што дадзеная моўная стыхія ўважаецца дамінуючай. Складанае пытаньне азначэньня элемэнту дамінуючага камплікуецца, да гэтага, яшчэ рознымі іншымі аспэктамі праблемы, на некаторыя зь якіх зьвярну тут увагу.

Найперш, ня ўсе аўтары, што пытаньне гэтае кранаюць, бяруць на ўвет, што мова выданьняў Скарыны не адналітая. У тэкстах некаторых кнігаў ён сьведама захоўваў мову ц.-славянскую, у кнігах характару багаслужэбнага — Псалтыры, Апостале, Часаслоўцы, Акафістах і Канонах, Шэстаднёўцы. Як ён сам пісаў, мовы гэтых, літургічнага характару тэкстаў ён “ня рухаў”. І тэксты гэтых кнігаў напэўна царкоўнаславянскія, хоць і яны маюць даволі беларускіх асабліваcьцяў, каб пазнаць, што паўсталі на беларускай моўнай тэрыторыі. Здараюцца ў Скарыны й ц.-славянскія цытаты ў кнігах перакладных — яны таксама бясспрэчна не беларускія, а ц.-славянскія. Вось некаторыя аўтары, нясьведамыя таго, што Скарына выдаваў тэксты й ц.-славянскія, мяшаюць у вадзін “кацёл” перакладанае зь неперакладаным і даходзяць да хвальшывых высноваў.

Не адналітая мова Скарыны й у кнігах, тэкст якіх ён “рухае”, перакладае. Аснаўная розьніца выступае ў тым, што ў мове перакладаў выразна шмат больш захоўваецца царкоўнаславяншчыны, як у арыгінальных тэкстах самога Скарыны — прадмовах, паслоўях, камэнтарах, і гэта “канфузіць” некаторых аўтараў пры спробе азначэньня, якога элемэнту ў яе больш — беларускага ці не беларускага. У мове-ж прадмоваў дамінуючая бясспрэчна беларуская моўная стыхія, хоць і ў ёй Скарына захоўвае больш традыцыйнае для рэлігійных кнігаў царкоўнаславяншчыны, як яе тады-ж было ў беларускай пісьменнасьці сьвецкай, актавай. А ёсьць аўтары, што навет і мову арыгінальных тэкстаў Скарыны залічаюць у ц.-славяншчыну, хоць трэба дзівіцца, як можна ц-славянскімі называць мову, прыкладам, у прадмове да Кнігі Другога Закону: “Толико в том хотят ся згожати, абы были права их, или закон, почтивый, справедливый, можный, потребный, пожыточной, подле прирожения подлуг обычаев земли, часу и месту пригожий, явный, не имея в собе закритости, не к пожитку единого человека, но к посполитому доброму написаный”. Або з Кнігі Царстваў: “Протож я, Франциско Скорина, меновал есми ту вси тыи письма зособна, абы есте ведали, иже на сторонницах кажных книг моего тружания пописаны суть светки или згоды кратце имени сих вышейменованых писм”.

Вось для лепшага абгрунтаваньня свае канцэпцыі Жураўскі й уціскае нагвалт усю мову ўсіх Скарынавых выданьняў у сваю ц.-славяншчыну “беларускае рэдакцыі”, што бясспрэчна памылкова. Да яе належаць толькі тыя выданьні, ц-славянскае мовы якіх, як сам Скарына кажа, ён “ня рухаў”. Не падыходзіць-жа напэўна да яе мова ягоных прадмоваў і паслоўяў. — Што й

колькі ц-славяншчыны маюць, для прыкладу, прыведзеныя цытаты? Падганяць іх пад ц-славяншчыну гэта гвалт над фактамі. Мова-ж перакладаў, паколькі гэта двумоўны ў істоце стоп, дае некаторую магчымасьць Жураўскаму падводзіць яе пад свой трафарэт "ц.-сл. мовы бел. рэдакцыі", як дае падставу называць яе і проста мовай у сваёй аснове беларускай іншым аўтарам. Жураўскі ўжо гадамі асабліва рупна шукае тых ц-славянскіх фанэтычных ці марфалагічных асаблівасьцяў Скарынавае мовы, што пераважаюць у яго над беларускімі й заўсёды цешыцца зь іх знаходу. З другога боку, ён заўсёды памяншае ролю элемэнту беларускага ў гэтым стопе, забываецца пра тысячы чыста беларускіх словаў, пра чыста беларускі яе сынтаксычны лад, на што зьвярталі ўвагу моваведы ўжо мінулага стагодзьдзя. Што-ж да лексыкі, дык трэба не забывацца, што, паводле некаторых моваведаў, у сучаснай ангельскай мове засталося ўсяго каля 25 % англасаксскіх словаў, усё іншае-ж чужое, і не зважаючы на гэта мову гэтую ўсё-ж і цяпер завуць англасакскай.

У сваім разгоне ўціснуць за ўсякую цану ўсю мову выданьняў Скарыны ў рамкі ц-славяншчыны, Жураўскі "забываецца" навет заўсёды прывесьці, хоць бы для акадэмічнае саліднасьці, кардынальна супроцьлежны пагляд найвыдатнейшага майстры беларускае мовы А. Карскага, які ведаў, што ў гэтым пытаньні гаворыць, і які бачыў у Скарыны ц-славяншчыну. Перад сваёй фармулёўкай ён навет адзначае, што ў Скарыны "яшчэ ня рэдкасьць аорысты, імпэрфэкты, … і іншыя ц-славянскія асаблівасьці ў мове… але ўсё ж аснова мовы народная беларуская, з тымі асаблівасьцямі, якія характарызуюць стае яе звод у Літоўскай дзяржаве". Жураўскі, з сваёй слабейшай за Карскага ведай ц-славяншчыны і асабліва слабейшым вычуваньнем розьніцаў між ёю і старой беларускай мовай, не адчувае й тога, што асэнсоўваў добра яшчэ на пачатку XIX ст. начытаны добра й у ц-славяншчыне, і ў мове старых летапісаў Карамзін, які ўжо тады заўважыў, што Скарына "пісаў моваю свае пары й свае бацькаўшчыны".

Вось, у скароце, тыя галоўныя матывы й мяркаваньні, дзеля якіх я застаюся пры сваіх (і Карскага) паглядах на мову Скарыны, не зважаючы на той ці іншы "акадэмічны" разнабой у адпаведнай сучаснай літаратуры.

Прывітаньні зь Нью-Ёрку!

У глыбокай да Вас пашане

Вітаўт Тумаш»[1].

Як выглядае, Садоўскі так і не змог выдаць вынікі сваёй скарынаведнай працы асобнай кнігай. Аднак у яго архіве захаваўся чарнавы англамоўны машынапіс (290 старонак) пад назвай: *Doctor Francis Skaryna: Life, Works and Language* («Доктар Францыск Скарына: Жыццё, працы і мова»). У прадмове зазначаецца, што кніга напісана на падставе дзвюх дысертацый: абароненай у

---

[1] Library and Archives Canada. John Sadouski Fond. MG31-D124. C. 1. F. 58.

Рыме і абароненай у Лондане, а таксама заўвагаў Вітаўта Тумаша. Машынапіс складаецца з уводзінаў і сямі частак.

Ва ўводзінах вылучаныя тры сэнсавыя падраздзелы. Першы з іх уяўляе сабою кароткі агляд скарынаведных працаў пачынаючы ад Рынгельтаўба ды Штрытэра і да сучаснікаў, у тым ліку Вітаўта Тумаша. Другі важны сюжэт уводзінаў звязаны з пытаннем імя Скарыны. Садоўскі згадвае пра варыянт Георгія Францыска Скарыны, але падтрымлівае выснову, што сапраўднае імя першадрукара было менавіта Францыск, а Георгі з'явілася толькі ў адным дакуменце праз памылку пісара. Трэці аспект уводзінаў датычыць веравызнання Скарыны. Садоўскі толькі каротка падае тры асноўныя пункты гледжання на праблему (праваслаўе, каталіцызм ці пратэстантызм як веравызнанні першадрукара), але не робіць уласнай высновы.

У першай частцы манаграфіі разглядаецца эканамічнае, сацыяльнае, рэлігійнае і культурнае развіццё беларускіх земляў у XVI ст. і даводзіцца, што гэтае развіццё ішло ў рэчышчы агульных заходнееўрапейскіх працэсаў. Наступная частка прысвечана біяграфіі Францыска Скарыны. Янка Садоўскі падае асноўныя этапы і спрэчныя пытанні жыццяпісу, якія яшчэ маюць быць дадаткова высветленыя. Далей ідзе адмысловы агляд усіх выдадзеных Францыскам Скарынам кніг, з апісаннем асаблівасцей іх друку, структуры, ілюстрацыяў і г. д. Даследчык абапіраецца на найноўшыя для свайго часу звесткі, у тым ліку згадвае і капенгагенскую знаходку а. Аляксандра Надсана, якая дапамагла вызначыць год выдання «Малой падарожнай кніжкі». Улічваючы, што звесткі пра знаходку былі якраз у прыведзеным вышэй лісце, а публікацыя Аляксандра Надсана выйшла пры канцы 1971 г.[1], можна меркаваць, што захаваны варыянт манаграфіі Янкі Садоўскага, які застаўся ў архіве, быў зроблены не раней за 1972 г. Магчыма, менавіта неабходнасць унясення паправак у тэкст у сувязі з новымі звесткамі спрычынілася да адкладання публікацыі кнігі.

Чацвёртая частка манаграфіі Янкі Садоўскага прадстаўляе уплыў Скарынавых прац ва Усходняй Еўропе. Тут прадстаўлены асобныя прыклады наследавання беларускаму першадрукару ў розных пазнейшых усходнееўрапейскіх выданнях. У тэксце багата рукапісных правак, што сведчыць пра тое, што гэта не апошні варыянт машынапісу.

Наступныя часткі манаграфіі Садоўскага прысвечаны ўласна аналізу мовы Чатырох Кніг Царстваў, выдрукаваных Францыскам Скарынам. І калі папярэднія раздзелы мелі пераважна аглядны характар, прадстаўляючы сістэматызацыю поглядаў розных даследчыкаў, то далейшы тэкст выглядае як больш самастойнае даследаванне. Спачатку Янка Садоўскі разглядае граматыку згаданых кніг, аналізуе фанетычныя асаблівасці, спецыфіку

[1] Надсон, А. Кніга Скарыны ў Капэнгагене / А. Надсон // Божым шляхам. — № 5 (128). — Лёндан, 1971. — С. 9–11.

ўжывання розных часцінаў мовы і прыходзіць да высновы, што моўная аснова Чатырох Кніг Царстваў — царкоўнаславянская, бо фанетычныя асаблівасці ўсходнеславянскай ці беларускай моў тут не пераважаюць. Далей даследчык аналізуе лексічныя асаблівасці тых самых тэкстаў, вылучаючы асобна ўжыванне беларускіх словаў, а таксама словаў з чэшскай, нямецкай і польскай моў. Аналіз ідзе менавіта такім чынам, як у публікацыі для альманаха «Запісы БІНіМ», пра якую згадваў Тумаш у лісце, са спасылкамі на два слоўнікі: Насовіча і Крапівы. Янка Садоўскі не пайшоў за парадаю калегі і не дадаў да прыкладаў словаў канкрэтных цытатаў, хоць паўсюль і зрабіў адсылкі да саміх арыгінальных тэкстаў. Наяўнасць вялікай колькасці беларускіх словаў у Скарынавых тэкстах даследчык тлумачыць агульным паходжаннем беларускай і царкоўнаславянскай моў. Значная ж прысутнасць чэшскіх словаў звязана, паводле Садоўскага, з тым, што за аснову ягонага перакладу быў узяты чэшскі варыянт Бібліі.

Агульная выснова Янкі Садоўскага на падставе аналізу тэкстаў Чатырох Кніг Царстваў складаецца са сцвярджэння, што мовай гэтых кніг з’яўляецца царкоўнаславянская са значнай колькасцю беларускіх і агульных усходнеславянскіх словаў.

Як бачым, Янка Садоўскі застаўся верны сваёй пазіцыі што да мовы Скарынавых тэкстаў. Магчыма, калі б яго манаграфія была выдрукавана, яна б дадала новы эпізод у скарыназнаўчыя дыскусіі і ў Беларусі, і на Захадзе. Аднак справа выдання не дайшла да лагічнага заканчэння з невядомых сёння прычын. Захаваны ж у архіве аўтара тэкст, як і яго ўнёсак у скарыназнаўства, яшчэ патрабуе належнай ацэнкі спецыялістамі.

**Лявон Юрэвіч** *(Нью-Ёрк, ЗША)*

# ПОСТАЦЬ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ НА СТАРОНКАХ ГАЗЭТАЎ «БАЦЬКАЎШЧЫНА» І «БЕЛАРУС»[1]

Як XVI стагодзьдзе, Скарынаў час — залаты век Беларусі, гэтак зорны час скарынаведы на эміграцыі, у прыватнасьці ў ЗША — гады дзейнасьці Вітаўта Тумаша (1910–1998), заснавальніка і дырэктара Беларускага Інстытута Навукі й Мастацтва (Нью-Ёрк). За ягоным кіраваньнем Інстытутам «Запісы БІНІМ» нездарма называлі «скарынаведнымі»: большая частка матар'ялаў прысьвячалася беларускаму першадрукару. Пераважна гэта былі арыгінальныя артыкулы-досьледы самога Тумаша або шматлікія рэцэнзіі, агляды літаратуры, якія ён зьмяшчаў пад псэўданімамі Сымон Брага, Рыгор Максімовіч.

Адной зь вяршыняў навуковай дзейнасьці Тумаша сталася бібліяграфія «Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны»[2], якую даводзіў да ладу й друкаваў ужо Вітаўт Кіпель, замяніўшы цяжка хворага аўтара на пасадзе дырэктара БІНІМу.

Пазьней была зроблена спроба абнавіць Тумашаву бібліяграфію, выдаўшы ейны працяг[3]; але далейшага разьвіцьця ідэя не атрымала, на жаль.

Імя Фр. Скарыны можна сустрэць бадай ці ня ў кожным пэрыёдыку, што выдаваўся на эміграцыі. Датычыцца гэта й газэтаў «Бацькаўшчына» і «Беларус», якія льга назваць цэнтральнымі выданьнямі дыяспары. Бібліяграфія выдрукаваных на іхных бачынах артыкулаў, зацемак, прысьвечаных Скарынавай постаці і ягонай спадчыне, і прапаноўваецца ўвазе навукоўцаў — як скарыназнаўцаў, гэтак і дасьледнікаў эміграцыі.

**1967 год — юбілейны год беларускага друку. Да ўгодкаў вялікага пачыну доктара Франьцішка Скарыны.**
«Беларус», № 117, студзень 1967, с. 1.

**А. Б.**
**Беларускія календары.**
«Беларус», № 143, сакавік 1969, с. 3.
Рэфэрат В.Тумаша «Каляндарная сыстэма Беларусі Скарынавай пары. Каляндар Скарыны. Календары Беларускага Адраджэньня».

---

[1] Друкуецца паводле аўтарскага правапісу. (*Заўв. рэд.*)

[2] Тумаш, Вітаўт. Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны: XVI–XX. Нью Ёрк, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, 1989.

[3] Францыск Скарына: жыццё і дзейнасць; паказальнік літаратуры; дадаткі за 1530–1988 гг., 1989–1993 гг. Складальнікі Валянціна Грышкевіч і Лявон Юрэвіч. Мінск, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, 1995.

**Акула, К.**

**Скарынаведная канфэрэнцыя.**

«Беларус», № 328, студзень–сакавік 1986, с. 1–4.

**Акула, К.**

**Франьцішак Скарына паводле «роднай партыі». [Драма].**

«Беларус», № 251, сакавік 1978, с. 1.

**«Братский вестник» пра Ф. Скарыну.**

«Беларус», № 377, студзень 1991, с. 4.

Артыкул В. Канатуша «Асьветнік і рэфарматар Францыск Скарына. Да 500-годзьдзя ад дня нараджэньня». («Месячнік Саюзу Евангельскіх Хрысьціян Баптыстаў», ЗША, № 4, 1990).

**Б.С.**

**Рэфэрат В. Тумаша ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва «Калі нарадзіўся і калі памёр доктар Скарына?».**

«Беларус», № 110, травень 1966, с. 1.

**Б.С.**

**425 год ад сьмерці доктара Скарыны.**

«Беларус», № 103–104, лістапад–сьнежань 1965, с. 7.

**Белы, Анатоль.**

**Скарынаведная кніга «Запісаў». «Запісы» № 18. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Нью-Ёрк, 1988.** [Рэц.]

«Беларус», № 366, студзень 1990, с. 3, 6.

**Бэрд, Том.**

**Скарынаўскае лета [Менск].**

«Беларус», № 371, чырвень–ліпень 1990, с. 7.

**В. З.**

**Скарынаўскія ўрачыстасьці ў ЗША. На Радгерскім унівэрсытэце.**

«Беларус», № 374, кастрычнік 1990, с. 6.

**В. З.**

**Скарынаўскія ўрачыстасьці ў ЗША. У Ньюёркскай публічнай бібліятэцы.**

«Беларус», № 374, кастрычнік 1990, с. 4.

**Власт (Вацлаў Ластоўскі).**

**Адзінокі. Эпізод з жыцьця Франьцішка Скарыны.**

«Бацькаўшчына», № 1–2(231–232), 7 студзеня 1955, с. 6–7.

**Выстаўка прысьвечаная Скарыну. [Нью Ёрк, Квінскі каледж].**

«Беларус», № 377, студзень 1991, с. 4.

Арганізатар — праф. Томас Бэрд.

**Да скарынаўскага юбілею ў БССР.**
«Беларус», № 117, студзень 1967, с. 3.

**Да скарынінскага юбілею. [Менск].**
«Беларус», № 352, кастрычнік 1988, с. 7.

**Дуж-Душэўскі, Сьцяпан.**
**Вільня сьвяткуе Ф. Скарыну.**
«Беларус», № 376, сьнежань 1990, с. 3.

**Дынглі, Джэйм і Пікарда, Гай.**
**На Скарынаўскіх сьвяткаваньнях [у Менску й Полацку].**
«Беларус», № 375, лістапад 1990, с. 4.

**Жук-Грышкевіч, Раіса.**
**500-годзьдзе Франьцішка Скарыны. [Чыкага].**
«Беларус», № 369, красавік 1990, с. 4.

**Жук-Грышкевіч, Раіса.**
**Даніна Скарыну ад Нью Ёрку.**
«Беларус», № 133, травень 1968, с. 5.
Выстава «450 год беларускага друку» ў NYPL.

**Жук-Грышкевіч, Раіса.**
**Да 500-х угодкаў ад нараджэньня Ф. Скарыны. (Скарочаны даклад).**
«Беларус», № 328, студзень–сакавік 1986, с. 1, 4.

**Жук-Грышкевіч, Раіса.**
**Ф. Скарына ня меў нявольніцкае псыхалёгіі. Ліст у рэдакцыю.**
«Беларус», № 375, лістапад 1990, с. 4, 7.

**Жук-Грышкевіч, Раіса.**
**Юбілейны год Скарыны ў Канадзе.**
«Беларус», № 328, студзень–сакавік 1986, с. 1.

**З. К.**
**Важныя кнігі для беларускіх кнігазбораў. (Ignacy Dworczanin białoruski polityk i uczony/ Ihnat Dwarczanin biełaruski palityk i wuczony. Wydawnictwo Uniwersytetu Warszawskiego. Warszawa, 1990, 101 s. І. С. Дварчанін. Франьцішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве. Пераклад з чэскай мовы Тамары Кароткай. Мінск, 1991. 186 с.).**
«Беларус», № 383, кастрычнік 1991, с. 8.

**Загорны, А.**
**«Зьвязда», ТАСС і мова Ф. Скарыны.**
«Беларус», № 274, люты 1980, с. 6.
Газэта «Зьвязда» абвесьціла, што Скарына выдаў першую кнігу на літоўскай мове.

**Загорны, А.**

**Непрыстойнасьць «Коммуниста Белоруссии».**

«Беларус», № 374, кастрычнік 1990, с. 2.

«КБ» зьмясьціў дасьледваньне В.Тумаша «Скарынаў каляндар і каляндарная сыстэма Беларусі яго пары» («Запісы БІНіМ», № 18) без спасылкі на аўтара.

**Загорны, Арсень.**

**«Скарына і наш (зрусыфікаваны) час».**

«Беларус», № 276, красавік 1980, с. 5.

Водгук на кніжку Вечаслава Шалькевіча «Скарына і наш час» (Мінск, 1979).

**Запруднік, Янка.**

**Даклад у БІНіМ пра кнігі Скарыны.**

«Беларус», № 120, красавік 1967, с. 5.

**Зубкоўскі, В.**

**Белыя плямы Скарынаведы.**

«Беларус», № 355, студзень 1989, с. 5.

**Імя Доктара Скарыны.**

**Афіцыйны камунікат БІНіМ, перасланы ў АН БССР, Менск, на рукі пісьменьніка Кандрата Крапівы, старшыні Арганізацыйнага Камітэту сьвяткаваньня 450-ых угодкаў беларускага друку.**

«Беларус», № 126, кастрычнік 1967, с. 2.

**Канфэрэнцыя, прысьвечаная Ф. Скарыне. [Варшава].**

«Беларус», № 369, красавік 1990, с. 4.

Ад БІНіМ запрошаны др. В. Кіпель, праф. Т. Бэрд.

**М. К.**

**Біблія Скарыны ў расейскіх старавераў.**

«Беларус», № 13(19), 18 кастрычніка 1952, с. 4.

**Мальдзіс, Адам.**

**Запаветы Скарыны.**

«Беларус», № 374, кастрычнік 1990, с. 1, 7.

**Н. А.**

**Імя Доктара Скарыны.**

«Беларус», № 99, чырвень 1965, с. 2.

**Н. К.**

**У сьвятле архіўных знаходак.**

«Беларус», № 98, травень 1965, с. 5.

Пошукі матар’ялаў пра Францішка Скарыну.

**Новае пра Скарыну.**
«Беларус», № 84, сакавік 1964, с. 3.

**Новыя дакумэнты пра Ф. Скарыну.**
«Беларус», № 119, сакавік 1967, с. 3.

**П. У.**
**Новае пра Франьцішка Скарыну.**
«Бацькаўшчына», № 9(343), 3 сакавіка 1957, с. 2.

**Падрыхтоўка да Скарынаўскага юбілею.**
«Беларус», № 117, студзень 1967, с. 2.
Перадрук з: «Літаратура і мастацтва», 25 лістапада 1966.

**[Паштоўка з Франьцішкам Скарынам выйшла ў выданьні БІНІМ у Нью Ёрку]. (Што чуваць?).**
«Беларус», № 184, жнівень 1972, с. 6.

**Пікарда, Гай.**
**На Скарынаўскіх сьвяткаваньнях. (Пераклад на беларускую мову Яна Запрудніка).**
«Беларус», № 375, лістапад 1990, с. 2; № 376, сьнежань 1990, с. 2–3; № 377, студзень 1990, с. 4.

**Піянер кірылічнага друку.**
«Беларус», № 192, красавік 1973, с. 1.
Рэфэрат В.Тумаша «Скарынаў папярэднік Швайпольт Фэоль — пачынальнік усяго кірылічнага друку».

**«Подзьвіг Скарыны». «L'impresa di Skarina».**
«Беларус», № 398, люты 1993, с. 7.
Прамова міністра замежных справаў Беларусі П. Краўчанкі на адкрыцьці мэмарыяльнай дошкі ў гонар Ф. Скарыны ў Падуанскім унівэрсытэце.

**Пр. М.**
«Зь беларускага каменнага будаўніцтва XI–XIII ст.». З Крывіцкага Навуковага Таварыства Праньціша Скарыны.
«Бацькаўшчына», № 49(383), 8 сьнежня 1957, с. 4.

**Пра Доктара Скарыну на Міжнародным Кангрэсе Гісторыі Мэдыцыны.**
«Беларус», № 118, люты 1967, с. 2.

**Пра скарынаведную працу Сымона Брагі ў СССР.**
«Беларус», № 160, жнівень 1970, с. 5.

**Прысутны.**
**Даклад пра Рыгора Хадкевіча [БІНіМ].**
«Беларус», № 151, лістапад 1969, с. 5.

Даклад В.Тумаша «Гетман Рыгор Хадкевіч як ідэйны пасьлядоўнік др. Францішка Скарыны».

**Р. М.**

**Кніга дакумэнтаў пра Скарыну. (В. І. Дарашкевіч. Францыск Скарына. Зборнік дакумэнтаў і матар’ялаў. Мінск, 1988. 250 с.).**

«Беларус», № 354, сьнежань 1988, с. 6.

**Р. М.**

**Шляхамі Доктара Скарыны. Пры нагодзе Скарынавай выстаўкі [у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Нью Ёрку].**

«Беларус», № 81, сьнежань 1963, с. 3.

**Рэфэрат аб Скарыне й выстаўка.**

«Беларус», № 81, сьнежань 1963, с. 6.

**Рэфэрат В. Тумаша пра жыцьцё й дзейнасьць Францішка Скарыны. [Нью Брансьвік].**

«Беларус», № 110, травень 1966, с. 6.

**С. Б.**

**Паюбілейны юбілей.**

«Беларус», № 225, студзень 1976, с. 1.

Замоўчваньне Масквой юбілею Скарыны.

**С.С.**

**Новая публікацыя (Guy Picarda. The Allegorical Heraldry of Francis Skarina, London, 1992, 68 p.).**

«Беларус», № 388, сакавік 1992, с. 6.

Аналіз Скарынінскіх гравюраў.

**Скарынаведная кніга «Запісаў» БІНіМ № 18.**

«Беларус», № 355, студзень 1989, с. 5.

**Скарына ў Маскве. (Сымон Брага. Доктар Скарына ў Маскве. БІНіМ, Нью Ёрк — Мюнхэн, 1963, 32 с.).**

«Беларус», № 85–86, травень 1964, с. 8.

**Скарынаў парк на Градчанах.**

«Беларус», № 88, ліпень 1964, с.6.

Даклад В.Тумаша «Скарына — садоўнік караля Фэрдынанда» (БІНіМ, Нью-Ёрк).

**Скарынаўская ўрачыстасьць у Падуі. Францішка Скарыну — у сьвятыя.**

«Беларус», № 395, лістапад 1992, с. 5.

**Скарынаўскі міжнародны маршрут.**

«Беларус», № 368, сакавік 1990, с. 5.

Падарожа па тых мясьцінах, дзе бываў Ф. Скарына.

**Скарынаўскія чытаньні ў Полацку.**
«Беларус», № 428, кастрычнік 1995, с. 5.

**Скарыніяна. Інфармацыйная нататка пра Ф. Скарыну ў лёнданскай каталіцкай The Tablet (6.10.1990).**
«Беларус», № 376, сьнежань 1990, с. 3.

**Скарыніяна. Факсімільнае выданьне Скарынавае Бібліі рыхтуе выдавецтва «Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі».**
«Беларус», № 361, жнівень 1989, с. 3.

**Скарынінская выстаўка ў Атаве. Асамблея Канадзкай Этна-Культурнай Рады.**
«Беларус», № 329, красавік–жнівень 1986, с. 4.

**Скарынінскі вечар у Варшаве.**
«Беларус», № 225, студзень 1976, с. 1.

**Скарынінскі год.**
«Беларус», № 325, студзень 1985, с. 1.

**Скарынінскі год на календары.**
«Беларус», № 367, люты 1990, с. 6.

**Скарыніяна.**
«Беларус», № 376, сьнежань 1990, с. 3.
Скарынаўскі рубель выпушчаны ленінградзкай манэтнай фабрыкай у колькасьці 3 мільёны.

**Скарыніяна ў БІНіМе.**
«Беларус», № 75, сакавік 1962, с. 4.
Рэфэрат В. Тумаша «Скарына ў Маскве» і паведамленьне пра сабраныя кнігі й дакумэнты пра Скарыну.

**Скрабатун, Уладзімер.**
**Скарынаўскі юбілей у Рызе.**
«Беларус», № 478, люты 1991, с. 4.

**Станкевіч, Ст.**
**Цені й блескі Скарынаўскага юбілею ў БССР.**
«Беларус», № 126, кастрычнік 1967, с. 1.

**Тумаш, В.**
**«Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны, XVI–XX ст.», выд. БІНіМ.**
«Беларус», № 363, кастрычнік 1989, с. 5.

**Урбан, П.**
**Дзіва вартыя высновы ўкраінскага навукоўца.**
«Бацькаўшчына», № 42–43(577–578), 22 кастрычніка 1961, с. 3–4.
Франьцішак Скарына — «украінскі першадрукар».

**Усё яшчэ «Георгій» Скарына.**
«Беларус», № 374, кастрычнік 1990, с. 7.

**Ф. Скарына: праваслаўны ці не?**
«Беларус», № 361, жнівень 1989, с. 5.

**Фляркоўскі, А.**
**Скарыну — слава!**
«Беларус», № 128, сьнежань 1967, с. 6.
Перадрук з: «Літаратура і мастацтва», 15 жніўня 1967.
Артыкул расейскага дасьледніка-скарынаведа.

**«Чатырыста пяцьдзясят год беларускага друку».**
«Беларус», № 131, сакавік 1968, с. 2.
Выстава ў Публічнай бібліятэцы (Нью Ёрк), прысьвечаная Францішку Скарыне й гісторыі беларускага друку.

**Шарупіч, Раман.**
**Угодкавы Скарынінскі зборнік БІНіМ.**
«Беларус», № 171, ліпень 1971, с. 2.

**Шляхам Скарыны.**
«Беларус», № 325, студзень 1985, с. 1, 6.

**Я. З.**
**Скарынаўскія ўрачыстасьці ў ЗША. Госьці зь Менску ў Фундацыі П. Крэчэўскага.**
«Беларус», № 374, кастрычнік 1990, с. 4.

**Я. З.**
**Скарынаўскія ўрачыстасьці ў ЗША. Квінскі каледж ушаноўвае Скарыну.**
«Беларус», № 374, кастрычнік 1990, с. 4.

**Я. З.**
**Скарынаўскія ўрачыстасьці ў ЗША. У Аб’яднаных Нацыях.**
«Беларус», № 374, кастрычнік 1990, с. 4.

**Ірына Багдановіч** *(Мінск, БДУ)*

# АСЭНСАВАННЕ ПОСТАЦІ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ Ў ТВОРЧАСЦІ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ-СВЯТАРОЎ 1920-Х ГГ.

Асоба і дзейнасць Францыска Скарыны трапляе ў цэнтр увагі беларускай літаратурнай і культурнай грамадскасці ў 1910–1920-я гг. Гэта было выклікана дзвюма юбілейнымі датамі: на ваенна-ліхалетні 1917 год выпадаў 400-гадовы юбілей беларускага кнігадрукавання (ад часу выдання Скарынам у 1517 г. у чэшскай Празе «Псалтыра»), сціпла, але ўсё ж адзначаны ў друку (газеты «Гоман», «Вольная Беларусь»). А ў 1925 г. шырока і ўрачыста адзначалася 400-годдзе кнігадрукавання на айчынных землях — на тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага, звязанае з выданнем Скарынам у Вільні ў 1525 г. кнігі «Апостал» (выданне ў 1522 г. «Малой падарожнай кніжкі» было на той час яшчэ невядомае).

Менавіта ў 1920-я гг. Скарына становіцца культавай фігурай ва ўспрыняцці беларускай інтэлігенцыі, грамадскіх дзеячаў, пісьменнікаў, святароў. Пра Скарыну з'яўляюцца публікацыі ў тагачасным перыядычным друку: Антона Навіны (Антона Луцкевіча), Вацлава Ластоўскага, Рамуальда Зямкевіча, Ігната Дварчаніна ды іншых аўтараў. Імя і дзейнасць Скарыны знайшлі сваё трывалае месца ў чатырох выданнях «Гісторыі беларускай літаратуры» Максіма Гарэцкага (1920–1926 гг.), які таксама ўвёў шэраг Скарынавых тэкстаў у «Хрэстаматыю беларускай літаратуры» (Вільня, 1922); а ў 1925 г., як вядома, у Празе І. Дварчанін абараніў першую дысертацыю, прысвечаную жыццю і дзейнасці Ф. Скарыны (на чэшскай мове). Газета «Звязда» за 1 студзеня 1926 г. надрукавала інфармацыю аб адкрыцці бюста Ф. Скарыну ў Інбелкульце. Так у сціслым пераказе выглядае тагачаснае навуковае скарыназнаўства.

Мастацкая ж Скарыніяна адлічваецца ад вядомага верша Максіма Багдановіча «Безнадзейнасць» з цыклу «Старая Беларусь» зборніка «Вянок» (1913), дзе паэт згадвае Скарыну як лекара цялеснага:

Скарына, доктар лекарскіх навук,
У доўгай опратцы на небе сочыць зоры.
Яны спрыяюць! Час! З рухавых рук
Скарыны пье адвар пан земскі пісар хворы.
І ўраз пабачыў ён, што ізумруд
Ў пярсьцёнку залатым на пальцы штось імгліцца,
Што блеску ў ім німа… І з болем тут
Ён зразумеў, што ўжо к жыцьцю не вараціцца [1, с. 46].

Такім чынам, менавіта 1925 г. становіцца годам пэўнага скарынаўскага «буму», калі святкавалася 400-годдзе беларускага кнігадрукавання, прымеркаванае да выдання «Апостала» ў Вільні. І толькі значна пазней, у 1971 г., з адкрыццём не вядомага раней капенгагенскага экзэмпляра «Малой падарожнай кніжкі», стане зразумела, што пачатак кнігадрукавання ў Вільні адбыўся на тры гады раней і звязаны з выхадам «Малой падарожнай кніжкі», у якой (у капенгагенскім экзэмпляры) захавалася такая яе частка, як «Пасхалія». Так, вядомым лонданскім беларускім святаром і вучоным а. Аляксандрам Надсанам было ўстаноўлена, што часам выдання «Малой падарожнай кніжкі» быў 1522 г. і менавіта з гэтай даты пачынаецца адлік кнігадрукавання на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага [4].

У 1920-я гг. асабліва яркім, актыўным у скарынаўскай тэматыцы быў заходнебеларускі друк. На нашу думку, гэта адбывалася таму, што Заходняя Беларусь не была закранутая саветызацыяй з яе атэістычнай скіраванасцю. Скарына ж, як вядома, выдаваў Біблію, лічыў яе фундаментам усіх навук і самога жыцця чалавека: «Всяко писание Богом вод'хненое полезно ест ко учению и ко обличению, исправлению и ко наказанию правды», — так пачынаў ён прадмову да «Псалтыра» [6, с. 17]. Такое асветніцтва на хрысціянскім грунце пярэчыла камуністычнай ідэалогіі, якая прапагандавала бязбожжа, лічыла рэлігію «опіумам» для народа, а не школай жыцця і развіцця чалавека, зачыняла святыні, ператвараючы іх у склады і стайні.

А ў гэты час у Заходняй Беларусі шырыўся беларускі хрысціянска-дэмакратычны рух, актыўна працавалі каталіцкія святары-беларусы, сярод якіх такія яркія асобы пісьменнікаў, як паэт Казімір Сваяк (ксёндз Кастусь Стэповіч), гісторык, публіцыст і крытык ксёндз Адам Станкевіч. Ён жа і выдавец, які заснаваў у Вільні друкарню імя Францішка Скарыны, дзе, пераймаючы справу першадрукара, выдаваў шматлікія беларускія творы: ад паэтычных зборнікаў да гістарычных, гісторыка-культурных і грамадска-палітычных брашур і кніг. Друкарня плённа дзейнічала на працягу 1920–1930-х гг. У 1925 г. А. Станкевіч выступіў з грунтоўным нарысам «Доктар Францішак Скарына — першы друкар беларускі (1525–1925)», які быў змешчаны ў некалькіх віленскіх перыядычных выданнях («Беларуская доля» і «Крыніца») і двойчы выйшаў асобнай брашурай на лацінцы і кірыліцы.

К. Сваяк адгукнуўся на юбілейную падзею вершам «Памяці Францішка Скарыны, слаўнага доктара з Полацка», які быў надрукаваны ў газеце «Крыніца» 25 сакавіка 1925 г. Менавіта ў гэты дзень, як пісаў А. Луцкевіч, «беларускае грамадзянства сьвяткуе вялікі культурны юбілей», звязаны з тым, што «400 гадоў назад найвыдатнейшы беларускі дзеяч старога Рэнесансу, доктар Францішк Скарына з слаўнага места Полацку, выпусьціў у сьвет з сваёй друкарні ў Вільні *першую кнігу, друкаваную на Беларускай Зямлі — па-беларуску*» [3, с. 164]. Далей публіцыст гаворыць аб важнасці друкаванай кнігі — «гэта магутная сіла, якая здольная разьнесьці ў народ-

ныя масы сьвятло навукі, знаньня, здольна разбудзіць і прасьвятліць мысьль народу» [3, с. 164]. Ён падкрэслівае, што дату святкавання Скарынаўскага юбілею выбралі не выпадкова, бо «ў гэты дзень прыпадаюць сёмыя ўгодкі другога гістарычнага здарэньня ў жыцьці нашага народу — акту абвяшчэньня ў Менску незалежнасьці Беларусі» [3, с. 165]. На думку А. Луцкевіча, гэтыя дзве падзеі, злучаныя ў адно ў свядомасці беларускага народа, працуюць на яго адраджэнне.

Твор К. Сваяка напісаны ў форме свабоднага верша — рэдкая на той час у цэлым для беларускай паэзіі і для самога аўтара форма, хоць ён часам і практыкаваў яе, таксама як і верш у прозе. Справу Скарыны паэт лічыць асветніцкай, патрыятычнай, называе першадрукара **настаўнікам народа**, пасланнікам Бога, які «тайніцу падаў Пісьма святога Простаму Народу. / Бацькаўшчыны мілай / Настаўнікам ён быў» [5, с. 127]. Біблію Сваяк называе не «Кнігай Смерці», а «Кнігай Мудрасці й Жыцця», якую Бог пісаў, каб «жыў той Народ, што прачытаў яе / захопленай душой». Сваяк акцэнтуе ідэю **пасланніцтва — апостальства** Скарыны:

Скарыну Бог паслаў,
Каб жыва пераклаў
І стравай каб падаў
Замучанай душы народа
Святога Духа Радасць.
Ён споўніў дзела.
І славай загрымела Яго Іменне
Між вучаных і простых… [5, с. 127].

Канцоўка верша досыць драматычная: у ёй чуецца водгук беларускага культурна-гістарычнага заняпаду і спадзеў на адраджэнне: «Цяпер… Пашлі нам дактароў, / О Божа, слаўных: / Хто б Кнігу нам Жыцця / аддаў — / душам — знямогшым ад чакання!» [5, с. 127].

Яшчэ адзін вядомы заходнебеларускі паэт Уладзімір Жылка змясціў у часопісе пражскіх студэнтаў-беларусаў «Перавясла» артыкул «Да 400-х угодкаў друку на Беларусі». Ён пісаў: «На 1925 год прыпадаюць вялікія ўгодкі. Яны маюць такое вялікае значэнне для Беларусі, што ўжо пара нагадаць аб іх нашаму грамадзянству і зараней падумаць, каб справіць належныя абходзіны» [2, с. 176]. У. Жылка высоўвае шэраг канкрэтных прапаноў, як трэба ўшанаваць «свайго народнага героя». Ён заклікае Віленскае Беларускае навуковае таварыства ўзяць на сябе задачу падрыхтоўкі да гэтага свята, а першым крокам лічыць «падпіску на помнік Скарыну у Вільні, месцы яго друкарскай працы», абвяшчэнне конкурсу на помнік; вызначэнне прэміі за лепшы гістарычна-навуковы твор на беларускай мове «з тых часоў», выданне для народа серыі папулярных кніжак пра Скарыну, наданне яго імя адной з беларускіх гімназіяў, бо «ходзіць аб тое, ці варт народ сваіх геніяў», — так

пісаў паэт У. Жылка, ствараючы фактычна цэлую культурніцкую праграму важнага нацыянальнага свята [2, с.177].

Нарыс кс. Адама Станкевіча «Доктар Францішак Скарына — першы друкар беларускі (1525–1925)» з'яўляецца, па сутнасці, першай на беларускай мове аналітычнай фундаментальнай працай**,** прысвечанай асобе і дзейнасці Скарыны (паралельна з чэшскамоўнай дысертацыяй І. Дварчаніна), якая паклала пачатак беларускаму **скарыназнаўству**. Ён звяртае ўвагу на сам 400-гадовы юбілей, калі «вялікі і слаўны беларус — друкар Францішак Скарына з Полацка заснаваў друкарню "*в доме почтиваго мужа Якуба Бабича, найстаршего бурмистра славнаго и великаго места Виленскаго*"» [7, с. 104]. Гэта была першая друкарня ў Беларусі і ва ўсёй Усходняй Еўропе (пазней, як ужо згадвалася, было даведзена, што дату заснавання друкарні трэба адносіць на тры гады раней). Станкевіч згадвае толькі кнігу «Апостал», якая была надрукавана ў гэтай друкарні «ў стараславянскай мове са значнай дамешкай мовы беларускай», і падкрэслівае: «За гэта сапраўды вялікае дзела беларускі народ свайму беларускаму культурніку павінен паставіць памятнік, каб памяць аб ім ніколі ня счэзла з душы народнай, каб імя яго было знаёма кожнаму беларусу ад малога да старога» [7, с.104]. Аўтар, аднак, скрушліва адзначае, што ў сучасных варунках свайго жыцця беларускі народ не можа так уславіць свайго вялікага сына, як гэта належыць, «але і моўчкі абысьці гэтае культурнае сьвята беларускі народ такжа не павінен. Тым, чым зможам, павінны мы славіць сёлетні скарынаўскі юбілей» [7, с. 104]. Сваю працу А. Станкевіч лічыць сціплым унёскам у гэтую ўрачыстасць.

Ён разважае аб пачатках друкарскай дзейнасці наогул і яе значэнні для грамадства, падкрэсліваючы як эканамічны, так і духоўны бакі справы. Так, маючы на ўвазе эканамічны бок, ён звяртае ўвагу на тое, што «друк ужо на пачатку свайго існаваньня меў вялікі ўплыў і на цану кніжкі. Перапісваньне кожнай кніжкі паасобку вымагала многа часу і трудоў. Друкаваньне кніжкі скараціла час і працу. Знача, цэны на кніжкі гэтым самым павінны былі панізіцца» [7, с. 106].

Што датычыць ролі кнігадрукавання ў духоўнай сферы, то тут А. Станкевіч лічыць, што адбыўся найвялікшы скачок у справе асветы і культуры народаў, у разнявольванні творчых магчымасцяў чалавека: «Да вынаходу друку ўся асьвета ў Эўропе бадай выключна знаходзілася ў руках духавенства і кожная новая творчая думка тагачаснага чалавека мусіла праходзіць празь сіта рэлігійнага нагляду манаха-летапісца. Друк жа паволі думку людзкую вывеў на шырокі сьвет і аддаў яе на суд шырокай людзкой супольнасьці, робячы яе гэтым уласнасьцяй агульналюдзкай…» [7, с. 106].

Кнігадрукаванне, на думку А. Станкевіча, адкрыла таксама народам Еўропы шлях культурнага і гістарычнага самаразвіцця, бо да гэтага кнігі ў Еўропе пісаліся пераважна на латыні і былі даступныя нешматлікім колам адукаваных і багатых прадстаўнікоў насельніцтва. Друк жа «прымусіў нежывую ўжо мову лацінскую ўступаць паволі месца жывым народным мовам,

дапамагаючы гэтак паўставаць новым народам і грамадзянствам з новым зьместам жыцьця» [7, с. 106]. З гэтых разважанняў аўтар робіць слушную выснову аб тым, што першыя друкары могуць быць названымі «тварцамі і закладчыкамі сучаснай культуры і цывілізацыі» [7, с. 106]. Менавіта з такімі меркамі падыходзіць А. Станкевіч і да ацэнкі здзейсненага Ф. Скарынам.

Гаворачы пра пачаткі беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання, ён паказвае вельмі глыбокае веданне Скарынам гісторыі друкавання ў Еўропе, а таксама падкрэслівае важную ролю немца Швайпольта Фіёля, які яшчэ ў 1491 г. выдаў у Кракаве «першыя друкаваныя кірыліцай кніжкі ў стараславянскай мове, прызначаныя прадусім для Беларусі і Ўкраіны» [7, с. 106].

Далей А. Станкевіч падрабязна характарызуе эпоху, у якой жыў Ф. Скарына. Ён падкрэслівае, што гэта быў спрыяльны час для выспявання новых думак, для развіцця свецкай дзейнасці, а друкаванне (нават кніг Бібліі) было менавіта свецкай дзейнасцю, і мецэнаты гэтай справы былі свецкія, уплывовыя асобы. Той час прынята называць эпохай Гуманізму, і Станкевіч дае вызначэнне гэтаму паняццю: «Гуманізм — гэта кірунак людзкой думкі, які дамагаўся большай пашаны для ўсяго людзкога, земскага, супроць думкі духавенства, зварачаўшага ўвагу блізу выключна на справы вузкарэлігійныя» [7, с. 110]. Заўважым, што гэта піша святар, для якога найважнейшай ёсць справа абвяшчэння Бога, але які пры гэтым далёкі ад усякага фарысейства.

У наступным раздзеле аўтар апісвае жыццё Ф. Скарыны, асвятляе вядомыя на той час яму факты біяграфіі першадрукара.

У асобных раздзелах з глыбокай дасведчанасцю характарызуе А. Станкевіч «скарынаўскія друкі» ў Празе і ў Вільні, адзначае іх асаблівасці. Гаворачы пра пражскія выданні, А. Станкевіч надае важнае значэнне прадмовам («прадслоўям») і іншым аўтарскім тэкстам Скарыны, дзе тлумачыцца змест біблейскіх кніг, і лічыць гэтыя тэксты менавіта творамі літаратурнымі. «Уласныя прадслоўі і некаторыя часам іншыя дадаткі, — піша Станкевіч, — паказуюць нам Скарыну ня толькі як выдаўца і перакладчыка, але такжа і як свайго роду літаратара» [7, с. 116]. Даследчык прыводзіць прыклады з некаторых прадмоў, а ў якасці «іншых дадаткаў», «дужа важных у значэнні літаратурна-гістарычным», звяртае ўвагу на вершы Скарыны. Адзін з іх з кнігі «Эсфір» цытуе ў якасці прыклада:

Не копай под другом своим ямы
Сам ввалишся в ню.
Не став Амане Мардохею шибенице
Сам повиснеш на неи [7, с. 117].

Калі пражскія выданні Скарыны былі выданнямі «ў чужыне», то віленскія выданні — гэта выданні «ў сваім краі». Гаворачы пра кнігу «Апостал», якая на той час лічылася першым віленскім выданнем, Станкевіч падкрэслівае, што ў яе аснову, як і ў пражскіх выданнях, «пакладзены тэкст стараславянскі»,

але з немалой колькасцю «чыста беларускага элемэнту». Гэты «элемэнт» найперш яскрава бачны ў мове, бо Скарына «незразумелыя для шырокіх народных масаў стараславянскія і грэцкія словы і выражэньні пераклаў на мову беларускую» [7, с. 118].

Апісваючы «Малую падарожную кніжку», Станкевіч прыводзіць яе склад: *«Псалтырь зуполная, Часословецъ, Акафісты и Каноны, Шестоденецъ краткии и поскалия на много лета»*. Звяртаючы ўвагу на апошнюю частку, ён піша: «Гэтая пятая складовая часьць кніжыцы “Пасхалія” да сяньня няведамая. А дзеля гэтага няведамы і год выданьня “Падарожнай кніжыцы”. З “Пасхаліі” можна было б дабіцца акуратнага часу выданьня кніжыцы. Але ўсё ж гэты час прыпадае больш-менш такжа на 1525 г.» [7, с. 118]. Як бачна, Станкевіч памыліўся ў сваёй здагадцы, бо сапраўды, калі знайшлася «Пасхалія», то быў устаноўлены і час выдання — 1522 г. — на тры гады раней за «Апостала», аб чым мы ўжо згадвалі вышэй.

Асноўнымі ідэямі скарынаўскіх друкаў А. Станкевіч лічыць ідэі «маральныя» і «прасветныя». Ён называе Скарыну «беларускім патрыётам і чалавекам, усестаронна асьвечаным», які бачыў «усе недастаткі культурнага жыцьця беларускага народу», асабліва маючы магчымасць параўноўваць гэтае жыццё з жыццём народаў Заходняй Еўропы. «Служыць пашырэньню граматнасьці і асьветы агулам, а такжа ўзмацаваньню і паглыбленьню жыцьця маральнага сярод беларускага народу, — вось галоўная ідэя друкарскай дзеяльнасьці Скарыны», — лічыць А. Станкевіч [7, с. 119]. Ён адзначае, што ў найвялікшай пашане ў беларусаў была кніга «Псалтыр», якая «найбольш служыла і практычнаму навучаньню граматнасьці» [7, с. 119].

Спецыяльна затрымліваецца А. Станкевіч на пытанні мовы скарынаўскіх выданняў, якую першадрукар называе ў сваіх прадмовах «*руским языком*» і адрознівае яе ад «языка словенскаго». Станкевіч звяртае ўвагу на тое, што камусьці гэтая мова можа падацца не беларускай. Ён даводзіць, што тагачасная беларуская мова адрозніваецца ад сучаснай, бо жывая мова развіваецца і змяняецца, і гэта натуральны працэс. Тым больш, што мінула 400 гадоў з часу скарынаўскіх выданняў. Станкевіч пералічае асноўныя асаблівасці мовы Скарыны і ўплывы на яе: «Беларуская мова, што за часаў Скарыны была яшчэ ня так далёка ад мовы стараславянскай, на якой вучыўся граматы і сам Скарына, за 400 гадоў адбегла ад яе небывала далёка. Далей, апрача ўплываў найсільнейшых на мову Скарыны мовы стараславянскай (аснова), мелі на яе такжа ўплыў мова чэская (словы і звароты), бо з чэскіх друкаваных кніг карыстаўся Скарына ў Празе, мова польская і літоўская (словы), бо ў жыцьці палітычным і культурным была тады стычнасьць як з палякамі, так і зь літоўцамі. Аднак, — падкрэслівае аўтар, — усе гэтыя чужыя ўплывы і залежнасьці мовы Скарыны ў аснове не зьмяняюць і яна не перастае быць, згодна са сваім часам, беларускай» [7, с. 121].

Скарынаўская друкарская дзейнасць зрабіла велізарны ўплыў на далейшае развіццё і пашырэнне ўсходнеславянскага і беларускага кнігадрукавання. Але на гэтым значэнне Скарыны не спыняецца, — піша Станкевіч, падагульняючы свае думкі: «Ф. Скарына сваімі кніжкамі кінуў у беларускую зямлю зерне беларускай *народнай* культуры і зерне любові да свайго краю і народу. Ён першы асьмеліўся парваць зь бяздушнай стараславяншчынай і зьвярнуць вочы нашага народу на яго народную жывую мову, а гэтым самым — і на яго духовыя багацьці. Гэткай ідэяй Скарыны корміцца і сяньня народ беларускі і мае яе за пуцяводную зорку свайго адраджэньня» [7, с. 125].

Такім чынам, нарыс А. Станкевіча, як і верш К. Сваяка ды іншыя публікацыі таго часу, прысвечаныя першадрукару, гавораць аб тым, што ў пантэоне беларускіх нацыянальных дзеячаў Скарына займае ў 1920-я гг. адно з вядучых месцаў, заслужана становіцца культавай асобай, на дзейнасці якой палягае будучае адраджэнне краіны, яе паўнавартаснае ўваходжанне ў еўрапейскую і сусветную супольнасць народаў. Гэтыя творы замацоўваюць і пашыраюць далей як фундаментальнае навуковае скарыназнаўства, так і мастацкую Скарыніяну.

## Літаратура


1. Багдановіч, М. Вянок. Кніжка выбраных вершоў / М. Багдановіч. — Вільня, 1913. — Факсімільнае выданне. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1981. — 120 с.
2. Жылка, У. Выбраныя творы / У. Жылка; уклад., прадм. і камент. М. Скоблы. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 1998. — 358 с.
3. Луцкевіч, А. Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва / А. Луцкевіч; уклад., прадм., камент., індэкс імёнаў, пер. з пол. і ням. А. Сідарэвіча. — Мінск: Кнігазбор, 2006. — 460 с.
4. Надсан, А. Кніга Скарыны ў Капэнгагене / А. Надсан// Божым шляхам. — Лондан, 1971. — № 5 (128). — С. 9–11.
5. Сваяк, К. Выбраныя творы / К. Сваяк; уклад., прадм. і камент. І. Багдановіч. — Мінск: Кнігазбор, 2010. — 472 с.
6. Скарына, Ф. Творы: прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія / Ф. Скарына. — Мінск: Навука і тэхніка, 1990. — 207 с.
7. Станкевіч, А. З Богам да Беларусі: збор твораў / А. Станкевіч; уклад., навук. рэдактура, напісаньне камэнтароў і прадмовы А. Пашкевіч і А. Вашкевіч. — Вільня: Ін-т беларусістыкі, 2008. — 1098 с.

**Маргарыта Грудзінава** *(Мінск, Беларусь)*

# СКАРЫНІЯНА ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА

На пачатку студзеня 1933 г. «вандроўны народны мастак» Язэп Драздовіч, сустракаючы Новы год, з надзеяй глядзеў у будучыню: «Прынясі мне добрыя варункі жыцця дзеля працы маёй на карысць людзём праз навуку, праз прыгожае слова і прыгожыя творы мастацтва» [2, № 5, с. 117]. У гэтых словах заключаецца творчае і жыццёвае credo Драздовіча, які імкнуўся раскрыць свой патэнцыял у многіх сферах дзейнасці: выяўленчае мастацтва, гісторыя, этнаграфія, астраномія, літаратура, педагогіка і інш. Драздовічаўская ўстаноўка працаваць «на карысць людзём» асацыіруецца з «праграмай» аднаго з самых знакамітых асветнікаў у гісторыі беларускай культуры — Францыска Скарыны.

Францыск Скарына — знакавая постаць для Беларусі ў цэлым, а для пачатку XX ст. гэтая асоба стала і духоўным арыенцірам для нацыі, і моцным аргументам на карысць самадастатковасці, самастойнасці і жыццяздольнасці беларускай культуры. Веліч і маштаб асобы Францыска Скарыны, ягоная спадчына, а таксама закладзеная ім традыцыя, заснаваная на арганічным спалучэнні нацыянальнага і еўрапейскага пачаткаў, з’явіліся эфектыўнымі сродкамі барацьбы з «комплексам непаўнавартасці» беларусаў.

У перыяд нацыянальнага адраджэння менавіта славуты палачанін стаў сімвалам слаўнага мінулага беларускага народа, прыкладам творчай свабоды і ўзорам markознабаковай асобы. Медык, таленавіты выдавец, перакладчык і пісьменнік, Скарына дасягнуў поспехаў ва ўсіх гэтых галінах. Дзеячы беларускага Адраджэння ўслед за Скарынам таксама спрабавалі свае сілы ў розных сферах дзейнасці (К. Каганец, У. Галубок, В. Ластоўскі і інш.). І не без поспехаў.

Не стаў выключэннем і Язэп Драздовіч, шматграннасць асобы якога па-сапраўднаму ўражвае. «Я — зменная натура — праз кожных тры гады што-небудзь новае пачну. І нішто ў мяне больш трох гадоў не трымаецца. І праз усё жыццё маё так — па тры гады з натхненнем чаго-небудзь вучуся і працую. Тры гады для мяне маюць нейкае значэнне. Тры гады я быў пастухом у падуdespite рослыя леты, а разам з гэтым тры гады пісаў вершы паводле тадышняй маёй граматы — у расейскай мове. Тры гады араў ды касіў. Тры гады патраціў на мастацкую школу і агульнае сваё развіццё — веды праз начытанасць. Тры гады мне належала служыць у салдатах, дзе й вучыўся медыцыне і агульнаму прыродазнаўству. Тры гады (з лішкам) працаваў як фельчар. Тры гады аддаваўся краязнаўству і этнаграфіі. Тры гады (з лішкам) пабываў мастацкім педагогам. І… ужо трэці год як вандроўны народны мастак», — пісаў Драздовіч у сваіх «Дзённіках» [3, с. 123].

Цікава, што паэтка Людміла Сільнова ў артыкуле, прысвечаным Драздовічу, трапна ахарактарызавала мастака як творчую індывідуальнасць «рэдкага, сапраўднага адраджэнскага тыпу — Homo universalus (чалавека універсальнага), ідэал, які прапаноўвае нам кожны раз новая хваля культурнага руху пад сімвалічнай старадаўняй назвай Адраджэнне. (…) Прыклады герояў-адраджэнцаў — астраном Галілей, вандроўнік Магелан, мастак Леанарда да Вінчы (дарэчы, Драздовіча называлі “беларускім Леанарда да Вінчы”), пісьменнік Сервантэс, выдавец і першадрукар Скарына…» [11, с. 3].

Рэнесансны ідэал шматграннай асобы быў сугучны часу і запатрабаваны часам, таму натуральна, што літаратары, гісторыкі і мастакі звярнуліся да постаці Францыска Скарыны, які ўвасобіў гэты ідэал, імкнуліся папулярызаваць ягоны вобраз і ягоныя ідэі адпаведна. Зварот да вобраза асветніка — гэта ўшанаванне памяці Скарыны і слаўнага мінулага Беларусі ў цэлым. У 1925 г. святкаваліся 400-я ўгодкі беларускага кнігадрукавання. З гэтага ж перыяду (20-х гг. XX ст.) пачынаецца гісторыя мастацкай «скарыніяны».

Сярод пачынальнікаў — і Язэп Драздовіч, які адным з першых у гісторыі беларускага мастацтва звярнуўся да вобраза Францыска Скарыны. Яшчэ ў 1910 г. Драздовіч зрабіў скульптурны бюст Скарыны, які пазней перадаў на захаванне паэтэсе Канстанцыі Буйло, для якой, дарэчы, аформіў вокладку зборніка вершаў «Курганная кветка» (адлюстраваную на вокладцы зборніка жанчыну адны даследчыкі называюць папараць-кветкай, іншыя бачаць у выяве загадкавага сфінкса). На жаль, ні бюст, ні фотаздымкі твора не захаваліся, а таму можна толькі здагадвацца, якім чынам Драздовіч уявіў і выявіў славутага палачаніна.

У 1915 г. Вацлаў Ластоўскі звярнуўся да мастака з просьбай намаляваць партрэт першадрукара, абапіраючыся да «цэдулку», якую даслаў Ластоўскі і якая ўяўляла сабой рэпрадукцыю гравюры XVI ст.: «Даражэнькі Паночку! Паклоны Вам, і як Вы жывенькі, здаровенькі? Ці не ўзяліся б Вы нарысаваць у вялікім фармаце партрэту Ф. Скарыны з гэтай цэдулкі. Пішыце, што ў Вас чуваць добранькага, як Ваша здароўе і самапачуцце. Ваш В. Ластоўскі» [16].

І Язэп Драздовіч выканаў просьбу свайго славутага земляка, стварыўшы жывапісны партрэт Францыска Скарыны падчас працы ў Радашковіцкай беларускай гімназіі, якая насіла імя першадрукара. Парадокс заключаўся ў тым, што ў навучальнай установе не было ніводнага партрэта асветніка. Перад Драздовічам як педагогам дадзенай гімназіі, а ў першую чаргу як перад беларускім мастаком, стаяла задача выправіць гэтую недарэчнасць. У 1927 г. Язэп Драздовіч піша партрэт Францыска Скарыны, абапіраючыся на знакаміты гравюрны партрэт асветніка. Арыентацыя на гравюру XVI ст. — відавочная, але нельга назваць карціну Драздовіча капіраваннем перашаўзору: перад намі — мастакоўскае бачанне асобы Францыска Скарыны; акрамя таго, няма на партрэце і ўласцівай гравюры дэталёвасці. Ірына Ляксеева і Аляксей Марачкін тлумачаць гэта тым, што «Драздовіча цікавіць не толькі

знешняе падабенства і атрыбуты Скарынавай эпохі. Мастак канцэнтруе ўвагу на выяўленні яго ўнутранай характарыстыкі» [8, с. 63].

З мноства матэрыяльных прадметаў, якія акружаюць Скарыну на гравюры (кнігі, армілярная сфера, кашолак, пясочны гадзіннік, збаны), і ўласна сімвалаў (пчала, трыумфальная арка, дубовае лісце, сігнет Скарыны) Драздовіч на сваім палатне пакідае кнігу, а таксама скарынаўскі сігнет («Сонца маладзіковае» (А. Лойка), кан'юнкцыю (У. Калеснік), асабісты герб (А. Цітоў), які з'яўляецца асноўным сімвалам на партрэце і выконвае ролю, падобную да функцыі гербаў, адлюстраваных на сармацкіх партрэтах. Герб — пашпарт асобы, які пры правільным прачытанні расказвае самае галоўнае, самае сутнаснае аб уладальніку. Увага да скарынаўскага сігнета — невыпадковая: Сонца і Месяц — важныя сімвалы для ўсёй сусветнай культуры. «Сонца маладзіковае» з'яўляецца ўвасабленнем ідэі адзінства, непарыўнай знітаванасці дня і ночы, парадку і хаосу, ірацыянальнага і рацыянальнага, сімвалам адзінства стварэння.

Трактоўка Скарынавага сігнета — адна з самых займальных навуковых загадак, якую ўжо даволі працяглы час спрабуюць разгадаць і даследчыкі, і пісьменнікі (М. Шчакаціхін, А. Лойка, Г. Кісялёў, Я. Неміроўскі, В. Шматаў, М. Арочка, В. Зуёнак, У. Арлоў і інш.). Кожны інтэрпрэтатар, па словах Г. Кісялёва, «дадае ў разуменне Скарынавага сігнета нейкія свае рыскі, уносіць элементы свайго бачання, свайго асабістага досведу» [6, с. 300]. Язэп Драздовіч, намаляваўшы сігнет на сваёй карціне, абраўшы яго сярод шэрагу іншых сімвалаў, таксама выступіў інтэрпрэтатарам гэтага кодавага знака, таксама актуалізаваў глыбінны змест выявы і надаў ёй аўтабіяграфічнае гучанне.

Скарынаў знак-сігнет — саюз двух нябесных свяцілаў, а для Язэпа Драздовіча нябесная сфера заўсёды была таямніцай, цудоўным відовішчам і квінтэсенцыяй мудрасці: спазнаць нябесныя бегі — спазнаць сэнс жыцця. Менавіта адсюль асаблівая цікавасць Драздовіча да астраноміі, тэмы космасу, якую ён распрацаваў адным з першых у беларускім выяўленчым мастацтве і ў беларускай літаратуры. Акрамя таго Драздовіч стварыў уласную касмалагічную тэорыю, заснаваную на сучасных яму рэлігійных, акультных, міфалагічных уяўленнях аб светапарадку. У дадзенай тэорыі знайшла сваё адлюстраванне і ідэя дваістасці ў Сусвеце: згодна з гіпотэзай Драздовіча, Сонечная сістэма складаецца з планет, якія ўваходзілі ў «парнагвяздавыя сістэмы» (так, Зямля і Марс з'яўляюцца парназоркавымі блізнятамі, якія былі раз'яднаныя пад уплывам сонечнай энергіі). Адсюль і асаблівая прыцягальнасць астральных вобразаў, якія з'яўляюцца не толькі на карцінах мастака, не толькі ў тэарэтычных працах па астраноміі, але і ў вершаваных творах: «*Узноў па поўням мне свеціць / Скрозь шыбы ясны веташок. / На цёмным небе след свой меціць, / Як пазалочаны ражок. // Скажы мне, ветах-веташок, / Куды імкнешся ты, дружок?.. / Мо, як і я, імкнешся ты, / Што й сам не ведаеш*

*куды?.. // Ты будзіш думак маіх рой: / Сягодня ты ў маім акне, / А заўтра гэткаю парой / Мо й не засвеціш ужо мне?.. // О, мы з табой па поўнаце жыцця, / Здаецца, быццам харашэем: / Іграем роль здавольнага гасця — / Штодзень, аднак жа, "веташэем"»* [15].

У сваіх тэарэтычных працах па астраноміі Язэп Драздовіч падкрэслівае гарманічнасць будовы Сонечнай сістэмы. Звяртаючыся да касмічнай тэматыкі, Драздовіч з мастака і пісьменніка ператвараецца ў сапраўднага філосафа, які разважае не толькі над пытаннямі сэнсу чалавечага жыцця, але і задаецца «глабальнымі» пытаннямі межаў Сусвету і ўласцівасцей прасторы. Згодна з меркаваннямі Я. Драздовіча, «прастора бясконцая. За прасторай можа быць толькі прастора. Сусвет канечны. Сусвет заканчваецца там, дзе пануе цемра, дзе няма святла. Існуе Сусвет Сусветаў» [1, с. 93]. Пытанні космасу звязаны ў творцы і з асноўнымі філасофскімі катэгорыямі быцця і небыцця («нішто»): «*Ты верыш у нішто, / А я — Закон законаў / Сусветнага жыцця»* [13].

Акрамя таго ў выяве Францыска Скарыны адчуваецца ўплыў беларускага іканапісу (гэтага меркавання прытрымліваюцца В. Церашчатава і А. Ліс). Сярод іканапісных прыёмаў, да якіх звярнуўся Драздовіч, В. Церашчатава называе каларыстыку партрэта, «апрананне» Скарыны ва ўбор святых. Асноўным жа іканапісным прыёмам, выкарыстаным Драздовічам, з'яўляецца адвядзенне позірку партрэтуемага: Скарына не зважае на гледача, ягоны позірк заглыблены, скіраваны ўнутр сябе.

У 1937 г. Язэп Драздовіч скончыў працу над паэмай «Трызна мінуўшчыны» (першапачатковая назва — «Песні аб мінуўшчыне, або Беларусь спрадвеку»), у якой паказаў асноўныя гістарычныя этапы развіцця Беларусі: ад першабытных часоў да часоў пасля адмены прыгону. З запланаваных сямі раздзелаў пісьменнік напісаў толькі пяць. Шосты і сёмы («рэвалюцыйны») раздзелы засталіся ў накідах, «эскізах» (як пазначыў сам Драздовіч). Паэма «Трызна мінуўшчыны», па словах даследчыка творчасці Драздовіча Юрыя Малаша, — гэта ўзвышаныя і «хвалюючыя словы пра Бацькаўшчыну… Насычаныя жыццёвай моцай старажытных часоў, духам гісторыі» [9, с. 173].

Амаль уся трэцяя частка паэмы — «Вечавое і пераходнае» — прысвечана гісторыі горада Полацка, часам яго росквіту, калі горад быў культурным і палітычным цэнтрам. «Залаты век» Полацка звязаны з вечавым ладам (праобразам рэспубліканскага кіравання) і, безумоўна, з дзейнасцю славутых палачан, чые імёны праславілі і ўзвялічылі горад. У галерэі славутых продкаў Францыск Скарына займае не апошняе месца: «*Гэй ты, Полацак… Ты — слаўнае места / З часоў Усяслава і гордай Рагнеды, і добрай Прадславы. (…) / Скарына адсюль — муж з навукамі, / Што праславіўся кнігадрукамі. / Гэй ты, Полацак, места слаўнае, / Ад сівых вякоў старадаўнае. / Валадар Дзвіны і з Бярозаю / Для чужых-ліхіх быў пагрозаю. / Бараніў наш край ад замежнікаў, / Самаўладнікаў і грабежнікаў*» [14].

Акрамя «залатых часоў» Драздовіч распавядае і пра часы заняпаду: «*Гэй ты, Полацак, места слаўнае, / Гарадзецкае, старадаўнае, / Дзе званы твае вечазборныя? / Гарады-браты непакорныя?»* [14].

У рукапісных накідах да паэмы сустракаюцца радкі, прысвечаныя беларускай мове, яе няпростаму лёсу. Погляды Драздовіча на ролю мовы, яе значэнне ў жыцці народа сугучныя поглядам Францыска Скарыны. Пісьменнік «карыстаецца» і скарынаўскімі тэрмінамі («мова руская»): «*Як даўней была мова руская — // Старадаўная, беларуская. // На Табе з Літвой красавалася, // За найлепшую паважалася. // У ёй пісаліся Твае граматы, // Аб чым сведчаць старыя пергаменты. // Каралі-князі і з баярамі // Карысталіся яе дарамі. // І была яна ім рутынаю // З прывілеямі над латынаю. // А цяпер яна занядбаная, як найгоршая, // Як паганая, як бяспраўная… // Здабывай правы, старадаўная!..»* [14]

Паэма «Трызна мінуўшчыны» так і не была надрукавана: нягледзячы на даволі прыязнае стаўленне да Я. Драздовіча як мастака, у публікацыі паэмы яму было адмоўлена. Акрамя таго, твор атрымаў негатыўную ацэнку Максіма Танка. У лісце з рэдакцыі «Беларускага летапісу» (ад 25 мая 1937 г.) паэт пісаў: «Рукапісы вашы атрымалі. Паэма пакуль што, у такой апрацоўцы, у якой ёсць, да друку не падаецца. Не можа гэта быць мастацкім творам, бо не мае ані вобразнасці, ані арыгінальнасці, не кажучы аб заганах з тэхнічнага боку, таксама гэта не можа быць гістарычным дакументам, бо ад такіх рэчаў вымагаецца больш: гістарычнай праўды, не адарванай ад часу, ад мовы, ад звычаяў, глыбейшага асвятлення гістарычных працэсаў» [17]. Такая катэгарычнасць пакрыўдзіла Язэпа Драздовіча, бо ён і не ставіў перад сабой задачу стварыць дэталёвыя вобразы, а кіраваўся хутчэй жаданнем паказаць напружанасць ходу падзей. На палях ліста Драздовіч алоўкам пакінуў вельмі паказальны запіс, у якім адчуваецца і боль непрызнанасці, і крыўда, і разуменне свайго шляху ў літаратуры: «А дзе тыя падобныя Баянаў?» [14].

У 1940-я гг. Язэп Драздовіч звяртаецца да напісання цэлай серыі карцін, прысвечаных Францыску Скарыне. Карціны, напісаныя ў гэты перыяд, ствараюць сапраўдны «скарынінскі» цыкл, што складаецца з чатырох сюжэтных карцін. Цікавасць уяўляюць таксама эскізы да карцін, якія дазваляюць прасачыць, як змянялася аўтарская задума.

Эскіз **«У свет па навуку»** (1941). На самім малюнку ёсць надпіс — «Юнец Франук (алоўкам закрэслена і надпісана Юрка. — *М. Г.*) Скарына прашчаецца са сваім родным градам Полацкам», які не толькі раскрывае змест малюнка, але і падкрэслівае малады ўзрост Скарыны. Пра малады ўзрост асветніка гаворыць і само аблічча героя: чысты, бязвусы малады твар, звернуты да абрысаў горада. Магутны і славуты Полацк (велічнасць горада падкрэсліваецца палацам, купаламі Сафіі) застаўся на іншым беразе, а малады чалавек стаіць адзінокім вандроўнікам на пакручастай дарозе. Адзіным спадарожнікам маладога Францыска з’яўляецца драўляны кіёк, а з рэчаў на плячы — толькі

берасцяны караб. У знак пашаны да сваёй зямлі Скарына здымае капялюш. Дзякуючы каларыстыцы малюнка момант развітання з горадам не гучыць трагічна, а хутчэй прасякнуты лірычным настроем.

Эскіз, тым не менш, адрозніваецца ад жывапіснага палатна, напісанага ў 1944 г. На карціне **«Развітанне з Полацкам» («У свет па навуку»)** Скарына ўсё той жа просты юнак у даматканай світцы, з плеценым корабам на плячы і невялікай торбачкай, у якой, хутчэй за ўсё, сабраныя ўсе пажыткі Францыска. Па словах мастацтвазнаўцы В. Церашчатавай, «гэта карціна ўспрымаецца як фальклорна-казачны матыў» [12, с. 287]. І сапраўды, перад намі — распаўсюджаны матыў пакідання роднага дому, выпраўлення ў доўгі шлях, на якім героя чакаюць і прыгоды, і радасці, і расчараванні. У сімвалічным плане сыход з дому з'яўляецца ініцыяцыяй героя.

Пры параўнанні з эскізам становіцца зразумелым, што на карціне ў Францыска Скарыны зусім іншы настрой: няма той рашучасці, малады запал саступіў месца роздуму, суму, а можа і сумненням (троху згорбленая пастава юнака і нейк трагічна апушчаная рука з магеркай выражаюць няўпэўненасць). Відавочна, што юнак прыняў няпростае рашэнне і яму складана пакідаць родны Полацк, які ўжо схаваўся далёка ў тумане. Статычнасць Скарыны падкрэслівае ўрачыстасць моманту развітання з роднымі мясцінамі.

Лагічным працягам карціны «У свет па навуку» стаў жывапісны твор **«Са свету з навукай»**, дзе перад намі паўстае ўжо не юнак з Полацка, а малады вучоны, доктар сямі вызваленых навук, энергічны, упэўнены ў сваіх ведах і сілах: «Скарына — само дзеянне, рух. Ён крочыць па сцежцы роднай зямлі, пазнаўшы навуку дзеля сваёй Бацькаўшчыны» [8, с. 64].

Многія даследчыкі, аналізуючы творы Язэпа Драздовіча, прысвечаныя Францыску Скарыне, звяртаюць увагу на аўтабіяграфічны характар гэтых твораў: «Вобраз Скарыны чырвонай ніткай праходзіць праз усю творчасць Драздовіча. Мастака цалкам захапляе гэта тэма. Можа, нават таму, што яго лёс у нейкай ступені быў падобны да лёсу вялікага асветніка, хоць паміж імі было амаль пяць стагоддзяў. Іх аб'ядноўвае адзіная мэта — набыццё ведаў, служэнне свайму народу» [12, с. 285].

У некаторай ступені можна гаварыць пра «перанясенне» ўласнага жыццёвага вопыту Драздовіча на падзеі з жыцця Скарыны: так, на многіх малюнках Скарына паўстае ў вобразе вандроўніка, які падарожнічае па дарогах з кіем: «*Кій, мой верны друг, / Кій, прыяцель мой, / Нам не трэба слуг: / Я ды ты са мной. / (...) / Нам не страшан свет, / Даль-далёкая. / Абы сыт жывот — / Хада лёгкая*» [13].

Такое «перанясенне» ў некаторай ступені тлумачыцца тым, што Драздовіч усведамляў сябе ў першую чаргу «народным мастаком», які, безумоўна, імкнецца да эстэтычнай дасканаласці, але не шляхам строгай акадэмічнасці, а шляхам стварэння зразумелага вобраза. Скарына Драздовіча — блізкі гледачу.

Менавіта гэта «суперажыванне» найлепшым чынам узмацняе дух народа і выхоўвае пачуццё нацыянальнай годнасці, патрыятызму.

Цікавасць уяўляюць эскізы да карціны «**Друкарня Ф. Скарыны ў Вільні**». У першым фрагменце — **«Фр. Скарына вядзе гутарку з маладой набыўкай кніг, не адрываючы рук ад сваёй працы»** (1941) паказана друкарня Францыска Скарыны, у якой працуе і сам першадрукар, і ягоныя памочнікі. Усе занятыя сваёй справай, вакол — кнігі. Як і на знакамітай гравюры, Скарына трымае ў руках пяро, якім піша амаль аўтаматычна. Малюнак перагукаецца з партрэтнай гравюрай Францыска Скарыны. Гэты эскіз Драздовіч планаваў аб'яднаць з другім фрагментам **«Кніганабыўка»** ў цэласны малюнак.

Жывапісная карціна **«Друкарня Ф. Скарыны ў Вільні»** адрозніваецца ад эскіза дэталямі, па-іншаму расстаўленымі акцэнтамі. На эскізе няма сігнета, на карціне ён нанесены на гатовыя кнігі. Усе персанажы карціны занятыя працай, засяроджаныя, задумлівыя. Акрамя друкароў у памяшканні знаходзіцца прышлы чалавек, які з цікавасцю праглядае надрукаванае. На думку Ірыны Ляксеевай і Аляксея Марачкіна, гэта не хто іншы, як «фундатар альбо багаты мецэнат ці заказчык кнігі» [8, с. 64]. Магчыма, гэта сам Якуб Бабіч. На эскізе Францыск Скарына сядзіць, збоку павешаны плашч, першадрукар нікуды не спяшаецца, а на карціне ж Скарына нібы прыпыніўся, каб перад выхадам (бо апрануты ў плашч) зрабіць апошні штрых, схапіць момант, запісаць важную думку.

Паказальна, што Язэп Драздовіч звярнуўся да вобраза Скарыны праз пэўны час, у гады Вялікай Айчыннай вайны. І калі для канца 1920-х гг. быў важным «нацыянальны бок» асобы Францыска Скарыны, то ў 1940-я гг. для Драздовіча прынцыповым з'яўлялася акцэнтаванне і «еўрапейскага боку» асобы асветніка, значэнне ягонай асобы для еўрапейскай культуры: народ, які мае такую постаць, як Францыск Скарына, — гэта не варвары, не цемрашалы, а народ з багатай спадчынай і моцнай культурнай традыцыяй.

Вядомы даследчык творчасці Язэпа Драздовіча Арсень Ліс у сваім нарысе «Вечны вандроўнік» падкрэсліваў: «У гэты суровы час Драздовіч думаў, што трэба даць народу яго мастацка асэнсаваную гісторыю, паказаць дзеі, справы і парыванні яго лепшых сыноў. Важна было сцвердзіць духоўную сілу, трываласць народа, стойкасць перад гістарычнымі, жыццёвымі выпрабаваннямі. Трэба мацаваць людскі дух сцвярджэннем высокіх чалавечых ідэалаў» [7, с. 239].

Варункі жыцця Язэпа Драздовіча не заўсёды спрыялі творчай працы, аднак нават у самыя цяжкія моманты ён не адмаўляўся ад творчасці. З аднаго боку, Драздовіч, безумоўна, прагнуў прызнання, самасцвярджэння, а з другога боку, выдатна разумеў ролю творцы ў лёсе цэлага народа: «Кожны новаадроджаны народ чакае сваіх песняроў, маляроў і наогул мастакоў як нейкіх прарокаў і аднавіцеляў жыцця. Гэтыя лепшыя сыны роднай зямлі ўсяму свету

паказваюць красу душы народнай і гэтым заваёўваюць для роднага народу права быць залічаным у вялікую сям’ю народаў усёй зямлі, як самабытная сіла, каторая мае свой асабісты твар, сваё асабістае творчае жыццё» [4, с. 3].

Язэп Драздовіч ажыццявіў свае намеры, адыграў важную ролю ў гісторыі Беларусі, здолеў паказаць (па словах Казіміра Сваяка) і «мэту, і церні, і злыдні мучэньня душы беларускай, — душы адважнай з разгонам Промэтэя і мукай Танталя» [10]. Кім жа, як не Праметэямі, былі і Францыск Скарына, і сам Язэп Драздовіч для Беларусі?

## Літаратура


1. Горава, Г. Касмалагічныя тэзісы Язэпа Драздовіча ў кантэксце еўрапейскай касмалогіі і астраноміі / Г. Горава // Роднае слова. — 2010. — № 3. — С. 92–96.
2. Драздовіч, Я. Дзённік / Я. Драздовіч // Маладосць. — 1991. — № 5. — С. 117–128; № 6. — С. 101–107; № 7. — С. 111–124; № 8. — С. 103–123; № 9. — С. 127–134; № 10. — С. 113–130; № 11. — С. 101–112.
3. Драздовіч, Я. Дзённік / Я. Драздовіч // Маладосць. — 1992. — № 1. — С. 115–128; № 2. — С. 113–130.
4. Драздовіч, Я. Краса душы народнай / Я. Драздовіч // Звон. — 1919. — № 10. — С. 3–4.
5. Дроздович, Я. «Меня ещё поищут…» / Я. Дроздович // Нёман. — 1997. — № 1. — С. 235–256.
6. Кісялёў, Г. Сейбіты вечнага: артыкулы пра беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў рэвалючыйнага руху 1863 года; Скарынаўская сімволіка: вытокі, традыцыі, інтэрпрэтацыі / Г. Кісялёў. — Мінск: Медысонт, 2009. — 544 с.
7. Ліс, А. Вечны вандроўнік: Нарыс пра мастака Язэпа Драздовіча / А. Ліс. — Мінск: Юнацтва, 1984. — 253 с.
8. Ляксеева, І. Скарына ў творах Драздовіча / І. Ляксеева, А. Марачкін // Беларуская мова і літаратура ў школе. — 1991. — № 10. — С. 62–64.
9. Малаш, Ю. «Нашы прадзеды жылі словамі…» Літаратурная і даследчыцкая дзейнасць Язэпа Драздовіча / Ю. Малаш // Роднае слова. — 1998. — № 2. — С. 173–183.
10. Св., К. З нівы беларускага мастацтва / К. Св. // Студэнцкая думка. — 1925. — № 1. — С. 16–18.
11. Сільнова, Л. «Касмічны аўтограф» / Л. Сільнова // Книжный калейдоскоп. — 2001. — № 2. — С. 2–3.
12. Церашчатава, В. В. Вобраз Скарыны ў творчасці Язэпа Драздовіча / В. В. Церашчатава // Спадчына Скарыны: зб. матэрыялаў першых Скарынаўскіх чытанняў (1986) / укл. А. І. Мальдзіс; уст. слова І. Я. Навуменкі. — Мінск: Навука і тэхніка, 1989. — С. 285–289.
13. ЦНБ. — Ф. 2. — Воп. 1. — Адз. зах. 16.
14. ЦНБ. — Ф. 2. — Воп. 1. — Адз. зах. 17.
15. ЦНБ. — Ф. 2. — Воп. 1. — Адз. зах. 32.
16. ЦНБ. — Ф. 2. — Воп. 1. — Адз. зах. 45.
17. ЦНБ. — Ф. 2. — Воп. 1. — Адз. зах. 58.

18. Шунейка, Я. Ф. Стылістыка мадэрна і сімвалізму ў творчасці Язэпа Драздовіча / Я. Ф. Шунейка // Язэп Драздовіч — Асоба. Творчасць. Мастацтва-інсітус: матэрыялы навукова-практычных канферэнцый / уклад. В. Лабачэўская. — Мінск: БелІПК, 1997. — С. 21–26.
19. Язэп Драздовіч. Альбом-манаграфія / [уклад. М. Купава]. — Мінск: Беллітфонд, 2002. — 179 с.

**Ульяна Верына** *(Мінск, Беларусь)*

# СКАРЫНІЯНА Ў БЕЛАРУСКАЙ МАСТАЦКАЙ ЭСЭІСТЫЦЫ 1980-Х ГГ. (А. ЛОЙКА «ФРАНЦЫСК СКАРЫНА, АБО СОНЦА МАЛАДЗІКОВАЕ», У. КАРАТКЕВІЧ «ПОДЗВІГ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ»)

Найбольш поўна і шырока паняцце эсэ было асэнсавана М. Эпштэйнам, які гісторыю эсэістыкі адлічваў ад 1580 г., са з'яўлення «Вопытаў» Мантэня, і называў наступныя жанраўтваральныя рысы: «…Невялікі аб'ём, канкрэтная тэма і падкрэслена суб'ектыўная яе трактоўка, свабодная кампазіцыя, схільнасць да парадоксаў, арыентацыя на размоўнасць і г. д.» [10, с. 334]. Істотна ў азначэннях даследчыка абавязковая «накіраванасць слова на самога гаворачага, сузнаходжанне асобы з незавершаным словам» [10, с. 335].

У сувязі з гэтым названыя ў загалоўку мастацкія эсэ, прысвечаныя Францыску Скарыне, валодаюць дваякай цікавасцю: яны раскрываюць «канкрэтную тэму» — жыццё і дзейнасць Скарыны, — а таксама асобы сваіх аўтараў. Абодва, Алег Лойка і Уладзімір Караткевіч, належалі да пакалення «шасцідзясятнікаў», ці так званага «філалагічнага пакалення» беларускіх літаратараў. Рамантыкі і філосафы, энтузіясты і патрыёты, яны бачылі беларускую культуру часткай сусветнай. Мастацкія сродкі такога бачання былі рознымі, і найбольш каштоўна зараз адчуць, як свабоднае мысленне спараджае наватарскі і ўнікальны тэкст. Шырыня катэгорый, якія сталі асновай эсэ А. Лойкі і У. Караткевіча, вымагае гаварыць пра філасофію часу: у іх творах гісторыя паўтысячагоднай даўніны распавядае пра час 1980-х і разам з тым — пра Космас, Чалавека, Навуку, Прыгажосць.

Расійскі паэт, культуролаг, крытык Дз. Галынка-Вольфсан заўважыў, што «…форма эсэ была ўзята на ўзбраенне мадэрнісцкім і постмадэрнісцкім філасофскім пісьмом… паколькі ідэальна адпавядала пастаўленай анталагічнай задачы ўтойвання і выяўлення Ісціны. Менавіта эсэ, жанр не аўтарытарны і не дагматычны, знешне пазбаўлены прыкмет ідэалагічнай рэпрэсіўнасці, ператвараецца ў такое ёмістае выказванне, дзе прыадчыняецца "палітыка Ісціны"» [1]. Згадваючы праграмны нарыс М. Эпштэйна 1982 г. «Эсэ пра эсэ», дзе і было ўпершыню адзначана, што эсэізм «рашуча варожы дагматычнай непахіснасці ўсіх міфалогій, заснаваных на аўтарытэце», Дз. Галынка-Вольфсан адзначае, што, згодна Эпштэйну, «эсэістыка фарміруе "сучаснае светаадчуванне"». І робіць важную заўвагу: «…Для эпохі пачатку 1980-х, пярэдадня перабудоўных перамен, "сучаснасць" сімвалізавала вызваленне ад дыктату афіцыёзных партыйных агітак і адшуканне ўласнага непадкантрольнага спосабу выказвання» [1].

У рамане-эсэ А. Лойкі і кароткім эсэ У. Караткевіча вызваленне ад дагматычнага пісьма адбываецца з рознай ступенню разгорнутасці: першы мастацкімі сродкамі робіць тое, што другі выказвае больш адкрыта. Звычайна, калі параўноўваць вялікую і малую форму, адзначаюць адваротнае: у рамане ёсць магчымасць усё сказаць словамі, а ў нарысах, кароткіх апавяданнях, эсэ пісьменнік вымушаны схіляцца да сімвалаў, дэталяў, укладаючы ў некалькі слоў вялікі змест. Такімі адваротнымі і звычайна супрацьпастаўленымі паказваюцца практыкі Чэхава і Талстога.

У эсэ У. Караткевіча «Подзвіг Францыска Скарыны» (1980) вехі, па якіх рухаецца думка, пазначаны пэўна — падзагалоўкамі: «Космас», «Чалавек», «Навука». У кожным выпадку зварот да сучаснага і ўласна адчутага аўтарам даецца непрыхавана, таму што мэта эсэ У. Караткевіча — паказаць свет вачамі Скарыны, але паказаць для сучасніка, і з пазіцый сучасніка, і з'яднаць часы. У першых словах эсэ чытаем: «Подзвіг Францыска Скарыны *дагэтуль* не ацэнены. Не ацэнены таму, што *мы* почасту глядзім на яго эпоху вачамі *сённяшняга дня*, забываючыся часам зірнуць на яе вачамі сучасніка Скарыны» (тут і далей курсіў мой. — *У. В.*) [3, с. 172]. Тое, што важна Караткевічу, сказана проста: «Ты сучаснік Скарыны». Усе паралелі ясна і лёгка чытаюцца. Мадэрнізацыя лексікі ва ўяўнай размове «эйнштэйнаў і каралёвых тых часоў» з прадстаўнікамі ўлады: «Не біце мяне за гэта. Я не наватар. Гэта вы… ой, прабачце! Я, наадварот, закарузлы кансерватар» [3, с. 173] — адзін са сродкаў атаясамлення знакаў часу — сярэднявечнага і застойнага.

Іранічны модус, як у прыведзенай цытаце, трымае структуру эсэ цалкам. Іронія — адзін са сродкаў вызвалення мастацкага маўлення ад дыктату жанру і формы. У. Караткевіч іранічныя паралелі дае ў самім тэксце і як бы выключаючы іх з асноўнага тэксту, але і падкрэсліваючы іх, — у дужках.

«І няма нікога, хто спытаўся б такога рацыяналіста (божа, колькі іх і зараз!):

— Дзядзька, а вы Вільню бачылі?

— Не.

— А яна ж ёсць…» [3, с. 173].

«Над ліхім манархам адзіны суддзя — Бог. Добры — можа прывесці да росквіту навук, адмены прыватнай уласнасці і раўнапраўя (нешта не бачым мы прыкладаў гэтаму ў гісторыі)» [3, с. 174].

Шматлікія заўвагі і ўдакладненні, што ствараюць асаблівы рытм эсэ У. Караткевіча, вылучаюць, свядома парушаючы лінейнасць, асабліва значныя і асобасныя думкі. Гэта тое, што выяўляе ўласна прадмет развагі аўтара, яго духоўную работу, у якой постаць Скарыны — маяк, што дае і свет і фокус, выбіраючы з Усяго найбольш істотнае. Вяртаннем да асабліва актуальнага для самога сябе выступаюць падобныя знакі эсэістычнага мыслення: «Усё досыць проста і зразумела (як паўсюль, дзе амаль нічога не зразумела). Паўсюль строгі парадак (як усюды, дзе няма парадку), усталяваны Богам» [3, с. 174].

Іронія тут гарчыць складаным для аўтара часам — «годам Караткевіча», як прапанаваў «абвясціць» 1980 г. А. Мальдзіс [7, с. 137]. Ён жа адзначыў у «Чорным замку Альшанскім», які друкаваўся ў 1979–1980 гг. у «Маладосці», «прадчуванне тых грамадскіх змен, што адбыліся ў нашай краіне за апошнія гады пасля смерці пісьменніка (мелася на ўвазе перабудова. — *У. В.*). Яно — і ў імкненні Касміча (заўважым прозвішча галоўнага героя. — *У. В.*) заўсёды быць чалавекам, з годнасцю "распараджацца сабою". Яно — і ў разуменні непарыўнай повязі часоў» [7, с. 139].

Космас, Чалавек, Час — гэтыя вехі адзначалі найшырэйшае кола разваг Караткевіча. Тое, што бачыў ён у 1980 г., стала асновай асэнсавання ролі Скарыны як духоўнага першапродка беларускай інтэлігенцыі: «Францыск Скарына быў з тых, першых, хто, кажучы *сучаснымі словамі*, стварыў стартавую пляцоўку для рыўка Чалавецтва ў ягоную неабсяжную будучыню. Гэты беларус быў з тых, самых першых, што стварылі *лепшых з нас такімі, якія мы ёсць*» [3, с. 176]. Роля інтэлігенцыі ў савецкія часы — гэта якраз прызванне быць наватарам у кансерватыўным грамадстве, «лепшым» — сярод аднолькавых, мысляром — сярод паслухмяных вінцікаў. Зараз ізноў трэба ўзгадваць і ўдакладняць гэта, бо мы жывём ужо ў эпоху, калі інтэлігенцыя не адыгрывае сваёй былой ролі («Мы адышлі ад інтэлігенцкай мадэлі ў культуры», — сцвярджае Адам Паморскі [9]), яе месца пакуль вакантнае, бо заходні інтэлектуалізм, прэтэндуючы заняць яго, пазбаўлены найважнейшага складніку — духоўнасці ў яе гуманістычным вымярэнні, таго, што ўласна і рабіла інтэлігенцыю неабходным і ўстойлівым цэнтрам захавання і развіцця нематэрыяльнай культуры.

Космас, Чалавек, Навука — гэта і вехі рамана-эсэ А. Лойкі «Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае» (1989). Касмічны ўзровень зададзены ў асэнсаванні эмблемы, «друкарскага сігнету» Скарыны. Зацьменне і канец часу ў гіпатэтычны год нараджэння першадрукара сталі толькі пачатковай метафарай у стварэнні шырокага кантэксту рамана-эсэ. Сонца з рознымі тварамі на застаўках з дзецьмі, жанчынамі, мужчынамі, і ў кнізе «Прамудрасць божая» — падобнае на твар у буквіцах «О» і «Я»: «…Нібы спецыяльна з клічнікам "О!" вас запыняе, каб потым літарай "Я" сказаць, што я — сонца, што сонца — у маім "Я"…» [6, с. 96]. Праз касмічную метафару аўтар ішоў, як у прыведзеным выпадку, да гіпотэзы аб стварэнні першага партрэта Скарыны. Больш сакрыта, чым у кароткім эсэ, і шырэй, бо шматзначней, чым касмічная сімволіка, наўрад ці можна адшукаць.

Час, Прыгажосць, Душа — аб гэтым разважае аўтар рамана-эсэ, і яго ідэал вынікае з пастаяннай і суцэльнай рэфлексіі, перанасычанай энцыклапедычнай інфармацыйнасцю. Аўтар казаў, што прытрымліваўся прынцыпу «навуковага гістарызму», які заключаны «не толькі ў канкрэтна-гістарычным, але і ў легендарна-міфічным» [8, с. 22]. Пласт міфаў, паданняў, легенд, прыпавесцяў надзвычай багаты ў рамане, як багата ў ім і фактаграфічнай дакладнасці. Але

кожнае ўвядзенне ўяўнага дыялогу, сну ці фактаграфіі мае абагульняючую аснову, што робіць раман-эсэ цэласным. Скарына адразу, з першых старонак, калі гаворыцца яшчэ пра гады да яго нараджэння, бачыцца ўжо ў святле сваіх будучых здзяйсненняў, яго дзяцінства — першыя гады асветніка, яго вучоба — шлях першадрукара. Час у рамане-эсэ складана перасякаецца дамінулым, мінулым, сучасным на кожны ўяўны момант аўтарскай думкі.

А. Лойка прытрымліваўся таго, што «чалавека трэба выводзіць з-пад квдратнага кораню не толькі свайго часу, але і з прадгісторыі» [2, с. 5]. Складанасць часу выступіла ў еднасці з пераасэнсаваннем гістарычнай прасторы: «…Каб зразумець Скарыну і яго час, — тлумачыў аўтар, — мне трэба было змяніць традыцыйнае бачанне нашага Сярэдневякоўя і Адраджэння толькі на гарызонце Захад — Усход, бо Полацк прымусіў на сябе глядзець і як на горад на шляху з варагаў у грэкі, гэта значыць, і на вертыкалі Поўнач — Поўдзень, на перасячэнні гарызанталі і вертыкалі» [2, с. 5]. Дапаўняючы адраджэнства Скарыны паўдзённым «светлапачуццёвым ісіхазмам», А. Лойка робіць скразныя звароты да Прыгажосці, Душы, «Божай глыбіні» як самазаглыбленне асобы натуральнымі знакамі абранага жанра. Эсэ апісвае прынцпова неспазнавальную Ісціну, ісіхазм прапануе шлях сузіральнага спасціжэння неспазнавальнай сутнасці Бога.

Раман-эсэ — рэдкі ў сусветнай літаратуры жанр. У злучэнні рамана і эсэ ўступаюць у канфлікт жанравыя прыроды, розныя і штучна з’ яднаныя прынцыпы, і вынік дае складанаеноваўтварэнне. Л. М. Талстым былі аб’ яднаныя канфліктуючыя жанры рамана і эпапеі як твораў, у цэнтры якіх адпаведна асоба і глабальнае безасабовае, «роевае». Такі сінтэз стаў асновай ідэі «Вайны і міру», якой падпарадкавана ўся змястоўная шырыня грандыёзнага рамана-эпапеі. Раман-эсэ мае асновай канфлікт выдуманага мінулага і сучаснага. Думка М. Бахціна аб тым, што ў рамане галоўнае — «жывы кантакт з негатовай, незавершанай сучаснасцю», тэарэтыку эсэ М. Эпштэйну бачыцца «эсэістычнай зонай» унутры самога рамана [10, с. 364]. Пры гэтым жанравай дамінантай рамана сцвярджаецца ўсё ж «стварэнне асобай, замкнёнай у сабе, выдуманай рэчаіснасці, якая ўбірала б сучаснасць, але ў пераствораным выглядзе, адмяжоўваючы ад сапраўднай, па-за бягучай сучаснасцю» [10, с. 364].

А. Лойка ў сваіх раманах-эсэ пра Купалу і Скарыну меў на ўвазе яшчэ і будучыню. У першым выпадку пісаў так, каб пазней адкрытыя архівы дазволілі прачытаць у рамане «між радкоў» тое, што не трапіла ў тэкст з-за цэнзуры, у другім — каб новыя матэрыялы пра Скарыну не зрабілі раман неадпаведным прынцыпу «навуковага гістарызму» і не паставілі аўтара «ў нялоўкае становішча» [8, с. 23].

Напісаўшы раман-эсэ пра Скарыну, А. Лойка не лічыў, «што стаў празаікам», усведамляючы абраны жанр як пераходны паміж прозай і паэзіяй, імкнучыся «замацаваць у форме» *душу* Францыска Скарыны [2, с. 5].

Складаная задача — і сінтэтычны жанр. Так ствараецца літаратура паводле *інтэлігенцкай* мадэлі.

Нельга не адзначыць і важны парадокс (нагадаю, што парадаксальнасць — адна з рысаў эсэістыкі). Творы У. Караткевіча і А. Лойкі, быўшы складнікамі беларускай інтэлігенцкай культуры ў сваім гуманістычным філасофскім аспекце, у міжчасавай і міжкультурнай шырыні стваралі дапостмадэрнісцкі дыскурс. Парадокс у тым, што постмадэрнізм адмовіўся ад душы і асобы, але зрабіў эсэістычнасць знакавым для эпохі жанравым сродкам.

Адступленне ад жанру біяграфічнага рамана-эсэ ў своеасаблівай трылогіі А. Лойкі вельмі паказальнае. Задуманы напачатку 1990-х гг. раман пра Караткевіча (хоць многія праракалі, што трэцім беларускім раманам у серыі «ЖЗЛ» стане біяграфія М. Багдановіча) здзейсніўся толькі ў 2008 г. і ў жанры паэмы. Сам аўтар уступ да свайго твора прысвячае развагам аб пошуку падзагалоўка і жанру. У выніку маем твор, названы «Уладзімір Караткевіч, або Паэма Гарсія Лойкі».

Абдумваючы падзагаловак, аўтар заўважае блізкасць Караткевіча скарынаўскаму «сонцу маладзіковаму»: «Думка гэтая асабліва праяснілася, можа, перш за ўсё пры перачытванні артыкула Уладзіміра Караткевіча пра Скарыну, ды і пры перачытванні “Нельга забыць” праяснялася» [5, с. 14]. А. Лойка з эсэ (не артыкула) «Подзвіг Скарыны» выбірае цытаты, што паказваюць самую сутнасць манеры, і стылю, і «велікадушнага гістарызму» Караткевіча: пра сэнс жыцця ў спазнанні прыроды, пра шлях да Розуму. Але ў адрозненне ад гістарызму, у зваротах да сучаснасці Караткевіч быў зусім не велікадушны: «Быць адукаваным і вольным сабратам адукаванага і вольнага грамадства, якое не здушыць аніякая фізічная і духоўная тыранія. <…> Быць праўдзівым, добрым, чыстым, чалавекалюбівым. І вакол сябе — на шляху да Розуму — бачыць такіх самых братоў, а не кодла свядома-цёмнага і вераломнага быдла» [3, с. 175]. Не думаю, што ў гэтых рэзкіх, вельмі эмацыянальных словах меліся на ўвазе толькі сучаснікі Скарыны. Як і ў вершы «Скарына пакідае радзіму»:

З адчаем упартым, пахмурым
Людзі ў жорсткіх баях
За цемру сваю і дурасць
Знішчаюць друзі свая,
Зрабілі з Сіная малпоўню,
Й не хочуць бачыць яны,
Што справу іхнюю кроўную
Хаўтурна адплачуць званы [4, с. 163].

Перабіраючы варыянты жанру біяграфіі Караткевіча, А. Лойка адмаўляецца ад «сказа», ад «кнігі», бо «на першым месцы ва Уладзіміра Караткевіча не евангелічная святасць, а патрыятызм, адраджэнскі гуманізм — ад эпохі

еўрапейскага Адраджэння, ад нацыянальнай адраджэнскай ідэі» [5, с. 16]. Аўтар шукаў жанр, «змест якога ідзе ад гістарычных падзей, легендаў» [5, с. 17], згадвае «Мёртвыя душы» Гогаля і «Чазенію» самога Караткевіча, якога называе лірыкам, «мужам, рыцарам, абаронцам краю»: «Лірычны, гераічны эпік, варты паэмнага ўзвышэння, сам — паэма і лірычная, і эпічная!» [5, с. 17].

А. Лойка быў выдатным філолагам, чалавекам энцыклапедычных ведаў у галіне літаратуразнаўства, тэорыі літаратуры, і ў прадмове, названай «Гэтая *паэма*… (Замест уступу)» мы маем каштоўны аўтакаментарый, і тэарэтычна абгрунтаваны, і па-мастацку пададзены, таму, думаю, падзагаловак «Эсэ» да твора быў змешчаны памылкова, а магчыма, і не самім аўтарам. Акрамя ўсіх названых прычын, заўважым, што на першай жа старонцы А. Лойка робіць агаворку, што хоча пісаць пра Караткевіча не манаграфію, не «эсэ-раман… бо мне хочацца сягоння надзвычайнае пісаць надзвычайна» [5, с. 10].

У апошнім сваім творы А. Лойку ўжо не трэба было ў эсэістычнай форме «ўтойваць і выяўляць Ісціну», ён пісаў пра чалавека і генія, якога добра ведаў, а галоўнае — пісаў цалкам так, як мог на апошнім годзе жыцця, і як хацеў, не зважаючы на цэнзурныя забароны і выкрэсліванні (дарэчы, зробленыя ў 1982 г., як у выпадку з раманам-эсэ «Як агонь, як вада…») ці на далейшае развіццё навуковай Скарыніяны.

Цікава, што рада Караткевіча дапамагла з'яўленню рамана-эсэ пра Скарыну. Як успамінае А. Лойка: «У Дубултах (пісьменніцкі дом адпачынку на Рыжскім узмор'і. — *У. В.*) Караткевіч мне мовіў: "Захочаш па-сур'ёзнаму пісаць прозу, чытай энцыклапедыі!"» [5, с. 99]. А. Лойка, гартаючы энцыклапедыю, заўважыў, што доктар Фаўст і Скарына былі гіпатэтычнымі равеснікамі: «Дзве жывыя персаналіі-аднагодкі: адзін за светлую душу, другі — прадаў душу д'яблу. Канфлікт ёсць!» [5, с. 100]. Гэты факт аўтар згадваў яшчэ ў гутарцы з С. Кавалёвым у 1990 г. [8, с. 22]. А сваю прадмову да «паэмы Гарсія Лойкі» А. Верабей назваў «Подзвіг творцы», маючы на ўвазе не пераклічку з эсэ У. Караткевіча пра Скарыну, а тое, што паэму Алег Антонавіч пісаў, будучы ўжо цяжка хворым.

Шмат перасячэнняў імёнаў Скарыны — Караткевіча — Лойкі яшчэ застаюцца не названымі, але, думаецца, беларускай культуры і літаратуры яшчэ прыйдзецца звярнуцца да эсэістыкі 1980-х гг., як і ўвогуле да духоўных здабыткаў таго пакалення, якое ўжо адышло ў мінулае. Акрамя мастацкіх вартасцяў, якія не да канца ацэнены нашай навукай, але хаця б прызнаныя як такія, застаецца акрэсліць месца гэтай літаратуры ў нашай сённяшняй культурнай прасторы, якая мае патрэбу ў адраджэнскім і інтэлігенцкім універсалізме.

## Літаратура


1. Голынко-Вольфсон, Д. Эссе о невозможности эссе (Проза Аркадия Драгомощенко в контексте современной эссеистики) / Д. Голынко-Вольфсон // НЛО. — 2010. — № 104. — http://magazines.russ.ru/nlo/2010/104/go18.html
2. Каб зразумець Скарыну… [гутарка з пісьменнікам А. Лойкам / запісаў А. Марціновіч] // Літаратура і Мастацтва. — 1988. — 8 студзеня (№ 2). — С. 5–6.
3. Караткевіч, У. Подзвіг Францыска Скарыны / У. Караткевіч // Збор твораў: у 8 т. — Мінск, 1991. — Т. 8, кн. 2: З жыццяпісу, нарысы, эсэ, публіцыстыка, постаці, крытычныя творы, інтэрв’ю, летапіс жыцця і творчасці. — С. 172–177.
4. Караткевіч, У. Скарына пакідае радзіму / У. Караткевіч // Збор твораў: у 8 т. — Мінск, 1987. — Т. 1: Вершы, паэмы.
5. Лойка, А. Уладзімір Караткевіч, або Паэма Гарсія Лойкі / А. Лойка // Караткевіч: вядомы і невядомы: зборнік эсэ, вершаў, прысвячэнняў / уклад. А. Верабей, М. Мінзер, С. Панізнік. — Мінск, 2010. — С. 5–135.
6. Лойка, А. Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае: раман-эсэ / А. Лойка. — Мінск, 1990.
7. Мальдзіс, А. І. Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча: Партрэт пісьменніка і чалавека: літаратуразнаўчае эсэ / А. І. Мальдзіс. — Мінск, 2010.
8. Скарына сярэднявечны, Скарына адраджэнскі [гутарка з пісьменнікам А. Лойкам аб рабоце над раманам-эсэ «Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае» / запісаў С. Кавалёў] // Беларусь. — 1990. — № 2. — С. 22–23.
9. Фанайлова, Е. Интеллигентская модель культуры заканчивается. Переводчик Адам Поморский / Е. Фанайлова // Радио Свобода. Электронный ресурс. Режим доступа: http://www.svobodanews.ru/content/transcript/ 24258133.html.
10. Эпштейн, М. Парадоксы новизны. О литературном развитии XIX–XX веков / М. Эпштейн. — М., 1988.

**Ирина Скоропанова** *(Минск, Беларусь)*

# СКОРИНА А. КУРЕЙЧИКА

В творчестве Андрея Курейчика 2000–2010-х гг. усиливается внимание к судьбе белорусского этноса и фигурам его просветителей и идеологов, отстаивавших идеи национальной самобытности, независимости, равноправия среди других народов. Первое место в этом ряду занимает Франциск Скорина, приобщивший белорусов к книгопечатанию. Изданием в начале XVI в. Библии (22 ч.), «Апостола», «Малой подорожной книжицы» на белорусском языке (со своими предисловиями, комментариями, примечаниями) он не только содействовал распространению в Беларуси просвещения, но и способствовал укреплению национального самосознания. Поэтому Ф. Скорина стал главным культурным героем белорусов и за минувшие века успел превратиться в миф, тем более что известно о нём мало — его фигуру обволакивает биографический туман, порождающий множество непрояснённых вопросов. Это затрудняло работу А. Курейчика над пьесой «Скорина» (2005), но одновременно давало простор для воображения. Белорусскоязычные драматурги М. Адамчик и М. Климкович в пьесе «Vita Brevis, или Штаны святого Георгия» (1993) пошли по пути деканонизации канонизированного образа Ф. Скорины, внедрённого в массовое сознание, и даже в заглавие произведения ввели его настоящее имя — всё это ради того, чтобы «оживить» замечательного человека, превращённого в стёртую (от бесконечного прикладывания с поцелуями) икону. А. Курейчик отчасти продолжает данную линию и тоже не делает из Ф. Скорины святого: он способен увлекаться женщинами, попивать в минуты безнадёжности; в его облике есть элементы комического. Однако доминирует у А. Курейчика драматическое, лишь смягчаемое юмором и преломляющее особенности интерпретации скорининской судьбы. Выдающийся деятель белорусской культуры предстаёт в пьесе как человек, при жизни на родине не признанный, подвергавшийся гонениям, вынужденный в конце концов эмигрировать. Основание для такой трактовки даёт необъяснимый, казалось бы, отъезд (у А. Курейчика более похожий на бегство) Ф. Скорины из Вильни, где на средства виленского городского самоуправления он открыл в 1522 г. типографию, печатал книги на белорусском языке, и странное возвращение просветителя в Прагу, где он начинал свою книгоиздательскую деятельность, но где его никто не ждал, и он вынужден был занять скромное место королевского садовника, никак не соответствовавшее ни его учёности, ни масштабам личности в целом. Другими словами, в Чехию Ф. Скорина уехал не потому, что ему было предложено нечто лучшее, а, возможно, спасая свою жизнь. Отторжение отечеством и даже преследование призванных составить гордость нации (знает знакомый

с белорусской историей) — достаточно характерное для Беларуси явление. Доныне в этом отношении ничего, по большому счёту, не изменилось: самые последовательные сторонники национального возрождения оказываются «за дверью». А. Курейчик целенаправленно стремится вызвать соответствующие параллели, и историко-биографический принцип изображения личности Ф. Скорины подчинён у него использованию образа Скорины-персонажа в качестве литературной маски самого драматурга. «Это взгляд современника на современника, хоть и через призму неких исторических реалий», — подтверждает А. Курейчик [1, с. 362]. Сближению истории и современности служит «обнажение приёма» в одной из частей пьесы, когда, отказываясь от стилизации языка XVI в., автор переходит на современный русский язык и воссоздаёт сцену погрома виленской типографии Ф. Скорины:

«2-й. Накуролесили, теперь будем разбираться. Вам же сразу сказали: типография — объект для державы стратегический… И контролировать его должны государственные люди.

Милош. Пошли вон, собаки…

1-й. Он ещё огрызается, сученок.

2-й. Давай его сюда… *(Милоша кладут на станок, руку засовывают под пресс.)* Будешь знать, как спорить с правоохранительными органами… Как тебе такая книга? *(Сдавливают руку, Милош кричит.)*

1-й. Запомни, тварь, на этой земле нет ничего твоего. Ничего! Будете делать, что скажут. И тогда, может быть… Может быть, вас оставят в живых…» [1, с. 48].

А. Курейчик, впрочем, в сноске указывает, что при постановке пьесы слова могут быть заменены и на старинные либо ещё более актуализированы — кто на что решится.

Вносимые в произведение вольности оправданы и замыслом А. Курейчика, и тем обстоятельством, что многие факты биографии Ф. Скорины неизвестны, и автор моделирует вполне вероятное. Опирается он, естественно, на скупые сведения о жизни Ф. Скорины, дошедшие до нас, и мотивирует это воспоминаниями героя, перебивающими основную сюжетную линию.

Состарившийся Скорина, проживающий в Праге, показан надломленным тяжкими испытаниями и хворями, по внешней видимости ничего не добившимся в жизни. Ему горько сознавать, что знания, просветительский порыв, книгоиздательское подвижничество оказались не нужны родине, и она по-прежнему «безъязыка». Но даже теряющий зрение Скорина пытается продолжать свои переводы, сочинять «прадмовы» к книгам, которые хотел бы издать. Без заказа, без оплаты, движимый внутренней потребностью нести белорусам Божье слово. Звучит такой монолог: «…Магда говорит, что это бесполезно. Бесполезно, хм. Ничего в этом мире не бесполезно. Научить Христа, апостолов и учеников его говорить на другом языке… Иначе заповеди не действуют. Они не понимают, что свет истины начинается с самого,

самого родного…» [1, с. 20]. Божье слово у Скорины неотделимо от родного языка, которому он, в свою очередь, хочет придать божественный статус, сделать языком правды и гуманизма.

Себя Скорина-персонаж называет литвином. Тем самым А. Курейчик напоминает о вхождении Беларуси в XIV — XVI столетиях в состав Великого Княжества Литовского, Русского и Жемойтского, а именно здесь и в это время осуществлялся процесс формирования белорусской народности. Но просветитель отделяет себя от неправедной власти и, когда в Прагу является литвинский дворянин Ян Подвицкий, обещающий молочные реки и кисельные берега, если Скорина вернётся и будет служить правящей верхушке, отвечает отказом. Герой не может допустить, чтобы его авторитетом освящалось бесчинство и разжигание национальной вражды.

Переплетение сюжетных нитей в пьесе ведёт к нарастанию всё большего драматизма, и в финале Скорина остаётся совершенно один. В последней из своих статей он взывает к утверждению Божественного закона в отношениях государства со своими гражданами, каковыми должны быть любовь и милосердие, а не жестокость и насилие, и оплакивает своё несчастное отечество.

Заветы Скорины не утрачивают своей актуальности — никто на родине не должен быть лишним, преследуемым, травимым, и без свободы быть самим собой национальное возрождение так и останется благим пожеланием. Устами героя в этих случаях говорит сам автор. И посвящение пьесы «центральному проспекту Минска» — форма протеста против отнятия у него имени Ф. Скорины (сигнализировавшего о «сворачивании» начавшейся после 1991 г. белорусизации), так как путь Ф. Скорины остаётся для Беларуси магистральным.

## Литература

1. Курейчик, А. Скорина: Избранные пьесы / А. Курейчик. — Минск: ООО «Мэджик Бук», Изд. Вараксин А. Н., 2006.

**Алена Бармоціна** *(Мінск, Беларусь)*

# ВОБРАЗ Ф. СКАРЫНЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ ГІСТАРЫЧНАЙ ДРАМЕ ХХ — ПАЧАТКУ ХХІ СТ.

У цяжкі пераломны час драматургі ў жанры гістарычнай драмы спрабуюць накіраваць увагу на свой «айчынны беларускі пантэон». Беларускія аўтары «ўваскрашаюць» у сваіх гістарычных п'есах Ефрасінню Полацкую, Кірылу Тураўскага, Міколу Гусоўскага, Сымона Буднага і шмат іншых асоб.

З культурных дзеячаў Беларусі найбольш асвоены драматургіяй вобраз першадрукара на ўсходнеславянскіх землях, асветніка, навукоўца, перакладчыка, пісьменніка, доктара Францыска Скарыны з Полацка. Яму прысвяцілі свае п'есы М. Клімковіч «Георгій Скарына», М. Грамыка «Скарынін сын з Полацка», М. Арочка «Судны дзень Скарыны», М. Клімковіч з М. Адамчыкам «Vita brevis, або Нагавіцы святога Георгія», А. Петрашкевіч «Напісанае застаецца», «Прарок для Айчыны» і А. Курэйчык «Скорина».

Спынімся на найбольш значных і паказальных. У 40-х гг. ХХ ст. напісаў гістарычную паэму «Георгій Скарына» М. Клімковіч. Ён адзін з першых, па сутнасці, палажыў у беларускай літаратуры пачатак гістарычнаму жанру. У п'есе дзейнічаюць пераважна канкрэтныя гістарычныя асобы (Скарына, Бабіч, Онькаў, Глінскі). Гэтая драма зіхаціць народнымі прыказкамі і прымаўкамі, сацыяльна-бытавымі, гістарычнымі песнямі, баладамі. У іх прысутнічае этнічны каларыт, непаўторнасць, нацыянальная спецыфіка, хараство і паэтычнасць. Дзеянне адбываецца пераважна ў часы юнацтва і вучобы Францыска Скарыны [2].

У гістарычнай драме М. Арочкі «Судны дзень Скарыны» аўтар раскрывае менавіта сцэны судзілішча над Скарынам. У творы дзейнічаюць такія гістарычныя асобы, як Жыгімонт І Стары, Бона Сфорца, Канстанцін Астрожскі і іншыя [1].

Гістарычную драму пра першадрукара пад назваю «Напісанае застаецца» напісаў А. Петрашкевіч, ў драме дзейнічаюць такія вядомыя асобы, як Мікола Гусоўскі, Максім Грэк, Мікалай Капернік, Пётр Мсціславец і Марцін Лютэр. Дзеянне разгортваецца ў Вітэнбергу, у самым сэрцы Рэфармацыі.

У творы падаюцца фразеалагізмы Ф. Скарыны, якія падкрэсліваюць незвычайную мудрасць асветніка: «не кожны вольны сваё імя насіць, не кожны можа па сабе веру абраць», «толькі тады чалавек шчаслівы, калі лічыць сябе шчаслівым», «сэрца чалавечае вялікае, яно можа змясціць у сабе ўвесь свет», «песні гнеў і ярасць утаймоўваюць, мір і пакой чыняць, смутак і скруху адганяюць, жорсткае сэрца мякчаць і слёзы з яго, як бы з крыніцы, зводзяць», «прыгожая смерць здольная звязаць сучаснае з мінулым і будучым,

ганебная — ніколі», «злоба нараджае горшую злобу», «роздум пра смерць і пазнанне самога сябе ёсць найвышэйшая мудрасць», «у помсты вочы пустыя і сэрца жорсткае» [4].

У п’есе згадваецца сяброўства Скарыны з Гусоўскім: «У Кракаве вучыліся разам, таварышылі. І не было ў мяне сябра вярнейшага за яго! І радасць — на двух. І гора — на двух. І песню родную — у два галасы! І смутак па Бацькаўшчыне — пароўну» [4, с. 110]. Каб падкрэсліць адукаванасць асветніка, назіраецца цытаванне антычных філосафаў: Плутарха («хто сквапны на пахвалу, той бедны заслугамі» [4, с. 112]); Марка Аўрэлія («вучыўся не рабіць нічога без прычыны і мэты» і «не рабіць нічога, што не клалася б на карысць людской грамады» [4, с. 112]); Арыстоцеля («пачатак — ёсць больш чым палова ўсяго» [4, с. 113]); Авідзія («ён раіў аб справе меркаваць па выніку» [4, с. 113]); Эпікура («смерць для чалавека нішто» [4, с. 148]); Сенеку («пакуль чалавек жывы, ён ніколі не павінен траціць надзеі» [4, с. 153]); Эзопа («калі наведае цябе гора, агляніся наўкола і суцешся: ёсць людзі, доля якіх яшчэ цяжэйшая за тваю» [4, с. 153]). Увогуле ў п’есе ўжываецца шмат цытат з Псалтыра, бо «там ест справедливость, там ест чистота, душевная и телесная. Там ест наука всякое правды. Там мудрость и разум совершенный» [4, с.113], і з паэмы «Песня пра зубра» М. Гусоўскага: «…І ад сваіх міжусобіц мы ўсе не дужэем…» [4, с.116].

Нездарма для п’есы ўзята назва з эпіграфа да паэмы М. Гусоўскага «Песня пра зубра»: «Словы злятаюць, напісанае застаецца». Ф. Скарына імкнуўся, каб «сам народ, без талмача ў сутане, спасцігнуў праўду Боскую. А там, глядзіш, і свой голас прарэжацца ў люду простага. А будуць голас свой ды вера адзіная, перастане ваяваць брат брата. І зойме народ наш месца роўнае паміж роўных...» [4, с. 114]. Гэтыя словы ўкладвае драматург у вусны Юрыя Адверніка — аднадумцы і паплечніка Ф. Скарыны.

Пётр Мсціславец у п’есе называе Ф. Скарыну «міласнікам навукі і мудрасці», бо, цытуючы Прадмову да Бібліі, «выбраў пакінуць у навуцы і кнігах вечную славу і памяць сваю, а не ў вялікіх багаццях» [4, с. 112].

Ф. Скарына — прадказальнік, які прадказвае будучыню М. Гусоўскаму: «Ён перажыве ўсіх нас і застанецца ў памяці нашчадкаў нашых на доўгія вякі...», называе яго «анёлам сэрцам і паэтам душой» [4, с. 117].

Духоўныя арыенціры Ф. Скарыны захапляюць: «Я шукаю гармоніі і дасканаласці ў чалавеку, грамадстве, у свеце. Веру ў чалавека, веру ў яго добры, разумны пачатак» [4, с. 146]; «Мір і згода, асвета і навука — вось мая асабістая рэлігія» [4, с. 123]; «Бог адзін, а веры розныя» [4, с. 147] — і адрозніваюцца ад пастулатаў каталіцызму і лютэранства. Асветнік падкрэслівае: «…Народ мой не дзікі, а мова яго з’яўляецца мовай яго дзяржавы <…> Чужая нам лаціна не можа даць цэльнасці і натуральнасці мыслення. Без роднай мовы чалавек нямы і сляпы» [4, с. 143]; «Пасрэднік не спатрэбіцца, калі простыя людзі самі

авалодаюць кніжнай прамудрасцю» [4, с. 144]; «У служэнні свайму народу, роднаму краю бачыў я сваё прызначэнне» [4, с. 149].

Красамоўнымі з'яўляюцца сцэны размоў Скарыны з інквізітарам:

«Інквізітар. Тайны рэлігіі не павінны быць даступны ўсякаму...

Скарына. І вы і ваш Папа баіцеся, каб Біблія трапіла ў рукі простых людзей. Ім жа адразу кінецца ў вочы неадпаведнасць паміж тым, што прапаведуе Хрыстос і што робіце вы ў сваіх цэрквах і такіх вось катавальнях» [4, с. 144].

Сцэны размоў Ф. Скарыны з Марцінам Лютэрам і папскім нунцыем раскрываюць такія рысы характару першадрукара, як патрыятызм, талерантнасць, духоўную чысціню і глыбокую адукаванасць. Раскрываецца прычына таго, што друкаванне адбылося менавіта ў Празе: «У Празе нас больш разумеюць...Мовы ў нас блізкія».

У фінале да Ф. Скарыны прыходзяць прывіды Капerніка, Максіма Грэка і Мюнцэра, тых, хто, як і Скарына, апярэдзілі свой час.

Вобраз першадрукара ў сталым узросце стварыў, здаецца, упершыню малады драматург А. Курэйчык, якому належыць гістарычная драма на рускай мове «Скорина». Праз увесь твор праходзіць вобраз ліцвінскіх руж, якія маюць кіславаты пах. Яны, як і Скарына, «сапраўдныя. Ім не патрэбная чужая слава, яны спакойныя, сціплыя, але ў іх сціплай гармоніі — вялікая моц і прыгажосць. Унутраная прыгажосць» [3, с. 206–207]. Сталы Ф. Скарына не размаўляе па-беларуску, але перакладае кнігі на родную мову і разважае: «Нічога ў гэтым свеце не бессэнсоўна. Навучыць Хрыста, апосталаў і вучняў ягоных гаварыць на іншай мове… Іначай запаведзі не дзейнічаюць. Яны не разумеюць, што святло ісціны пачынаецца з самага-самага роднага… З народам трэба, як з дзіцем, размаўляць. Размаўляй зараз, бо потым адзічэе, апусціцца… Час упусціш… Усё! Размаўляць» [3, с. 213]. Зноў гучыць біблейская прытча пра зерне: «Чаму добрае насенне так дрэнна прыжываецца на нашай зямлі? Падумайце, у чым можа быць прычына: у зямлі, у насенні, у садоўніку?» [3, с. 211] — пытаецца герой твора Падвіцкі ў Скарыны-садоўніка. У творы часта ўжываюцца аўтарскія фразеалагізмы: «ад праўды не ўцячэш», «ад сябе не схаваешся», «цывілізацыя азначаецца па ўзроўню садаводства, а цывілізаваная краіна пазнаецца па жанчынах», «дзяржаву трэба лячыць, бо яна можа аслабець і памерці», «нельга зневажаць жанчыну, гэта апошняя справа», «некаторыя землі не заслугоўваюць сваіх сыноў», «калі прывыкаеш да прыгажосці, то гэта ўжо не прыгажосць, яна існуе толькі ў здзіўленні» і іншыя. Дзеянне папераменна разгортваецца то ў юнацкія гады Скарыны, то ў гады сталасці (прыём рэтраспекцыі). Вобраз вады праходзіць праз твор як сімвал ачышчэння (Скарына ўвесь час п'е ваду). І сэнсавай кульмінацыяй твора з'яўляюцца словы асветніка аб бацьках і дзяржаве: «У кожнага чалавека ёсць бацькі: маці і тата. Закон Божы і Прыродны ўказвае кожнаму любіць і паважаць бацькоў сваіх, як і бацькам берагчы і песціць дзяцей сваіх <…> Дык чаму ж дзяржава наша, якая ёсць радзіцельніцаю ўсякага грамадзяніна

свайго, такая жорсткая і бязлітасная да лепшых дзяцей сваіх? Чаму ж з такой лёгкасцю адракаецца ад іх за нязначную правіннасць і непакорлівасць? Так, счарствела сэрца Літвы… А таму вельмі шмат блудных сыноў і дачок ліцвінскіх і з Полацка, і з Менска, і Навагрудка, Магілёва, Тракая, Вільні і ўсіх гарадоў і весяў ходзіць і будзе хадзіць па ўсіх канцах зямлі, адлучаныя ад маці з-за сваёй бяскрайняй любові…» [3, с. 251–252].

Са слабых бакоў п'есы можна адзначыць аналогію з драмай «Пане Коханку» (выкарыстанне вобраза крылаў і падабенства ў правядзенні вопытаў Леанардам да Вінчы і С. Радзівілам), залішні натуралізм у абмалёўцы вобраза першадрукара.

Характарызуючы драму А. Курэйчыка «Скорина», можна пагадзіцца з Т. Ратабыльскай, якая адзначыла, што «сучасныя драматургі не ствараюць канцэптуальную гістарычную драматургію, для іх гісторыя — гэта не столькі жыццёвая плынь мінуўшчыны, колькі крыніца сюжэтаўтварэння і фантазіі» [5, с. 26].

Больш як цэлае тысячагоддзе аддзяляе нашы дні ад падзей, якія пакладзены ў аснову сюжэта п'ес пра Ф. Скарыну, а колькі сугучнага адшукалі аўтары паміж дзвюма далёкімі эпохамі! Перш за ўсё вельмі цікава паказаны паралелі, як адбываўся тады і як адбываецца цяпер пакутліва-складаны працэс барацьбы паміж верамі.

Такім чынам, ствараюцца п'есы, якія накіраваны ўзнавіць лепшыя рысы нашага народа, абудзіць свядомасць, вывучыць гісторыю і зрабіць для сябе пэўныя высновы. Цікавасць да адвечных маральных, духоўных каштоўнасцей можна лічыць новай, недастаткова праяўленай, але выразнай тэндэнцыяй, якая, думаецца, абумовіць далейшае развіццё беларускай гістарычнай драматургіі і ўсяго пісьменства ўвогуле.

## Літаратура


1. Арочка, М. М. Судны дзень Скарыны: драматычная паэма / М. М. Арочка. — Мінск, 1991.
2. Клімковіч, М. Драматычныя паэмы / М. Клімковіч. — Мінск, 1947.
3. Курейчик, А. Скорина / А. Курейчик // Сборник современной русскоязычной драматургии Беларуси: для ст. шк. возраста; сост. С. Я. Гончарова-Грабовская. — Минск, 2010. — С. 198–253.
4. Петрашкевіч, А. Воля на крыжы: гістарычныя п'есы / А. Петрашкевіч. — Мінск, 2000.
5. Ратабыльская, Т. Герменеўтыка і сучасная драматургія / Т. Ратабыльская // Дыялогі вякоў: зборнік матэрыялаў навукова-практычнай канферэнцыі па праблемах сучаснай беларускай драматургіі. — Мінск, 2000.

# ЗВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ[1]

**Акушэвіч Андрэй Аляксандравіч —** аспірант кафедры гісторыі беларускай літаратуры філалагічнага факультэта БДУ

**Багдановіч Ірына Эрнстаўна** — кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры філалагічнага факультэта БДУ, старшыня Рэспубліканскага аддзялення ГА «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў»

**Бармоціна Алена Віктараўна** — аспірант кафедры беларускай літаратуры і культуры філалагічнага факультэта БДУ

**Белакурская Жанна Яўгенаўна** — кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры сучаснай беларускай мовы філалагічнага факультэта БДУ

**Белакурскі Валерый Міхайлавіч** — кандыдат філасофскіх навук, дацэнт кафедры філасофіі БДУКіМ

**Варонька Хрысціна Паўлаўна** — студэнтка 5 курса аддзялення «Беларуская філалогія» філалагічнага факультэта БДУ, семінар прафесара М. Р. Прыгодзіча

**Верына Ульяна Юр'еўна** — кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры рускай літаратуры філалагічнага факультэта БДУ

**Гаранін Сяргей Лявонцьевіч** — кандыдат філалагічных навук, намеснік дырэктара па навуковай рабоце Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі

**Гардзіенка Наталля —** кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры паліталогіі і гуманітарных дысцыплін Інстытута парламентарызму і прадпрымальніцтва

**Грудзінава Маргарыта Вячаславаўна —** аспірант Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі

**Грыневіч Таццяна Іванаўна —** саіскальнік кафедры гісторыі беларускай літаратуры філалагічнага факультэта БДУ

**Запрудскі Ігар Мікалаевіч** — кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры філалагічнага факультэта БДУ

**Казакова Таццяна Пятроўна** — кандыдат філалагічных навук, загадчык кафедры гісторыі беларускай літаратуры філалагічнага факультэта БДУ

**Кароткі Уладзімір Георгіевіч** — кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ

**Курловіч Ірына Мікалаеўна** — аспірант кафедры гісторыі беларускай мовы філалагічнага факультэта БДУ

---

[1] Даюцца на момант правядзення навуковых чытанняў.

**Ляўшун Любоў Віктараўна** — кандыдат філалагічных навук, загадчык сектара гісторыі беларускай літаратуры Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі

**Мальдзіс Адам Іосіфавіч** — доктар філалагічных навук, прафесар, ганаровы старшыня ГА «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў»

**Міронччык Яўген Іванавіч** — старшы выкладчык кафедры методыкі выкладання інтэграваных школьных курсаў ФДП БДПУ імя М. Танка

**Некрашэвіч-Кароткая Жанна Вацлаваўна** — кандыдат філалагічных навук, дактарант кафедры тэорыі літаратуры філалагічнага факультэта БДУ

**Рослік Таццяна Фёдараўна** — аспірант кафедры гісторыі беларускай мовы філалагічнага факультэта БДУ

**Саверчанка Іван Васільевіч —** доктар філалагічных навук**,** вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі

**Скарапанава Ірына Сцяпанаўна** — доктар філалагічных навук, прафесар кафедры рускай літаратуры філалагічнага факультэта БДУ

**Чэчат Марта Яўгенаўна** — лабарант лабараторыі ТСН філалагічнага факультэта БДУ

**Юрэвіч Лявон —** беларускі літаратуразнавец у Нью-Ёрку, ЗША

# ЗМЕСТ

**НОВЫЯ АСПЕКТЫ БЕЛАРУСКАГА СКАРЫНАЗНАЎСТВА І СКАРЫНІЯНЫ**

*Навукова-папулярнае выданне*

**Беларусіка = Albaruthenica**
**Кніга 35**

# ВІЛЕНСКІЯ ВЫДАННІ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ Ў КАНТЭКСЦЕ ЭПОХІ АДРАДЖЭННЯ

*Да 490-годдзя кнігадрукавання ў Вялікім Княстве Літоўскім*

*Матэрыялы IV Скарынаўскіх чытанняў*
*(Мінск, 27 красавіка 2012 г.)*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Ірына Багдановіч*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Наталля Кучмель*

Падпісана да друку 2.06.2014. Фармат 60x84 $^1/_{16}$.
Рызаграфія. Папера афсетная.
Ум. друк. арк. 8,6. Ул.-выд. арк. 8,33.
Наклад 100 асобнікаў. Зак. 285.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33,
тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ«Аргбуд».
ЛП № 02330/218 ад 14.04.14.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.